ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 10
30-га МАЯ 1934 г.



ЗМЕСТ






Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 89; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.



# Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё

(*К ітогам работы Ўсебеларускай канферэнцыі зотаўцаў*)

«Соцыялізм можа быць пабудован толькі на базе бурнага росту прадукцыйных сіл грамадства, на базе багацця прадуктаў і тавараў, на базе заможнага жыцця працоўных, на базе бурнага росту культурнасці» (**Сталін,** XVII партз'езд).

Рост прадукцыйнасці працы ў СССР грунтуецца перш за ўсё на арганізуючай ролі нашай партыі, на перавагах совецкай сістэмы, пры якой праца становіцца «справай чэсці, справай гонару, справай доблесці і геройства». Ён грунтуецца на высокай тэхніцы соцыялістычных прадпрыемстваў, на бурна павышаючымся ўзроўні тэхнічных ведаў працоўных мас Совецкага саюза. Лозунгі т. Сталіна—«Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё», «Большэвікі павінны аўладаць тэхнікай»—сталі сцягам мільёнаў.

XVII партз'езд зноў пацвердзіў сталінскае ўказанне адносна таго, што «пафас новага будаўніцтва» павінен быць дапоўнен у другой пяцігодцы «пафасам асваення новых заводаў і новай тэхнікі».

Новы статут партыі, прыняты на XVII з'ездзе, паставіў адным з абавязкаў кожнага члена партыі—«аўладаць тэхнікай сваёй справы, безупынна павышаючы сваю вытворчую кваліфікацыю».

Без ведаў новай тэхнікі, без ведання свайго агрэгата, без ведання вытворчага працэса, без імкнення правільна арганізаваць сваю работу ў новых умовах, нельга даць высокай прадукцыйнасці працы, нельга кіраваць брыгадай, цэхам, заводам, любым участкам соцыялістычнай будоўлі, нельга дабівацца павышэння матар'яльна-культурнага ўзроўню працоўных мас.

Нельга больш цярпець, калі добраякасныя сыравіна і матар'ялы часта ператвараюцца ў груды бракаваных вырабаў толькі таму, што рабочы не абучан, не ведае варштат, не ведае як не рабіць браку. На менскай абутковай фабрыцы імя Кагановіча, на віцебскай абутковай імя Лекерта адхіленні ад сортнасці з прычыны малой кваліфікацыі рабочых даходзілі да 40 проц. супроць 13 проц., прадугледжаных планам. На гомельскім шклозаводзе імя Сталіна бой і брак шкла дасягаў 40 проц. з-за тэхнічнай малапісьменнасці рабочых.

Нізкі тэхнічны ўзровень—тормаз нашага руху ўперад. Вось чаму барацьба за ўзброенасць рабочых і калгаснікаў тэхнікай, тэхнічнымі ведамі, барацьба за асваенне новай тэхнікі—адна з асноўных задач у выкананні плана другой пяцігодкі.

Але што значыць асвоіць новую тэхніку? Гэта значыць—дабіцца: 1) выпуску прадукцыі ў размерах не менш, чым гэта прадугледжана праектнай магутнасцю не толькі прадпрыемства, але і кожнага агрэгата і варштата паасобку; 2) правільнага рэжыму прадпрыемства і

паасобных агрэгатаў і машын; 3) поўнага захавання прадугледжаных праектам прадпрыемстваў і цэхаў тэхналагічных працэсаў і 4) поўнага выканання планаў і заданняў па прадукцыйнасці працы, сабекошту і якасці прадукцыі.

Рашаючы фактар у выкананні гэтых задач—узброенасць рабочых тэхнічнымі ведамі. Таму ініцыятыва ленінскага комсамола ў арганізацыі і правядзенні соцыялістычных тэхнічных экзаменаў набывае выключна агромнае значэнне.

Неабходная здача тэхмінімума, соцтэхэкзамен з'яўляюцца тымі рычагамі, пры дапамозе якіх масы ўцягваюцца ў барацьбу за аўладанне тэхнікай, у барацьбу за высокую якасць прадукцыі.

Гэта лішні раз паказала Ўсебеларуская канферэнцыя значкістаў-зотаўцаў лёгкай індустрыі, праведзеная 10—12 мая ў Віцебску.

* * *

Лёгкая прамысловасць БССР закончыла план 1933 г. з вялікім прарывам. План быў выканан толькі на 86 проц. Не лепш працавала наша лёгкая прамысловасць у першым квартале—план выканан на 93 проц., прычым асабліва нядобра з якасцю прадукцыі. Адна з асноўных прычын адставання нашай лёгкай прамысловасці—нізкая кваліфікацыя рабочых і адсутнасць рашучай барацьбы раду партыйных, асабліва прафесіянальных арганізацый за ўзброенасць рабочых тэхнічнымі ведамі. Даволі ўказаць, што ў мінулым годзе адна з нашых буйнейшых швейных фабрык «Сцяг індустрыялізацыі» была пад пагрозай закрыцця, бо выпускала выключна дрэнную прадукцыю. Брак даходзіў да 40 проц.

Рашэнне ЦК КП(б)Б аб правядзенні Ўсебеларускай канферэнцыі значкістаў «ЗОТ» па лёгкай прамысловасці выклікала масавае спаборніцтва паміж гарадамі і прадпрыемствамі на выкананне промфінплана, на заваяванне права правядзення ў сябе Ўсебеларускай канферэнцыі.

У рэзультаце за апошні час рашуча разгарнулася тэхвучоба. Калі на 1-І—34 г. на прадпрыемствах лёгкай прамысловасці было ахоплена тэхвучобай 8674 чал., то на 1-V ужо 15.763 чал.—рост амаль у два разы. Ёсць ужо не мала прадпрыемстваў, дзе амаль усе рабочыя ахоплены тэхвучобай: «завод «Большэвік» (Менск), «Сцяг індустрыялізацыі» (Віцебск), «Пролетарская перамога» (Барысаў). За апошні час значна палепшылася іх работа. Промфінплан выконваецца як па колькасных, так і якасных паказчыках.

**Вось некалькі фактаў. Віцебская фабрыка імя Клары Цэткін** у мінулым промфінплан не выконвала, а зараз з 1500 рабочых ахоплена тэхвучобай каля 900 чал., 350 здалі соцтэхэкзамен, з іх 253 на **выдатна,** а астатнія на **добра.** У рэзультаце план 1-га квартала выканан на 103 проц., красавіковы—на 104 проц., значна палепшылася якасць прадукцыі.

**Фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі»,** якая не выходзіла з прарыву, 1-ы квартал закончыла з добрымі паказчыкамі, дзякуючы разгортванню тэхвучобы. Раней у 18 гуртках па аўладанню тэхмінімумам займалася 700 чал., у сувязі-ж з падрыхтоўкай да Ўсебеларускай канферэнцыі зотаўцаў ахоплена тэхвучобай 2700 рабочых, 600 чал. здалі соцтэхэкзамен, з іх 350 на **выдатна,** астатнія на **добра.** 360 рабочых ударнікаў тэхвучобы за паспяховую здачу соцтэхэкзамена пераведзены з ніжэйшых разрадаў у вышэйшыя. Зараз на фабрыцы

28 сталінскіх брыгад, дзе працуе звыш 700 чал. Брак зніжан да 0,35 проц., замест планавых 0,75.

**Фабрыка «КІМ»** раней таксама не выходзіла з прарыву. Разгарнулі тэхвучобу—і ў рабоце дасягнут значны перадом: план першага квартала выканан на 106,5 проц., красавіковы—на 107 проц., Тэхвучобай ахоплена 1300 чал., каля 400 чал. здалі соцтэхэкзамен, з іх большая палова на **выдатна.**

**На заводзе «Большэвік»** (Менск) арганізавана 13 сталінскіх брыгад з зотаўцаў, здаўшых соцтэхэкзамен на **выдатна.** У гэтых брыгадах зотаўцы вывучаюць не толькі працэсы сваёй работы, але і ўсе працэсы вытворчасці.

На фабрыцы «Окцябр» (Менск) лепшыя ўдарныя брыгады—зотаўцы—сістэматычна перавыконваюць промфінплан.

Масавыя здачы рабочымі соцтэхэкзамена—гэтай вышэйшай формы спаборніцтва ў барацьбе за аўладанне тэхнікай—становяцца ў нас агульна-рабочай справай. Звыш 6.000 рабочых лёгкай прамысловасці БССР здалі соцтэхэкзамен, прычым 2.800—на **выдатна** і атрымалі значкі «ЗОТ». Так з месяца ў месяц пад кіраўніцтвам партыі растуць рады барацьбітоў за асваенне новай тэхнікі, за высокую якасць прадукцыі.

«Рэальнасць нашай праграмы—гэта жывыя людзі, гэта мы з вамі, наша воля да працы, наша гатоўнасць працаваць па-новаму, наша рашучасць выканаць план» (**Сталін**). Тысячы зотаўцаў-ударнікаў на нашых прадпрыемствах штодзеннай сваёй работай гэта даказваюць.

Возьмем к прыкладу маладую работніцу т. **Норкіну**—ударніцу-зотаўку з ф-кі «КІМ». Яна параўнаўча нядаўна працуе на фабрыцы. Мінула 2 гады як яна прышла туды з дзіцячага дома. Спачатку працавала няўпэўнена і робка, але захапілася рухам «ЗОТ» і цяпер сістэматычна перавыконвае сваю норму, здаўшы соцтэхэкзамен на выдатна. «Машына,—гавораць работніцы,—не паспявае за нашай Норкінай». Або т. **Канькова** з ф-кі імя Клары Цэткін. Не так даўно яна была калгасніцай, цяпер здала соцтэхэкзамен і заняла адно з вядучых месц на вытворчасці—атрымала званне ўчастковага механіка і высунута майстрам цэха.

Тав. **Грышаеў** з Гомельскай ф-кі «Праца». Тэхнічна няграматным працаваў на падручнай машыне і ніколі не выконваў нормы. Цяпер Грышаеў здаў соцтэхэкзамен на **выдатна**, заваяваў значок «ЗОТ». Над яго машынай вісіць надпіс: «Тут працуе значкіст». Сваю норму Грышаеў перавыконвае.

На ф-цы «Пролетарская перамога» (Барысаў) тэхвучобай ахоплена 900 чал. Здалі соцтэхэкзамен 490, з іх на **выдатна** 224 і на **добра** 213. Стругальшчык Гельфер да здачы соцтэхэкзамена зарабляў 150 р. у месяц, выпрацоўваючы 44—45 ляг, цяпер Гельфер робіць 50—52 лягі і давёў свой заработак да 190 руб. Тав. Гельфер гаворыць: «Раней машына ў сярэднім мела ў мяне 40 мінут тэхнічных прастояў у дзень, цяпер яны поўнасцю ліквідаваны. Калі я бачу ў машыне якую-небудзь няспраўнасць, я або сам яе выпраўляю, або своечасова папярэджваю манцёра».

Падобных прыкладаў не мала на любым прадпрыемстве, дзе партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі сапраўды канкрэтна заняліся тэхвучобай, аператыўна праводзяць соцтэхэкзамены.

Але трэба ўлічыць, што пры ўсіх каласальнейшых поспехах, тэхвучоба—гэта жывая справа мільёнаў—часта пускаецца на самацёк,

падмяняецца параднасцю, кампанейшчынай, шуміхай, агульнымі нічога не кажучымі зводкамі аб ліку здаўшых соцтэхэкзамен на выдатна, добра і здавальняюча.

На гомельскай абутковай ф-цы «Праца», якая абвясціла сябе фабрыкай суцэльнай граматнасці, яшчэ многія рабочыя не ахоплены тэхвучобай, а самі зотаўцы не даюць ні колькасных, ні якасных паказчыкаў у сваёй рабоце. На гомельскай шчацiннай экзамены на значок здаюць па 200 чал. адразу. На менскай ф-цы «Усход» тэхвучоба ідзе самацёкам, гурткі не забяспечаны ні праграмай, ні літаратурай. На гомельскім шклозаводзе, соцтэхэкзамен здалі 6 чал.

Тэхгурткі шклозавода «Окцябр» расцягнулі сваю праграму на 5 месяцаў і ператварыліся фактычна ў ФЗУ, ударыўшыся ў акадэмізм, адарваўшы вучобу ад фактычнай барацьбы за промфінплан. Нават на такой перадавой па тэхвучобе фабрыцы, як «КІМ», у тэхгуртках навучаюцца да 45 чал. без кіраўнікоў, без пастаяннай праграмы.

Аналагічных фактаў не мала на прадпрыемствах лёгкай і цяжкай прамысловасці (фабрыка імя Валадарскага, «Дзвіна» і інш.).

Такія скажэнні, як гэта справядліва падкрэсліла Ўсебеларуская канферэнцыя «ЗОТ», не дапамагаюць у выкананні сталінскага лозунга аўладання тэхнікай, а толькі шкодзяць яму, «садзейнічаюць насаджэнню на нашых прадпрыемствах ілжэ-значкістаў, людзей, якія адтарабанілі на экзамене, атрымалі значок, а інтарэсы вытворчасці адсунулі на задні план».

Ініцыятыва комсамола—здача соцтэхэкзамена—падхоплена масай. Рух за грамадска-тэхнічны экзамен і ператварэнне яго ў агульнарабочую справу ўзначальваецца партыйнымі і прафесіянальнымі арганізацыямі заводаў, фабрык, калгасаў. Аднак некаторыя гаспадарча-прафесіянальныя арганізацыі (фабрыка імя Валадарскага, «Усход», Гомшклозавод) усё яшчэ недаацэньваюць соцтэхэкзамена, пагарджаюць ім, як формай барацьбы за аўладанне тэхнікай.

Узначаліць арганізацыю мас за аўладанне тэхнікай—значыць не толькі прызнаць яе важнай, не толькі агітаваць за яе ў прамовах, дакладах, артыкулах, на канферэнцыях і сходах, але, засучыўшы рукавы, аператыўна, канкрэтна заняцца ёю ў штодзеннай буднічнай рабоце, унікаючы ў кожную дэталь.

Барацьба за тэхмінімум, за аўладанне мас тэхнікай павінна ацэньвацца перш за ўсё паводле таго, наколькі рабочы асвоіў тэхнічную канструкцыю і прынцыпы дзеяння рабочага інструмента, варштата, агрэгата, механізма, наколькі ён асвоіў тэхналагічны працэс свайго рабочага месца, наколькі ўмее карыстацца вымернымі і праверачнымі прыборамі на рабоце. А гэта значыць, што рабочы павінен абавязкова асвоіць тэхнічна гранічную магутнасць свайго варштата, агрэгата, механізма, не рабіць браку, не дапускаць пашкоджанняў, паломак. У гэтым—галоўнае, бо без гэтага тэарэтычна ўсвоеныя ў тэхгуртках пытанні не даюць права на здачу соцтэхэкзамена. Соцтэхэкзамен—гэта праверка таго, як рабочыя выконваюць тэхнормы, выпрацоўку, ці робяць брак, ці маюць паломкі і пашкоджанні абсталявання, варштата, агрэгата, механізма.

Тым часам здаўшыя соцтэхэкзамен нават на выдатна і атрымаўшыя значок «ЗОТ» не рэдка прадаўжаюць даваць брак.

Значок «ЗОТ», як падкрэсліла Ўсебеларуская канферэнцыя зотаўцаў,—не дарма даецца. Яго трэба заваяваць, і больш таго,—утры-

мацъ. А ўтрымаць значок можа толькі той выдатнік, які здолеў набытыя тэхнічныя веды накіраваць на павышэнне прадукцыйнасці працы, на выкананне сваіх вытворчых абавязкаў. «Нашым лозунгам павінна быць: выдатнік не ведае, што такое невыкананне плана і дрэнная якасць, выдатнік—гэта ўдарнік вытворчасці, які добра аўладаў тэхнікай вытворчасці і машын» (з адозвы Ўсебеларускай канферэнцыі зотаўцаў).

Недарма Ўсебеларуская канферэнцыя пастанавіла сістэматычна правяраць работу зотаўцаў і ў той-жа час забяспечыць нармальныя заняткі для значкістаў-зотаўцаў, каб павысіць іх тэхнічныя веды ў аб'ёме хоць-бы сярэдняй школы.

На ўсіх прадпрыемствах неабходна арганізаваць тэхнічныя габінеты для кансультацыі выдатнікаў і дапамогі ім у далейшым павышэнні кваліфікацыі.

Усю сілу партыйна-масавай работы накіраваць на вырашэнне задачы аўладання тэхмінімумам. Трэба забяспечыць партыйнае вока, узяць пад грамадскі кантроль змест тэхвучобы, яе формы, метады падрыхтоўкі да соцтэхэкзамена. Ацэнка, залік, праверка, кваліфікацыйнай камісіяй, мае агромнае палітычнае значэнне. Гэта сугуба адказная справа павінна быць узначалена партыйнымі арганізацыямі з мэтай яшчэ больш магутнага ўздыму рабочых на аўладанне тэхнікай.

Нельга не адзначыць яшчэ адзін з істотных недахопаў у пастаноўцы соцвучобы на прадпрыемствах: у тэхвучобу слаба ўцягваюцца некваліфікаваныя рабочыя. Бясспрэчна, кваліфікаваная частка рабочага класа павінна быць у авангардзе барацьбы за тэхніку, але нельга ні на мінуту забываць, што ў барацьбу за аўладанне тэхнікай павінны быць уцягнуты і малакваліфікаваныя рабочыя, якія нядаўна прышлі на вытворчасць, бо яны, дзякуючы сваёй тэхнічнай малаграматнасці, часта бываюць асноўнымі віноўнікамі зрыву вытворчай праграмы і нізкай якасці прадукцыі.

Уздым справы соцыялістычнага спаборніцтва, асабліва з мэтай лепш асвоіць новую тэхніку і новыя вытворчасці, патрабуе канкрэтнага, аператыўнага кіраўніцтва партыйных і прафесіянальных арганізацый. Партыйныя камітэты павінны значна ўзмацніць дапамогу і кіраўніцтва соцтэхэкзаменамі, накіроўваючы адпаведным чынам работу профсаюзных арганізацый, дапамагаючы камсамолу і заводскім арганізацыям. Комуністы павінны быць у першых радах барацьбітоў за аўладанне тэхнікай, за здачу соцтэхэкзамена. Комуніст павінен тэарэтычна і практычна аўладаць тэхнікай сваёй справы, здаць соцтэхэкзамен на выдатна. Комуніст—не толькі перадавік у здачы соцтэхэкзамена, ён павінен,

> «як член кіруючай партыі ў совецкай дзяржаве, быць узорам захавання працоўнай дзяржаўнай дысцыпліны, аўладаць тэхнікай сваёй справы, безупынна павышаючы сваю вытворчую кваліфікацыю» (статут ВКП(б) ).

Мы маем бясспрэчныя поспехі ў справе аўладання тэхнічным мінімумам, у пастаноўцы і здачы соцтэхэкзаменаў. Але яны яшчэ недастатковы на фоне прад'яўляемых нам зараз соцыялістычным будаўніцтвам патрабаванняў.

Усебеларуская канферэнцыя зотаўцаў дала значны штуршок барацьбе за аўладанне тэхнікай. Трэба дабіцца, каб вопыт канферэнцыі стаў набыткам усіх рабочых і каб яе рашэнні праводзіліся ў жыццё.

Трэба самым рашучым чынам ударыць па такога роду настроях, што, моў, здачай тэхэкзамена заканчваецца тэхвучоба рабочых.

Тэхвучоба павінна быць арганічнаю часткай работы нашых прадпрыемстваў. Барацьбу за павышэнне тэхнічных ведаў рабочага трэба весці пастаянна, дабіваючыся безупыннага росту тэхнічных ведаў рабочых.

Каб выканаць колькасныя і асабліва якасныя паказчыкі другой пяцігодкі, мы абавязаны падняць тэхнічныя веды рабочых да ўзроўню развіцця ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Вырашыць гэта магчыма толькі тады, калі барацьба за аўладанне тэхнікай стане сапраўды штодзённай справай усіх рабочых і калгасных мас.

---

**М. Брыскін**

# Разгортванне тавараразвароту і промкааперацыя

Гістарычныя рашэнні XVII партыйнага з'езда паставілі перад мясцовай прамысловасцю, як адну з асноўных задач, узмоцненае разгортванне вытворчасці тавараў шырспажыву. Мясцовая прамысловасць павінна адыграць вялікую ролю ў разгортванні тавараразвароту. Аб значэнні мясцовай прамысловасці тав. Сталін адзначыў у дакладзе на XVII партз'ездзе:

> «развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырспажыву і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі».

У рэзалюцыі XV з'езда КП(б)Б па дакладу тав. Гікало ўказана:

> «з'езд падкрэслівае агромную адказнасць усёй КП(б)Б у справе рашучага палепшання работы лёгкай і харчовай прамысловасці і промкааперацыі, асабліва ў сувязі з пастаўленай тав. Сталіным задачай падвоіць і патроіць вытворчасць тавараў шырспажыву ў другой пяцігодцы».

Гэтыя рашэнні ўскладаюць на прамысловую кааперацыю важнейшыя задачы: арганізаваць новыя вытворчасці па выпуску прадметаў шырспажыву і пераключыць існуючыя для максімальнага пашырэння вырабу прадметаў шырспажыву.

Прамысловая кааперацыя БССР з яе шырока разгалінаванай сеццю арцелей можа стаць значным фактарам павелічэння агульнай масы прадукцыі шырспажыву і давядзення яе да спажыўца.

Прамысловая кааперацыя БССР у выпуску прадукцыі шырспажыву (паводле даных народна-гаспадарчага плана 1934 г.) мае наступную ўдзельную вагу (у млн. руб.):

| | Сума | Проц. к ітогу |
|---|---|---|
| Прамысловасць НКснаба (рэспуб. і саюзная) . . . . . . | 132 | 26,4 |
| Лёгкая прамысловасць. . . . | 216 | 43,2 |
| Цяжкая прамысловасць . . . | 12 | 2,4 |
| Промкааперацыя (без лясной). . | 138,8 | 28,0 |
| Разам. . | 498,8 | 100 |

З агульнай масы прадукцыі шырспажыву прызначана к рэалізацыі па лініі рыначнага фонда (праз тавараправодзячую сець да індывідуальнага спажыўца) 130 міл. рублёў.

Ці справілася промкааперацыя з пастаўленымі перад ёю важнейшымі задачамі?

Вынікі работы сістэмы за 1933 г. па выкананню промфінплана ў цэлым і па шырспажыву сведчаць аб недапушчальным адставанні ў рабоце промкааперацыі. Даволі ілюстраваць гэта тым, што план промкааперацыі ў 1933 г. выканан на 62,5 проц. Асабліва важна падкрэсліць, што абсалютная сума прадукцыі шырспажыву зменшылася ў параўнанні з 1932 г. са 103,3 млн. руб. у 1932 г. да 99,7 млн. руб. у 1933 г.

На 1934 год план выпуску прадукцыі шырспажыву па сістэме складае 138,8 млн. руб., якія размяркоўваюцца па промыслах наступным чынам:

| Галіны прамысловасці | Сума прадукцыі | | Проц. к ітогу | |
|---|---|---|---|---|
| | 1933 г. | 1934 г. | 1933 г. | 1934 г. |
| Металічная . . . . . . . . | 6,6 | 10,8 | 6,6 | 7,8 |
| Сілікатна-ганчарная . . . . . | 1,3 | 2,5 | 1,3 | 1,8 |
| Хімічная. . . . . . . . . | 2,0 | 2,8 | 2,0 | 2,0 |
| Скур-абутк. і мех. . . . . . | 20,5 | 30,9 | 20,5 | 22,3 |
| Бота-валяльная. . . . . . . | 1,6 | 1,8 | 1,6 | 1,3 |
| Тэкст-ткацкая . . . . . . . | 10,9 | 10,4 | 10,9 | 7,5 |
| Швейная . . . . . . . . | 36,6 | 51,9 | 36,6 | 37,4 |
| Панчошна-трыкат. . . . . . | 7,5 | 9,0 | 7,5 | 6,5 |
| Галантарэйная . . . . . . . | 1,7 | 2,4 | 1,7 | 1,7 |
| Харчасмакавая. . . . . . . | 9,3 | 13,9 | 9,3 | 10,0 |
| Утылізац. і інш. . . . . . . | 1,7 | 2,4 | 1,7 | 1,7 |
| Разам . . | 99,7 | 138,8 | 100 | 100 |

Гэтыя адказныя задачы па павелічэнню выпуску прадукцыі шырспажыву ў 1934 г. на 39,2 проц. у параўнанні з 1933 г. выконваюцца, як паказваюць ужо справаздачныя даныя гэтага года, вельмі нездавальняюча. План 1 квартала па выпуску прадукцыі шырспажыву выканан толькі на 84,7 проц. Недадана прадукцыі шырспажыву на 4958 тыс. руб.

Асноўныя прычыны невыканання промфінплана:

1. Кіраўніцтва Промсовета і саюзаў у значнай меры прадаўжае працаваць па-старому. Паасобныя промсаюзы (гомельскі швейпромсаюз, віцебскі швейпромсаюз, віцебскі скурпромсаюз) адарваны ад вытворчасці і да апошняга часу не перабудавалі сваю арганізацыйна-

гаспадарчую работу ў адпаведнасці з рашэннямі XVII партыйнага з'езда.

2. У радзе арцелей зусім недастатковая барацьба за якасць прадукцыі (Віцебская швейная «Уперад», Оршанская металічная, Дзержынская швейная). Адначасова з гэтым маюць месца выпадкі ігнаравання спажыўца ў пытаннях асартымента і якасці прадукцыі.

Тэндэнцыю абмежавацца выкананнем промфінплана толькі па колькасных паказчыках, пакінуўшы ў цені пытанні барацьбы за якасныя, можна бачыць нават і ў лепшых арцелях.

У барацьбе за якасць і асартымент прадукцыі слаба ўдзельнічае спажыўкааперацыя, якая часта праяўляе ліберальныя адносіны да арцелей, выпускаючых брак, аб чым сведчаць факты выдачы ЗРК і ЦРК даведак арцелям аб зусім добрай якасці прадукцыі (Барысаў, Бабруйск і інш.).

3. Слабая палітвыхаваўчая работа ў арцелях, зусім недастатковае развіццё соцспаборніцтва і ўдарніцтва (27,5 проц.), якое часта падмяняецца штурмамі па ліквідацыі прарываў. Партыйна-масавая работа яшчэ не ва ўсіх арцелях перабудавана ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда. Арганізацыя гурткоў па аўладанню тэхнікай, павышэнне кваліфікацыі рабочых і мабілізацыя мас арцельшчыкаў на выкананне промфінплана—усё гэта пытанні, якімі займаюцца ад выпадку да выпадку.

Перад сістэмай промкааперацыі стаіць актуальная задача—не толькі забяспечыць колькаснае выкананне праграмы, але і рашуча заняцца палепшаннем якасці і асартымента прадукцыі.

Планам 1934 года намечана ўзняць удзельную вагу прадукцыі шырспажыву па ганчарнай вытворчасці і швейнай, каб павялічыць выпуск сельскага асартымента. Унутры паасобных вытворчасцей адбываецца таксама значная перагрупоўка асартымента тых вырабаў, попыт на якія сягоння яшчэ поўнасцю не здавальняецца. Так, па сістэме панчошна-трыкатажнай вытворчасці, замест выпускаўшагася раней аднастайнага асартымента (дамскія панчохі), значна павялічваецца ў 1934 г. вытворчасць наскоў, дзіцячых панчох і верхняга трыкатажа, што ілюструецца наступнай табліцай:

| Назва асартымента | Адзінкі ўліку | Колькасць | | Проц. росту |
|---|---|---|---|---|
| | | 1933 г. | 1934 г. | |
| Панчохі дзіцячыя . . . . | тыс. дзес. | 50,0 | 85,6 | 71,2 |
| Наскі . . . . . . . . | „ | 92,0 | 126,5 | 37,5 |
| Штучн. трыкатаж . . . . | тыс. штук | 208,0 | 407,0 | 95,7 |

Па металаапрацоўцы, пры павелічэнні ўсёй прадукцыі 1934 г. у параўнанні з 1933 г. на 55,3 проц., прадукцыя шырспажыву павялічваецца на 63,8 проц. і ўдзельная вага шырспажыву з 68,4 проц. у 1933 г. павялічваецца да 72,1 проц. у 1934 г.

Выключыўшы з агульнай сумы прадукцыі шырспажыву тую частку, якая выпрацоўваецца з сыравіны заказчыкаў і давальцаў і па непасрэднаму абслугоўванню спажыўца (рамонт, грамадскае харчаванне), то сума прадукцыі шырспажыву, якая мае быць рэалізавана праз

тавараправодзячую сетку, складае 66 млн. руб. (па адпускных цэнах прамысловасці) і размяркоўваецца:

1. Спажыўкааперацыі . . . . . 30 міл. руб.
2. Дзяржгандлю . . . . . . . 9 „ „
3. Інш. гандлёвым арганізацыям (уключаючы орсы) . . . . . 11 „ „
4. Сваёй розніцы . . . . . . . 16 „ „

Значная ўдзельная вага спажыўкааперацыі ў рэалізацыі прадукцыі промкааперацыі, непасрэдная сувязь паміж арганізацыямі спажыўкааперацыі і промкааперацыі, асабліва ў сельскіх мясцовасцях, ускладае на спажыўкааперацыю пэўныя абавязкі па стымуляванню ўсё большага і большага выпуску прадукцыі арцелямі шырспажыву, павялічваючы гэтым ролю промкааперацыі ў тавараразвароце. Спажыўкааперацыя павінна садзейнічаць арцелям, прадастаўляючы ім сыравіну для перапрацоўкі, у прыватнасці швейнаму промыслу, адпускаючы сыравіну сваіх загатовак (рогі, капыты і інш.), што значна можа павялічыць таварныя рэсурсы.

Сувязь са спажыўкааперацыяй павінна быць таксама значна ўзмоцнена праз сумеснае скліканне канферэнцый спажыўцоў па пытаннях якасці і асартымента прадукцыі, а таксама ўкараненне ў практыку сістэмы папярэдніх заказаў.

Значнае месца ў рабоце сістэмы павінна быць адведзена арганізацыі новых вытворчасцей.

Асваенне арцелямі вытворчасці цацак і музыкальных інструментаў трэба рашуча ўзмацніць. Гэтыя промыслы павінны заняць належнае месца ў рабоце сістэмы. Неабходна таксама ў найкарацейшы тэрмін прыступіць да выпуску мастацкіх вырабаў з гліны,—гэта работа ўсё яшчэ носіць характар вопытаў. Па ткацкай прамысловасці неабходна, ва што-б там ні стала асвоіць вытворчасць сарпінкі, на якую попыт агромны. Пытанні асваення новых вытворчасцей шырспажыву павінны стаць у цэнтры ўвагі кіраўніцтва саюзаў і арцелей.

Улічваючы, што пераважная большасць прадукцыі промкааперацыі ідзе для мясцовага спажывання і толькі нязначная частка рэалізуецца за межамі рэспублікі, на промкааперацыю ўскладаецца велізарная адказнасць за своечасовую рэалізацыю сваёй прадукцыі, тым больш, што ў радзе раёнаў яна адыгрывае рашаючае значэнне. Агульная ўдзельная вага сістэмы промкааперацыі ў выпуску прадукцыі шырспажыву (28 проц.) па асобных раёнах значна павышаецца і даходзіць да 60—70 проц. (Асвейскі раён, Заслаўскі, Капыльскі, Бешанковіцкі і інш.).

У рашэннях XVII партыйнага з'езда завастраецца ўвага ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый на неабходнасць больш увагі ўдзяліць рабоце мясцовай прамысловасці, як дадатковай крыніцы вытворчасці шырспажыву і пашырэння тавараразвароту ў раёнах. Аднак, цэлы рад мясцовых арганізацый праяўляе саноўна-барскія адносіны да промкааперацыі, не дапамагаюць арцелям, што адзначана ў пастанове СНК БССР ад 15 мая 1934 г.

Дапамога і ўвага мясцовых арганізацый промкааперацыі палегчыць ёй барацьбу за выкананне промфінплана арцелямі і пашырэнне тавараразвароту.

Адзін з рашаючых момантаў, якія забяспечваюць узмоцненае выкананне промфінплана,—гэта палепшанне матар'яльна-бытавога становішча арцельшчыкаў. Пры арцелях у першую чаргу павінны

быць арганізаваны падсобныя с.-г. прадпрыемствы—гароды, свінарнікі, каапгасы і т. д. для стварэння ўласнай харчовай базы, а таксама адкрытыя сталовыя. У гэтых адносінах значным крокам уперад з'яўляецца асваенне 3000 га зямлі ў 1934 г. пад падсобныя гаспадаркі арцельшчыкаў.

Задача сістэмы зводзіцца цяпер к таму, каб у найкарацейшы тэрмін і без страт сабраць ураджай і правільна яго размеркаваць. У 1933 г. саюзы недастаткова кіравалі гэтай справай. У цэлым радзе арцелей практыкавалася ўраўнілаўка, ураджай размяркоўваўся незалежна ад колькасці і якасці работы арцельшчыкаў.

Пры размеркаванні ўраджаю 1934 г. павінна быць забяспечана пераважнае снабжэнне ўдарнікаў. Сельгаспрадукты павінны размяркоўвацца ў непасрэднай залежнасці ад колькасці і якасці работы арцельшчыка. Уся работа па размеркаванню ўраджаю павінна праходзіць пры непасрэдным кіраўніцтве саюза.

Работа сталовых сістэмы таксама павінна быць перабудавана: палепшана якасць харчавання, зніжан кошт, забяспечана лепшае абслугоўванне ўдарнікаў.

Мясцовыя арганізацыі могуць значна дапамагчы арцелям у стварэнні ўласнай харчовай базы своечасовым адводам зямельных участкаў.

Прамысловая кааперацыя, акрамя вырабу тавараў шырспажыву, павінна яшчэ практычна ўдзельнічаць у прасоўванні тавараў да спажыўца, арганізуючы для гэтага ўласны розьнічны гандаль. Такім чынам наладзіцца непасрэдная сувязь промкааперацыі са спажыўцамі, што дасць магчымасць вывучаць іх попыт, а таксама паскорыць прасоўванне тавараў да спажыўца, мінуючы прамежныя інстанцыі. Аднак і ў разгортванні гандлю арцелі промкааперацыі не выконваюць сваіх планаў. План розьнічнага гандлю за 4 месяцы 1934 г. выканан на 77,1 проц.

Цэлы рад арцелей недаацэньвае значэння правільнай арганізацыі ўласнага розьнічнага гандлю, часта праз сваю розніцу прапускаючы тавары, забракаваныя пры аптовай «рэалізацыі» (арцель «Каапершлях»—Гомель). Падобная практыка розьнічнага гандлю нічога агульнага не мае з пастаўленымі перад сістэмай задачамі ў галіне пашырэння таваразвароту.

Розьнічны гандаль арцелей павінен выключную ўвагу ўдзяліць сваім гандлёвым точкам, каб ператварыць іх у ачагі совецкага культурнага гандлю, падбіраючы добры асартымент тавараў высокай якасці, паляпшаючы абслугоўванне спажыўца.

Паралельна з развіццём і ўмацаваннем стацыянарнай гандлёвай сеці павінен быць пашыран метад развазнога гандлю і разавыя выхады на рынкі, асабліва ў мястэчках і сельскіх мясцовасцях, з кавальнымі і ганчарнымі вырабамі сельскага асартымента. Гэтым будзе ліквідавана затаварванне адных раёнаў пэўнымі відамі вырабаў і востры недахоп іх у другіх.

Неабходна прадаўжаць неаслабную барацьбу з бракаробамі, жорстка караць кіраўнікоў арцелей, ігнаруючых пастановы партыі і ўрада аб палепшанні якасці прадукцыі, вытравіць нядбайныя адносіны да якасці прадукцыі, палепшыць пастаноўку бракеража, пашырыўшы яго на ўсе працэсы вытворчасці.

Праведзеная сістэмай работа па зніжэнню цэн у адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 26/IV-33 г. «Аб цэнах на прадукцыю промкааперацыі», выданне прэйскурантаў мае той недахоп, што слаба

ўвязана з сістэматычнай барацьбою за якасныя паказчыкі, за зніжэнне сабекошту, якое павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсёй сістэмы.

Агромная дапамога і ўвага, якія аказваюцца промкааперацыі Цэнтральным Камітэтам партыі, ускладае на ўсе звенні кіраўніцтва сістэмы і арцельны актыў абавязак змагацца за поўнае выкананне вытворчай праграмы, асабліва шырспажыву, штодзенна паляпшаць якасць прадукцыі, памятаючы ўказанне тав. Сталіна, што трэба

> «палепшыць якасць выпускаемых тавараў і сурова караць усіх тых таварышоў, не гледзячы на асобы, якія парушаюць або абыходзяць законы совецкай улады па якасці і камплектнасці прадукцыі».

Мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі павінны моцна памятаць указанні тав. Молатава на XVII партз'ездзе:

> «Няправільна таксама ігнараваць агромныя магчымасці далейшага росту саматужнай прамысловасці. Не гледзячы на быстры ўздым дзяржаўнай прамысловасці, саматужная прамысловасць можа і павінна даць немалую долю дадатковай прадукцыі для мясцовых рынкаў, а таксама для абслугоўвання прамысловасці падсобнымі відамі вырабаў і будматэр'ялаў».

---

**Ліскові**

# Перабудаваць работу профарганізацый

Велізарнай важнасці задачы пастаўлены перад краінай дыктатуры пролетарыята ў рашэннях XVII з'езда партыі—з'езда пераможцаў.

Нам прадстаіць канчаткова ліквідаваць капіталістычныя элементы і класы наогул, цалкам знішчыць прычыны, якія параджаюць класавыя адрозненні і эксплаатацыю, перамагчы перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, завяршыць тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі, дабіцца далейшага ўздыму дабрабыту рабочых і калгасных мас.

Профсаюзы, як самая масавая арганізацыя пролетарыята, як школа комунізма, павінны з усёй сур'ёзнасцю ўлічыць сваю агромную адказнасць за ажыццяўленне гэтых сусветна-гістарычных задач.

Без рашучай арганізацыйнай перабудовы профсаюзы не справяцца з задачамі, пастаўленымі перад нашай краінай і перад рабочым класам у рашэннях XVII з'езда партыі, у геніяльным адчоце правадыра партыі і сусветнага пролетарыята, тав. Сталіна.

У профсаюзах, дзе сутнасць работы аснована на сталай сувязі з масамі, веданні іх патрэб і штодзенным іх абслугоўванні,—сапраўдны арганізатар патрэбен больш, чым дзе-б там ні было. Арганізатар барацьбы за аўладанне тэхнікай, арганізатар ударных брыгад, арганізатар рабочага вынаходніцтва, барацьбіт за жалезную вытворчую дысцыпліну, за матар'яльна-бытавыя патрэбы кожнага рабочага,—вось тып профработніка ў нізавым звяне, дзе практычна ажыццяўляюцца рашэнні партыі і ўрада.

У рашэннях XVII з'езда ВКП(б), у прамовах тт. Сталіна і Кагановіча рэзка падкрэслена неабходнасць усім арганізацыям (калі мы па-сапраўднаму, па-баявому хочам працаваць) перабудавацца так, каб уся штодзенная практыка саюзаў стала большэвіцкі-арганізатарскай. Трэба змагацца за такія метады і формы профработы, якія-б раз station назаўсёды выкарчавалі з нашай практыкі зверху данізу элементы бюракратызма, няведанне жывых людзей, балбатню. Гэтага можна дабіцца тады, калі мы здолеем на падставе рашэнняў XVII з'езда «арганізаваць творчую актыўнасць ударнікаў і ўсіх членаў профсаюзаў» **(Кагановіч).**

З дня апублікавання рашэнняў XVII з'езда партыі прайшоў вялікі тэрмін для перабудовы профсаюзаў. Трэба хоць-бы ў грубых рысах падвесці вынік таму, што зроблена для правядзення ў жыццё гэтых рашэнняў.

IV-ы пленум ЦСПСБ, абгаварваючы спецыяльна пастаўленае пытанне аб праламленні рашэнняў XVII з'езда у рабоце профсаюзаў, прама запісаў, што рашэнні XVII з'езда не знайшлі яшчэ практычнага праламлення ў рабоце большасці профарганізацый БССР. Для дапамогі профарганізацыям у перабудове профработы была кінута

ў найбольш рашаючыя прамысловыя раёны значная колькасць кіруючага профактыва. Работа брыгад на месцах, падрыхтоўчая работа, праведзеная на цэлым радзе прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, у сувязі з Усебеларускай канферэнцыяй выдатнікаў тэхвучобы, падрыхтоўка к 1-му мая, рад практычных мерапрыемстваў, якія забяспечылі якаснае і своечасовае сканчэнне сяўбы ў прыгарадных гаспадарках і надзяленне 43.000 рабочых індывідуальнымі гародамі,— усё гэта дае багаты малюнак таго, як пачынаюць **па-новаму** працаваць профсаюзы.

Мы маем зараз бясспрэчную раскачку ў дзейнасці раду профарганізацый. Там, дзе ў аснову былі пакладзены рашэнні XVII з'езда ВКП(б), дзе таварышы, закасаўшы рукавы, змагаліся сапраўды пабольшэвіцку,—перабудова дае свае рэзультаты ў барацьбе за рашаючыя задачы другой пяцігодкі (промфінплан, сяўба, культурна-бытавыя пытанні).

Бярэм для прыкладу скурзавод «Большэвік». Заўком, цэхорг, профгрупа і профарганізатар работу па перабудове цесна звязалі з барацьбой за колькасныя і якасныя паказчыкі промфінплана. Перабудова профарганізацый гэтага завода пачалася знізу—з брыгады, участка. Асноўны ўпор у барацьбе за промфінплан узят на правільную пастаноўку гаспадарчага разліку ў брыгадзе. Тэхпромфінплан, які ва ўмовах БССР усё яшчэ з'яўляецца навіной, на заводзе «Большэвік» стаў **асноўным звяном** у барацьбе за вытворчыя заданні. Тэхпромфінплан даведзен да брыгады, да кожнага паасобнага рабочага. Завод «Большэвік», дзякуючы моцнай ініцыятыве профарганізацый, з'яўляецца зараз **заводам суцэльнага гаспадарчага разліку, суцэльнага профчленства, амаль суцэльнага ахвату рабочых тэхвучобай.** Інстытут грамадскіх тэхнарукаў, тэхкансультацыі, пазыка тэх'ідэй—большэвіцкая ініцыятыва профарганізацый і рабочых-энтузіястаў завода «Большэвік». Вакол заўкома скалочан моцны профактыў—46 профарганізатараў, 42 групарганізатары, 45 страхавых дэлегатаў. Недарма заўком завода «Большэвік» ва Ўсесаюзным спаборніцтве на лепшы ФЗМК атрымаў ганаровую грамату ВЦСПС.

У завода «Большэвік» аспрэчвае пяршынства па перабудове прафработы фабком Магілеўскай шоўкавай фабрыкі, які па цэламу раду паказчыкаў таксама заняў адно з перадавых месц у БССР. За добрыя паказчыкі перабудовы, за ўменне па-большэвіцку змагацца за план, фабрычныя профарганізацыі шоўкавай фабрыкі таксама прэміраваны граматай ВЦСПС.

Змагаючыся за выкананне рашэнняў XVII з'езда партыі, цэлы рад профарганізацый, раней адстаўшых у рабоце, зараз выходзяць у рады перадавых. Фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», «Клары Цэткін», якія да гэтага часу не выходзілі з прарываў, праграму 1-га квартала 1934 г. выканалі больш, як на 100 проц.

У чым «сакрэт» перамог гэтых фабрык? У тым, што, узброіўшыся рашэннямі XVII з'езда партыі, профарганізацыі гэтых прадпрыемстваў, пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый, здолелі дабіцца неабходнага і сапраўднага пералому ў рабоце.

Возьмем фабрыку «Сцяг індустрыялізацыі». Тут узнікла ідэя арганізаваць спаборніцтва брыгад на права прысваення імя правадыра нашай партыі т. Сталіна. У аснову спаборніцтва было пакладзена выкананне промфінплана, рашучая барацьба з бракам, за суцэльны ахват брыгад тэхвучобай, за тое, каб не мець парушальнікаў працдысцыпліны, арганізаваць сапраўды гаспадарчы разлік і штодзенны

выпуск брыгадных газет. Толькі тая брыгада атрымлівала назву правадыра, якая выконвала гэтыя ўмовы.

Фабком па-сапраўднаму, з бальшэвіцкай аперацыйнасцю паставіў справу разгортвання сталінскіх брыгад. Гэта выразілася ў штодзенным кантролі таго, як выконвае кожная брыгада даныя ўмовы, у разгортванні цэлай сумы мерапрыемстваў па заахвочванню яе ўдзельнікаў і т. д. К 1 мая 11 брыгадам прысвоена імя тав. Сталіна, а 17 з'яўляюцца кандыдатамі на атрыманне гэтай назвы. У выніку разгортвання гэтай новай і выключна каштоўнай формы спаборніцтва фабрыка ўпершыню за час свайго існавання цалкам выканала квартальны план, вытворчы брак зведзен амаль да нуля. Брыгады сталі цэнтральным звяном усёй работы партыйных і профсаюзных арганізацый фабрыкі. Вырас моцны профактыў. Профарганізатар стаў сапраўды цэнтральнай фігурай у барацьбе за промфінплан, за палепшанне добрабыту рабочых.

Можна назваць рад профарганізатараў, якія сапраўды адпавядаюць тыпу профработніка, неабходнага нам для ажыццяўлення грандыёзных задач другой пяцігодкі. Праформ касцюмнага цэха т. **Свістунова** выключную ўвагу звярнула на расстаноўку профактыва. Двое адказваюць за масавую работу, за праверку якасці прадукцыі, астатнія выконваюць адначасова ролю рабкораўскага паста ў цэхавай насценгазеце, а такіх пастоў у цэху арганізавана 6. Перыядычна склікаюцца як па-брыгадна, так і па цэхах нарады профактыва для **абмену вопытам** работы. Гэты стыль работы профарганізатара тав. Свістуновай уласцівы і профарганізатарам—тт. Мельнікавай, Эйдус і інш. Недарма на сваіх участках і ў брыгадах яны перавыконваюць промфінплан, даючы не менш 110—**120 проц.**

Завод Мяснікова раней не выконваў свайго промфінплана. Пасля перастаноўкі сіл, перанясення цэнтру цяжару ўсёй работы ў брыгаду, на ўчастак, становішча карэнным чынам змянілася. К майскім дням усе рашаючыя цэхі выканалі сваю вытворчую праграму ад 116 проц. (вагона-зборачны) да 180 проц. (дрэваапрацоўчы). Лепшыя арганізатары соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ініцыятары разгортвання сталінскіх брыгад—праформгі **Ждановіч і Дзяткоў.**

Калі да пленума ЦСПСБ профсаюзы не асабліва маглі пахваліцца разгортваннем соцтэхэкзаменаў—гэтай новай формы соцспаборніцтва ў барацьбе за тэхніку, то зараз гэта вельмі каштоўная ініцыятыва комсамола на прадпрыемствах, асабліва лёгкай прамысловасці, дала ўжо пэўныя рэзультаты. Напр., з 800 рабочых Палесдруку (Гомель) тэхвучобай ахвачана 516. Гомельская абутковая фабрыка «Труд» увесь час была ў прарыве як па колькасных, так і якасных паказчыках. Профарганізацыя ўважлівей падышла да тэхвучобы, і фабрыка ў красавіку стала выходзіць з прарываў.

Профарганізатар ухапіўся за асноўнае звяно: вытворча-масавую работу, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, асабліва ў яго новых формах. (соцтэхэкзамены, матар'яльна-бытавыя пытанні). Роля цэхпрофорга і профгрупарганізатара значна ўзрасла, што відаць з прыведзеных вышэй фактаў і з практыкі работы паасобных профарганізатараў заводаў «Большэвік», «Варашылава», «Комунар», фабрык «Сцяг індустрыялізацыі», «Клары Цэткін» і т. д. Асабліва каштоўна практыка апошніх прадпрыемстваў, дзе ўпор у перабудове зроблен на брыгаду. На гэтых прадпрыемствах па-сапраўднаму зразумелі сутнасць перабудовы, якая ідзе знізу і ўзначальваецца кіруючымі профарганізацыямі. У гэтым сакрэт поспеху раду профарганізацый.

Адзначаныя дасягненні ў практыцы некаторых профарганізацый пакуль што адзінкавы, часта не падагулены, вопыт работы не перанесен на іншыя прадпрыемствы.

Сталінскія брыгады, як правільна назваў іх адзін з начальнікаў цэхаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»—«палкаводцамі спаборніцтва», не сталі набыткам іншых прадпрыемстваў швейнай прамысловасці. ЦП швейнікаў не зрабіла патрэбных вывадаў з гэтай моцнай ініцыятывы сваіх нізавых арганізацый, не перанесла іх вопыту на ўсе фабрыкі, якія пры аднолькавых умовах з фабрыкай «Сцяг індустрыялізацыі» адстаюць у выкананні вытворчых заданняў (фабрыка «Дзяржынскага»—Бабруйск, ф-ка «Валадарскага»—Магілеў).

Тое-ж самае мы бачым і з соцтэхэкзаменамі. Магілеўская шоўкавая фабрыка, барысаўская фабрыка «Пролетарская перамога» даюць нядрэнныя паказчыкі. Але фабрыка «Дзвіна» і шчотачны камбінат у Віцебску пусцілі тэхвучобу на самацёк, якасць вучобы нізкая. На гомельскім шклозаводзе здалі соцтэхэкзамен толькі 6 чал. Завод «Чырвоны адраджэнец» (Магілеў) ідзе з такімі-ж «дасягненнямі». Характэрна, што амаль усе гэтыя прадпрыемствы ідуць з прарывам у выкананні промфінплана.

Асноўная бяда ў тым, што профарганізацыі перадаручылі тэхвучобу тэхпропам. Старшыня фабкома фабрыкі «Дзвіна» **тав. Сушчонак**, на пытанне, як у яго ідзе справа з грамадскімі тэхэкзаменамі, кіўнуў пальцам у бок тэхпропа. На адным з барысаўскіх прадпрыемстваў старшыня заўкома тав. **Мафель** сказаў: «Соцтэхэкзамен—справа камсамола. Яны пачалі, няхай і канчаюць».

Элементы бюракратызма, камандавання і адміністравання захаваліся на цэлым радзе прадпрыемстваў. Сутнасць перабудовы часта зводзіцца толькі да структурных змен. Без ломкі структуры, вядома, цяжка змяніць метады работы, але галоўную ўвагу трэба накіраваць на работу **па-новаму, на змест работы,** не захапляцца адным толькі знадворным бокам. Часта пачынаюць перабудоўвацца не з пачатку, а з канца. Фабрыка «КІМ», напр., пачала перабудову не з дапамогі нізавым цэхоргам, профгрупе, а са сходу профактыва. На сходзе без усякай падрыхтоўкі аб'явілі, што з гэтага дня цэхком не існуе і прэзідыум фабкома ліквідован.

Райпрафсож Віцебскага вузла выносіць кароткае рашэнне: такія-то аддзелы ліквідаваць, прызначыць замест іх інструктароў. Адразу намячаюцца перавыбары цэхпрофзвенняў. Усё гэта робіцца без папярэдняй падрыхтоўкі, без масавай растлумачальнай работы аб значэнні перабудовы,—адным камандаваннем.

Старшыня камітэта вагоннага дэпо яшчэ да перавыбараў профарганізацый хадзіў са спісам будучага рабачкома: «У мяне цяпер, вось пабачыце, будуць людзі самага лепшага адбору». Ён ужо «адабраў» іх, праводзячы так званую «дэмакратыю».

Пасяджэнчую мітусню, цыркуляршчыну, пісаніну, пустую балбатню трэба знішчыць, наладзіўшы ў профарганізацыях прадпрыемстваў праверку выканання, патрабуючы ад кожнага работніка зверху да нізу сур'ёзнай адказнасці за даручаную справу. Пэўнае канкрэтнае заданне павінна выконвацца не толькі з пункту погляду пісьмовых матар'ялаў. Пакуль заданне не даведзена да канца, яго трэба лічыць нявыкананым. Калі профработнік не можа выканаць даручэнне профарганізацыі, яго нельга **дапусціць да профработы.** Трэба стварыць жалезную дысцыпліну ў профсаюзах, патрабаваць адказнасці ад

людзей. Разам з тым без бальшэвіцкай практыкі, без клопату аб дробязях, без ведання жывых людзей мы не зможам працаваць.

Асноўная ўвага профарганізацый, асабліва ФЗМК, павінна быць у бліжэйшы час сканцэнтравана на вытворча-масавай рабоце, на далейшым разгортванні соцыялістычных форм працы, на ауладанні тэхнікай, на выключна высокай пастаноўцы тэхнічнага экзамену, на сталовых, на прыгарадных гаспадарках, рабочых гародах.

Трэба дабіцца, каб кожны работнік фабзаўкома, Цэнтральнага праўлення 90 проц. рабочага часу ўдзяляў цэху, сталовай, прыгараднай гаспадарцы. Без гэтых умоў мы з нашымі задачамі не справімся.

Па віне нізавых профарганізацый на некаторых фабрыках і заводах быў выяўлен рад агіднасцей. Напр., у сталоўцы фабрыкі Крупскай у звараным абедзе знойдзена шкло. Аналагічныя факты выяўлены ў сталовай завода імя Сталіна ў Магілеве, на макароннай фабрыцы ў Барысаве.

Аб чым гэтыя факты гавораць? Аб прытупленні класавай пільнасці некаторых нашых профработнікаў. Профработнік не бачыць класавага ворага. Профработнік не клапоціцца аб палепшанні матар'яльнага добрабыту рабочых. У нас вельмі мала такіх старшынь ФЗМК, якія-б штодзенна кантралявалі работу сталоўкі і памагалі-б кухарам састаўляць меню. Гэты канкрэтны ўчастак работы ігнаруецца маючыміся ў профапараце бюракратычнымі элементамі. Трэба з корнем вырваць бюракратызм профапаратаў.

Бяззубасць у рабоце, няўменне па-бальшэвіцку змагацца за прынцыповую справу, няўменне ўхапіцца за асноўнае звяно,—вось што ўласціва большасці нашых профработнікаў. Аб гэтым красамоўна сведчаць выяўленыя ЦСПСБ факты грубейшага парушэння працоўнага законадаўства (ф-ка «КІМ», шклозавод імя Домбаля, фабрыка Крупскай і інш.—ліквідацыя выхадных дзён, падоўжанне рабочага дня, звышурочныя работы і т. д.)—у рэзультаце няправільнай арганізацыі працы, работа «рыўкамі»: у пачатку квартала з прахладцай, а к канцу—штурмам. «Гора-гаспадарнікі» і профсаюзныя кіраўнікі даных прадпрыемстваў з пагардай думаюць, што законы совецкай улады пісаны для дурняў, не вядуць сапраўднай барацьбы за промфінплан, за матар'яльна-бытавыя ўмовы рабочых, не клапоцяцца аб жывым чалавеку. Профработнікі часта з'яўляюцца толькі сведкамі, штампоўшчыкамі незаконных дзеянняў зарваўшыхся гаспадарнікаў.

З часу пленума ЦСПСБ мінула 2 месяцы. Але прадпрыемствы, за выключэннем некаторых буйных, усё яшчэ «раскачваюцца», «мабілізуюцца», «дабіваюцца зрухаў». Узяць хоць-бы такое баявое пытанне, як перадача профсаюзам функцый нізавых органаў РСІ. Чаму з усёй бальшэвіцкай упорнасцю не разгарнулі масавага рабочага кантролю за сталовымі, дзе выяўлены бясчынствы? Групы масавага рабочага кантролю павінны стаць рашаючым звяном, дапамагаючы партыі і ўраду праводзіць у жыццё асноўныя гаспадарча-палітычныя задачы другой пяцігодкі. У гэтыя групы трэба ўцягваць лепшых актывістаў фабрык і заводаў.

Не менш важна пытанне аб шэфстве і соцсумяшчэнні ў совецкім апараце. На нас, на рабочы клас, ускладаецца адказная задача— выкарчаваць бюракратызм, узмацніць наш совецкі апарат. Але нашы вытворчыя саюзы не занялі яшчэ вядучай ролі ў гэтай рабоце.

У Віцебску, у другой палове красавіка праводзіўся пленум гарпрофсовета. Парадак дня быў складзен, вярней скапіраван з парадку дня IV-га пленума ЦСПСБ. Дакладчыкаў было аж занадта. Гаварылі аб прыгарадных гаспадарках, аб індывідуальным гародніцтве, аб сталовых... Разважанняў «наогул»—колькі хочаце. Калі-ж у ходзе работы пленума выяўлены былі агідныя факты, то кіраўніцтва профсаюзаў—Гарпрофсовет—пастаралася іх абыйсці. Адна з лепшых профарганізатараў фабрыкі «Дзвіна» тав. М. **Раманоўская** расказала з якімі мучэннямі фабрычныя арганізацыі «Дзвіны» дабіваліся адводу ўчасткаў пад індывідуальныя гароды. Ініцыятыва рабочых у гэтым пытанні была агромна. Але аказалася, што з-за галавацяпства горсовета (а значыць і гарпрофсовета) участак, прызначаны ф-цы, даўно асвоен іншымі арганізацыямі; і большасць рабочых «Дзвіны» засталася без зямлі для індывідуальнага гародніцтва.

Пленум гарпрофсовета не зрабіў адпаведных вывадаў з гэтых фактаў, віноўных не прыцягнулі да адказнасці. Такавы рэзультаты работы данага пленума.

А вось яшчэ факт. Пасля пленума ЦСПСБ Быхаўскі райпрофсовет зараз-жа склікаў свой пленум, таксама цалкам і поўнасцю скапіраваўшы парадак дня. Але Быхаўскі пленум райпрофсовета «перагнаў» Віцебск і вынес рашэнне, прынятае пленумам ЦСПСБ. Слова ў слова, літара ў літару ўзяты з пастаноў ЦСПСБ, прычым слова «ЦСПСБ» там, дзе гэта неабходна, заменена словам «Райпрофсовет».

Як ідзе арганізацыйная перабудова? Прэзідыум ФЗМК ліквідован і створан пленум ФЗМК з 7—9 працаздольных таварышоў. Асноўныя бягучыя пытанні вырашаюцца старшынёю ФЗМК у практычнай аперацыйнай рабоце. Кіраўніцтва цэхавымі арганізацыямі праводзіцца не з дапамогай цыркуляраў, а практычнай работай у цэху, паказам на месцы, як разгортваць работу.

У сувязі з гэтым ліквідуюцца цэхавыя камітэты. Замест іх на цэхавых сходах абіраюцца цэхпрофарганізатары, якія адчытваюцца перад рабочымі цэха і працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам фабрычнага камітэта, з'яўляючыся ўнутры цэха, брыгады прадстаўнічым звяном ад фабкома.

Мы яшчэ не дабіліся, каб группрафорг стаў асноўнай рашаючай фігурай у групе, брыгадзе. Ён часта выконвае толькі паасобныя даручэнні. Самастойна працаваць групорг не мае магчымасці, бо нашы фабзаўмясцкомшчыкі праводзяць работу ў брыгадзе праз галаву профарганізатараў. Нам неабходна выхоўваць профарганізатараў, вучыць іх працаваць, рыхтаваць з іх кадры для ўсіх галін профработы. Таму трэба значна ўзняць ролю і ўдзельную вагу праворга ў брыгадзе, на ўчастку.

Але новае—у канкрэтнай практычнай рабоце, у перанясенні цэнтру цяжару яе ў цэх, сталовую, прыгарадную гаспадарку, у рабочы гарод. Калі хто думае, што ад добрай ці дрэннай структуры залежыць уся справа, той вельмі памыляецца. Галоўнае заключаецца ў нашай практычнай рабоце. Работа вымяраецца цяпер нашай уласнай сілай.

У горрайпрофсоветах функцыянальныя аддзелы ліквідуюцца, замест іх ствараюцца, незалежна ад платнасці ці няплатнасці, інструктарскія апараты па асобных галінах работы. У сувязі з паралелізмам у рабоце менскіх профарганізацый, ліквідован Менскі гарпрофсовет, і абслугоўванне менскіх прадпрыемстваў ускладзена на ЦСПСБ.

З перабудовай профработы падымаецца ўдзельная вага ЦП саюзаў. У нас ЦП пакуль, што не займаюць належнага месца, рэдка ставяць

і не ўмеюць ставіць прынцыповыя, вострыя пытанні, адчуваецца бяззубасць.

Трэба ўзняць удзельную вагу ЦП саюзаў, павысіць іх ролю ў кіраўніцтве нізавой профсаюзнай ячэйкай, дабіцца жывога кіраўніцтва.

У сувязі з перабудовай паўстае выключна адказная работа па стварэнню пры кожнай профарганізацыі знізу да верху **добраахвотнага актыва,** як непасрэднага памочніка профсаюзаў у правядзенні дырэктыў партыі на прадпрыемствах. Між тым, радам профарганізацый гэта адказнейшая задача ігнаруецца. Добраахвотны актыў з перадавых ударнікаў прадпрыемстваў павінен стаць рэзервам кадраў для ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі зусім правільна сказаў, што мы маем «у профсаюзах людзей, якія шчыра жадаюць працаваць. Аднак яны не ўмеюць узначаліць гэта кіпучае жыццё, ініцыятыву, энергію, якая ёсць на фабрыках, на заводах ва ўдарных брыгадах».

З гэтай упаўне чоткай, большэвіцкай устаноўкі мы павінны зрабіць усе неабходныя вывады пры карэннай перабудове сістэмы профработы.

Большэвіцкая перабудова работы залежыць ад нас саміх. Каб па-баявому ажыццявіць рашэнні XVII з'езда—з'езда пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—мы павінны шырока разгарнуць масавую работу, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, укараніць соцтэхэкзамены, і на аснове сапраўднай перабудовы і карэннай змены метадаў работы яшчэ з большым поспехам выканаць свае баявыя задачы.

А. А. Манаў

# Тэхпромфінплан і методыка яго складання

Гаспадарка арганізаванага ў пануючы клас пролетарыята СССР ёсць дзяржаўная планавая гаспадарка. Гэта планавасць знаходзіць сваё выражэнне ў канкрэтных планах—пяцігадовых, гадовых,—на кожным участку соцыялістычнага будаўніцтва, на кожнай фабрыцы, у соўгасе, калгасе. Арганізуемая дыктатурай пролетарыята планавасць развіцця нашай эканомікі з'яўляецца адным з важнейшых фактараў, які забяспечвае нечуваныя ў гісторыі чалавецтва перамогі ў справе будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне.

За мяжой мы бачым бясплодныя патугі гінучага капіталізма адцягнуць праз стварэнне «планаў нацыянальнага аднаўлення» час сваёй немінучай пагібелі ў агні пролетарскай рэволюцыі. Тав. Сталін даў адпаведную ацэнку гэтым «планам», сказаўшы:

> «Каб кіраваць у планавым парадку, неабходна мець іншую, не капіталістычную, а соцыялістычную сістэму прамысловасці, неабходна мець нацыяналізаваную прамысловасць, нацыяналізаваную крэдытную сістэму, нацыяналізаваную зямлю, соцыялістычную змычку з вёскай, уладу рабочага класа ў краіне і інш.».

У межах Совецкага саюза не было недахвату ў спробах скарыстаць планаванне для шкодніцтва, з мэтай падарваць будаўніцтва соцыялізма на паасобных яго ўчастках. Ведаючы сілу плана, як магутнага рычага дыктатуры пролетарыята, шкоднікі імкнуліся захапіць адказныя пасты ў планавых органах, каб адтуль праводзіць свае класава-варожыя імкненні. Са шкодніцтвам змыкаўся апартунізм розных колераў у барацьбе супроць генеральнай лініі партыі.

Шкодніцкія планы рэстаўрацыі капіталізма і імперыялістычнай інтэрвенцыі Рамзіна—Громана і Кандрац'ева; авантурысцкія планы прыслужніка буржуазіі Троцкага, разлічаныя на разрыў саюза пролетарыята і працоўнага сялянства і зрыў будаўніцтва соцыялізма; праваапартуністычная двухгодка Рыкава, накіраваная на захаванне СССР, як аграрна-індустрыяльнай краіны, і развіццё сельскай гаспадаркі на кулацка-індывідуальнай аснове,—усё гэта імкненне скарыстаць планавую сутнасць гаспадаркі дыктатуры пролетарыята, скарыстаць яе планавыя рычагі для яе зрыву, для аднаўлення капіталізма.

Насустрач барацьбе партыі за генеральную лінію ў процівагу шкодніцтву і апартунізму ўзнялася магутная хваля руху шырокіх працоўных мас Совецкага саюза за аўладанне метадамі і тэхнікай соцыялістычнага планавання. Гераічна змагаючыся за выкананне дырэктыў партыі, за колькасныя і якасныя паказчыкі плана, за аўла-

данне тэхнікай, за эканамічную незалежнасць сваёй краіны, пролетарыят разам з шырокімі працоўнымі масамі СССР штодзенна ператварае ў жыццё лозунгі свайго правадыра і настаўніка—тав. Сталіна, які ўказвае, што вытворчы план не

> «зводзіцца да пераліку лічб і заданняў»; што ён «ёсць жывая і практычная дзейнасць мільёнаў людзей»; што «рэальнасць нашага вытворчага плана—гэта мільёны працоўных, якія твораць новае жыццё».

**Сквазныя брыгады** ўпершыню ўзніклі на растоўскім Сельмашы, як форма грамадскага міжцэхавага планавання;

**сустрэчны план**, «як метад сапраўднага ўцягнення ўсіх рабочых у справу соцыялістычнага будаўніцтва і як важнейшы сродак барацьбы з контррэволюцыйным шкодніцтвам» (з адозвы ЦК ВКП(б) ад 3/IX-30 г.) узнік па ініцыятыве рабочых завода імя Карла Маркса (Ленінград);

**зменна-сустрэчнае планаванне** ўзнікла па ініцыятыве лепшых ударнікаў Марыупальскага металургічнага завода;

**планава-аператыўныя брыгады** ўключаюць у сабе лепшых ударнікаў-энтузіястаў і ставяць мэтай палепшанне ўнутрызаводскага планавання;

**гаспадарча-разліковыя брыгады** ўзніклі па ініцыятыве лепшых ударнікаў ленінградскіх заводаў, як вышэйшая форма соцспаборніцтва;

творчай-жа ініцыятыве лепшых ударнікаў вытворчасці, лепшых адданых барацьбітоў за пабудову соцыялістычнага грамадства абавязаны мы ўзнікненнем **тэхпромфінплана**, як лепшага і найбольш дасканалага метада вытворчага планавання.

* * *

Тэхпромфінплан ёсць такі метад унутрызаводскага планавання, у якім яднаюцца ў адно непарыўнае цэлае праца па складанню плана і праца па яго выкананню. Дасягаецца гэта тым, што ўся падрыхтоўчая работа да складання тэхпромфінплана вядзецца ля варштата, агрэгата, у цэху і лабараторыі; ля варштата-ж пачынаецца і складанне самога тэхпромфінплана; тут канкрэтна вызначаюцца тэхнічна і эканамічна абгрунтаваныя шляхі для лепшага выканання і перавыканання планавай дырэктывы.

Такім чынам, і падрыхтоўчая работа і працэс складання тэхпромфінплана прадпрыемства, як арганічнай часткі адзінага народнагаспадарчага плана, праводзіцца на аснове планавай дырэктывы там і тымі, дзе і кім гэты план будзе выконвацца—праводзіцца рабочымі, ІТР і служачымі прадпрыемства на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва, з улікам апошніх навукова-тэхнічных дасягненняў, свайго ўласнага вопыту, вопыту перадавых прадпрыемстваў і ўдарнікаў, вопыту барацьбы шматмільённых працоўных мас СССР за выкананне першай пяцігодкі ў чатыры гады і з улікам задач, пастаўленых партыяй перад працоўнымі СССР у другой пяцігодцы. Так канкрэтна і штодзённа ажыццяўляюцца ўказанні правадыра партыі і рабочага класа тав. Сталіна:—«Вытворчы план ёсць жывая і практычная дзейнасць мільёнаў людзей».

Тэхпромфінплан ёсць, далей, такі метад вытворчага планавання, які базуецца на дакладным вывучэнні прапускной здольнасці абсталявання,

кожнай яго машыны, кожнага варштата і агрэгата, вызначанай у пэўнай колькасці прадукцыі, якая можа быць і павінна быць атрымана за адну гадзіну работы варштата («варштата-гадзіна») і адну гадзіну ручной працы («праца-гадзіна»). Тым самым тэхпромфінплан робіцца адным з лепшых сродкаў уцягнення шырокіх мас працоўных у справу канкрэтнага ажыццяўлення дырэктывы партыі аб аўладанні тэхнікай, аб дапаўненні пафаса будаўніцтва пафасам асваення.

Тэхпромфінплан ёсць такі метад вытворчага планавання, пры якім усе разлікі плана абгрунтованы на сістэме пэўных тэхніка-эканамічных нарматываў: норм працягласці паасобных вытворчых цыклаў і паасобных вытворчых аперацый, норм скарыстання рабочага часу, норм выдаткавання матар'ялаў, энергіі, паліва, інструментаў, норм задзелкі дэталей на кожным паасобным месцы, норм забяспечання вытворчасці запасамі матар'ялаў, паліва, поўфабрыкатаў, норм інтэнсіўнасці скарыстання сродкаў вытворчасці (хуткасці звароту) і інш. Гэтыя нормы павінны базавацца на агульных народнагаспадарчых і на галінных дырэктывах і быць дынамічнымі, г. зн. забяспечваць за час выканання плана далейшыя дасягненні ў рацыяналізацыі вытворчасці, найбольшае павышэнне прадукцыйнасці працы і зніжэнне сабекошту. Гэтым дасягаецца канкрэтнае ажыццяўленне дырэктывы—пакласці «у аснову правільнай арганізацыі працы і ўнутрызаводскага планавання... тэхнічнае нармаванне», «пры даных матар'яльных сродках, на аснове большай эканоміі, лепшага выкарыстоўвання вытворчых магчымасцей, лепшай мабілізацыі сіл і лепшага практычнага кіраўніцтва, даць краіне больш прадукцыі і лепшай якасці» (з рэзал. 17-ай партканферэнцыі); «дабіцца сістэматычнага росту прадукцыйнасці працы, зніжэння сабекошту і ўкаранення гаспадарчага разліку» (**Сталін**, даклад на XVII партз'ездзе).

Тэхпромфінплан ёсць такі метад вытворчага планавання, пры якім усе эканамічныя якасныя паказчыкі абгрунтоўваюцца тэхнічнымі якаснымі паказчыкамі з папярэдняй эканамічнай ацэнкай іх мэтазгоднасці.

Тэхпромфінплан, нарэшце, ёсць такі метад вытворчага планавання, пры якім тэхніка-эканамічныя разлікі абгрунтоўваюцца і суправаджаюцца сістэмай дэтальна распрацаваных канкрэтных мерапрыемстваў, якія неабходна правесці, каб забяспечыць выкананне плана, з вызначэннем выканаўцаў і тэрмінаў выканання гэтых мерапрыемстваў. Гэтым, разам з папярэднімі ўмовамі, забяспечваецца найбольшая канкрэтнасць і аперацыйнасць тэхпромфінплана.

Першыя-ж крокі па шляху ажыццяўлення гэтага метада вытворчага планавання далі бліскучыя вынікі.

У распрацоўцы элементаў тэхпромфінплана металазавод імя Сталіна (Ленінград) дае наступныя прыклады.

Брыгада на гарызантальна-вертыкальным стругальным варштаце атрымала праграму выпрацоўкі злучаючых флянцаў і лап для 24-х камплектаў кажухоў турбін. Адміністрацыя завода дала брыгадзе тэхнічны план, згодна якому на апрацоўку аднаго камплекта адводзілася 450 гадзін, з якіх 200 гадзін—на ўстановачны і накладны час (устаноўка і тэхналагічныя прастоі варштата) і толькі 250 гадзін на карысную работу варштата. Такім чынам, на апрацоўку 24 камплектаў аказалася патрэбна 10800 гадзін. Паводле-ж разлікаў адміністрацыі, варштат магчыма выкарыстоўваць на працягу года толькі 5114 гадзін пры гадавых стратах у 2895 гадзін. Выходзіла так, што для выканання праграмы неабходна мець два варштаты, а паколькі

ў наяўнасці быў толькі адзін, то план прадугледжваў набыць яшчэ адзін варштат.

Інакш падыйшла да справы брыгада. Абмеркаваўшы пытанне, дэталёва вывучыўшы і падлічыўшы, брыгада прыйшла к вываду, што можна значна скараціць час апрацоўкі кожнага камплекта, правёўшы наступныя мерапрыемствы. Зрабіць спраўным матор варштата, што павысіць хуткасць рэзання і скароціць машынны час на 110 гадзін. Перарабіць разцовую каробку і карыстацца разцамі з самакальнай сталі, што зменшыць прастоі і знізіць накладны час на 20 гадзін. Адначасовая апрацоўка верхняй і ніжняй паловы флянцаў дасць эканомію ў 40 гадзін. Ушчыльненне рабочага дня, што абавязалася правесці брыгада, дасць эканомію 11 гадзін. Такім чынам, брыгада знайшла магчымым скараціць час апрацоўкі на 181 гадзіну, знізіўшы намечаны адміністрацыяй план у 450 гадзін да 269 гадзін.

Аднак, і пры гэтым, для выканання праграмы патрэбна было яшчэ 6456 гадзін, у той час як па разліках адміністрацыі варштат мог даць толькі 5114 гадз. Нехапала 1342 гадз. Тады брыгада прапанавала перайсці на кругласутачную работу (4 змены па 6 гадзін), што, разам з некаторымі іншымі мерапрыемствамі, давала дадатковыя 1515 гадз. Такім чынам, не толькі пакрываўся недахоп гадзін, вызначаных у папярэдніх падліках, але ўтвараўся рэзерв у 173 гадз. Адначасова адпала і ўсякая неабходнасць набываць новы варштат, які каштаваў 125.000 руб.

Такі вынік дала рабочая ініцыятыва, дэталёвае вывучэнне абсталявання і вытворчага працэса, барацьба за выяўленне скрытых рэзерваў, барацьба за дысцыпліну працы, барацьба са стратамі рабочага часу.

У даным выпадку мела месца распрацоўка толькі элементаў тэхпромфінплана. Тэхпромфінплана тут яшчэ не было, бо не было неабходнай увязкі паміж тэхнічнымі і эканамічнымі якаснымі паказчыкамі, той увязкі, якой патрабуе XVII партканферэнцыя, даўшая дырэктыву аб «выключнай увазе да якасных паказчыкаў як эканамічных (сабекошт, прадукцыйнасць працы і т. д.), так і тэхнічных, якія складаюць іх матар'яльную аснову».

Яшчэ больш паказальныя прыклады вытворчай эфектыўнасці дае поўная распрацоўка тэхпромфінплана.

Вось як аб гэтым расказвае адзін з удзельнікаў распрацоўкі першых тэхпромфінпланаў на заводзе «Светлана»:

«Калі мы прапрацавалі свой тэхпромфінплан ва ўсіх яго стадыях, калі падвялі вынікі ўсёй работы і параўналі з кантрольнымі кропкамі промфінплана, у нас атрымаўся ўразлівы малюнак, які ўсіх нас глыбока задаволіў...

Нам патрэбна для выканання праграмы ў 103 млн. руб. 5551 вытворчы рабочы. Гэта на аснове кантрольных кропках промфінплана. Па тэхпромфінплану-ж нам патрэбна толькі 4410 чал., або на 1141 чал. менш. Прадукцыйнасць працы нам трэба было ўзняць на 20 проц. супроць мінулага года, што раўняецца выпуску прадукцыі адным рабочым на 1615 руб. у месяц, а па тэхпромфінплану выпуск прадукцыі павысіўся да 1956 руб. Паніжэнне сабекошту мы запраектавалі ў кантрольных цыфрах промфінплана на 11,5 проц., а па тэхплану атрымалася паніжэнне на 21 проц... Мы ўсе аперацыі тэхнічна прааналізавалі і вывучылі:... мы ўпершыню тэхнічна вывучылі якасць, брак і яго прычыны і прышлі да вялікіх вынікаў—далі каля 5 млн. руб. эканоміі...

Мы высунулі не толькі лозунг, але і ўключылі ў план тое, што неабходна зрабіць, каб стварыць добры, «культурны цэх». Перш за ўсё неабходна абсталяваць рабочае месца. Каля рабочага павінна быць чыста, рабочы павінен мець зручнае крэсла, добрае асвятленне, неабходна выдаваць яму тое, што патрэбна, і ўбіраць тое, што непатрэбна.

Мы паставілі перад сабою задачу—выканаць праграму, не будуючы дадатковых плошчаў... Наша плошча загружана да апошняй ступені. Мы рэарганізавалі яе такім чынам, каб усё змясцілася, і выконваем праграму без капітальнага ў гэтым годзе будаўніцтва...

Мы ніколі не ставілі перад сабою пытання, як і колькі расходуецца вады. Выяснілася-ж, што правёўшы 5—10 нязначных мерапрыемстваў, патрэбнасць у вадзе на наступны год будзе на 30 проц. менш. Электрычнасць таксама дасць агромную эканомію. Эканомія газа, ацяплення, асвятлення—усё знайшло адбітак у тэхпромфінплане...

Асноўныя паказчыкі ў выніку нашай вялікай работы можна разбіць на наступныя паасобныя віды: матар'ялаў у рэальных цэнах мы павінны былі набыць на 11,5 млн. руб., а па тэхплану—на 10 млн. руб.; фонд зарплаты прадугледжваўся ў 11,5 млн. руб., а па тэхплану знізіўся да 10,5 млн.руб.; у выніку дасканалай прапрацоўкі і перагляду ўсіх магчымасцей у спажыванні імпартнага матар'ялу і абсталявання мы маем наступнае: наша першая заяўка была дана нормавым парадкам—1.263.000 р.; наша апошняя заяўка складае 63.000 р., г. зн. 1.200.000 руб. эканоміі.»

Можна было-б прывесці вялікую колькасць іншых прыкладаў таго, якія агромныя крыніцы нескарыстаных унутраных рэсурсаў ускрывае рабочая ініцыятыва і рабочае вынаходніцтва, што арганізуюцца ў працэсе складання тэхпромфінплана. Але і паданых прыкладаў даволі, каб сказаць, што практыка складання тэхпромфінплана, якая існуе параўнальна нядаўна, паказала, што ў тэхпромфінплане мы маем адзін з магутных сродкаў мабілізацыі шырокіх мас фабрык, заводаў, МТС на барацьбу за максімальную эканомію, за выяўленне і максімальнае скарыстанне ўсіх унутраных рэсурсаў і скрытых рэзерваў, за павышэнне прадукцыйнасці працы, за аўладанне тэхнікай, эканомікай, фінансамі завода.

Неабходна шырока разгарнуць работу па папулярызацыі сярод мас рабочых і кіраўнікоў прадпрыемствамі асноў тэхпромфінплана, методыкі і тэхнікі яго складання.

* * *

Пераходзячы да канкрэтных пытанняў методыкі пабудовы тэхпромфінплана, неабходна перш за ўсё адзначыць, што было-б няправільным чакаць у гэтым артыкуле гатовых адказаў на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць пры складанні тэхпромфінплана, гатовых разлікаў і форм нават для паасобных галін прамысловасці.

Методыка складання тэхпромфінплана канкрэтна настолькі-ж як канкрэтны і сам тэхпромфінплан, як канкрэтны ўмовы яго выканання.

Найглыбейшы сэнс працэса планавання дан у формуле—«вытворчы план ёсць жывая практычная дзейнасць мільёнаў людзей. Рэальнасць нашага вытворчага плана—гэта мільёны працоўных, якія твораць новае жыццё» **(Сталін).**

Гэта жывая дзейнасць мільёнаў працоўных, іх творчая актыўнасць пачынаецца ў працэсе падрыхтоўкі да складання плана, працягваецца ў працэсе складання яго, пераключаецца на барацьбу за яго выкананне, што адначасова з'яўляецца працягам працэса планавання,

удасканаленнем складзенага на пэўны тэрмін (год, квартал, месяц) плана і падрыхтоўкі да складання новага на далейшы перыяд.

Сярод шматлікіх форм барацьбы за выкананне і перавыкананне вытворчых планаў шырокая працоўная грамадскасць Савецкага саюза высунула і з вялікім поспехам ажыццяўляе велізарнай важнасці мерапрыемства—сустрэчны план, які зрабіўся адной з важнейшых метадалагічных асноў социялістычнага планавання.

Сустрэчнае планаванне, як форма праяўлення ініцыятывы шырокіх рабочых мас, як магутны сродак мабілізацыі іх творчай энергіі на барацьбу за аўладанне тэхнікай і эканомікай вытворчасці, за максімальна паспяховае выкананне планавай дырэктывы, у агромнай меры спрыяла выяўленню скрытых вытворчых рэсурсаў, якія мае кожнае прадпрыемства, забяспечыла пастаноўку перад рабочым калектывам і кіраўніцтвам прадпрыемствамі сапраўды баявых, напружаных задач у дасягненні неабходных тэмпаў нашага матар'яльнага і культурнага росту, у агромнай меры стымулявала дакладнае вывучэнне рабочым калектывам і ІТР вытворчага працэса, страт у вытворчасці і мерапрыемстваў па барацьбе з імі, з'яўлялася адным з найбольш дзейсных сродкаў выкрыцця і барацьбы са шкодніцтвам у працэсе планавання арганізацыі вытворчасці.

Вялікае арганізуючае і выхаваўчае значэнне тэхпромфінплана, як метада ўнутрызаводскага планавання, заключаецца ў тым, што ён скарыстоўвае сустрэчнае планаванне, як базу і арганізацыйна-адпраўны пункт унутрызаводскага планавання.

Сустрэчнае планаванне—магутны сродак канкрэтызацыі методыкі складання тэхпромфінплана, прыстасаванага да ўмоў паасобных галін народнай гаспадаркі, паасобных галін прамысловасці, паасобных прадпрыемстваў.

Іменна ў працэсе складання плана, з канкрэтных умоў правядзення ў жыццё планавай дырэктывы, узнікаюць і на падставе гэтых умоў удасканальваюцца метады разлікаў паасобных элементаў тэхпромфінплана адпаведна ўласцівасцям канкрэтных умоў яго выканання, характару і стану абсталявання, характару сыравіны, віду і гатунку прадукцыі, плана тэхналагічнага працэса і інш.

Аднак было-б шкодным супакоіцца на тым, каб прызнаць неабходнай канкрэтызацыю методыкі тэхпромфінплана адпаведна канкрэтным умовам выканання планавай дырэктывы і пусціць на самацёк распрацоўку метадаў яго складання.

Як і ўсякі грамадскі рух, рух за сустрэчнае планаванне, за ўкараненне ў практыку ўнутрызаводскага планавання метада тэхпромфінплана патрабуе яго арганізацыі і вывучэння, патрабуе ўпорнай барацьбы за лепшыя метады яго ажыццяўлення.

Ужо ёсць багатая практыка лепшых прадпрыемстваў у барацьбе за ўкараненне і лепшае ажыццяўленне тэхпромфінплана, за ўдасканаленне методыкі яго складання. Разгарнулася шырокая хваля соцспаборніцтва паміж брыгадамі, цэхамі і прадпрыемствамі за ўдасканаленне методыкі складання тэхпромфінплана на аснове абмену вопытам. Гэты вопыт неабходна ўлічыць кожнаму прадпрыемству, кожнаму ІТР, каб унікнуць паўтарэння былых памылак у аўладанні тэхпромфінпланам і адшукаць лепшыя метады. З другога боку, ужо выявіліся апартуністычныя скажэнні сутнасці тэхпромфінплана, яго ролі і метада складання.

Адной з небяспек у методыцы распрацоўкі тэхпромфінплана, якая ўжо дала на практыцы свае шкодныя вынікі, з'яўляецца кан-

цэнтрацыя ўвагі пераважна на тэхнічных разліках і недаацэнка эканамічнага боку плана.

Ёсць выпадкі, калі план тэхналагічнага працэса распрацоўваецца адарвана ад эканамічных паказчыкаў планавай дырэктывы—аб'ёму прадукцыі, сабекошту і якасці прадукцыі. Разлікі тэхналагічнага плана вядуцца на аснове наяўных суадносін між паасобнымі відамі абсталявання, на аснове засвоенага «прывычнага» метада апрацоўкі. Гэта адна з крыніц апартуністычнага разважання аб нерэальнасці планавай дырэктывы.

Тым часам, пры пабудове плана тэхналагічнага працэса, які з'яўляецца дакладным абгрунтаваннем аперацыйна-вытворчага плана і яго выканання, трэба выходзіць з аперацыйных заданняў, падпарадкаваўшы задачам іх выканання спосаб апрацоўкі матар'ялу, спосаб скарыстання механізмаў, спосаб транспартоўкі дэталей, рэжым рабочага часу, рэжым рамонту, нагляд за абсталяваннем і інш.

Магчыма, што неабходнасць выканання планавай дырэктывы патрабуе карэннай змены тэхналагічнага працэса. Вышэй паказана барацьба рабочых завода імя Сталіна (Ленінград) за ажыццяўленне свайго сустрэчнага плана. Вельмі шкодзіла выкананню гэтай праграмы недастатковая прапускная здольнасць ліцейнага цэха. Завод вышаў з гэтага вузкага месца дзякуючы таму, што перайшоў ад ліцця да зваркі кандэнсатараў, чым пабіў сусветны рэкорд і забяспечыў значную эканомію на выдатках вытворчасці (матар'ялы, рабсіла).

Неабходнасць забяспечыць, згодна планавай дырэктыве, якасць прадукцыі патрабуе змен у хуткасці механізма, большай працяглсці апрацоўкі прадукцыі на паасобных стадыях, паасобных варштатах і т. д.

Планава-папераджальны рамонт павінен праводзіцца ў тыя тэрміны, якіх патрабуе выпуск прадукцыі.

Усё гэта значыць, што тэхплан, як частка тэхпромфінплана, павінен быць не самадаўлеючай сумай разлікаў, а арганічна ўвязаным з іншымі разлікамі, яго пранізваючымі і ім абумоўленымі. Пры складанні тэхпромфінплана на пытанне сабекошту і фінансавага планавання павінна быць звернута не меншая ўвага, чым на пытанне тэхналагічнага і тэхнічнага планавання, памятаючы пры гэтым, што

> «асновай гаспадарчай дзейнасці павінна быць барацьба за ўкараненне гаспадарчага разліку ва ўсіх звеннях народнай гаспадаркі, узмацненне планава-фінансавай дысцыпліны, далейшае ўмацаванне совецкага рубля—гэтага важнейшага рычага ўзмацнення гаспадарчага разліку і ўмацавання эканамічных сувязей паміж горадам і вёскай» (з рэзалюцый XVII партз'езда).

Частковы перагіб у бок тэхнізацыі з'яўляецца рэакцыяй на папярэднюю недаацэнку наебходнасці тэхнічнага абгрунтавання канкрэтных мерапрыемстваў па выкананню планавай дырэктывы. Гэта мела і мае месца пры складанні промфінплана, калі базай для разлікаў плана ў значнай меры з'яўляюцца сярэднія статыстычныя лічбы. Але вывесці вытворчую магутнасць прадпрыемства толькі статыстычна немагчыма. Для гэтага патрэбны дэталёвыя падлікі адносна кожнага варштата, машыны і агрэгата, вызначаныя ў адпаведных вымерніках (машына-гадзіны, конскія сілы, кіловат-гадзіны і інш.).

Пры статыстычным метадзе складання вытворчага плана не забяспечана ўзгодненасць вытворчай праграмы з планам працы, дынамікай яе прадукцыйнасці, фондам зарплаты. Калькуляцыя не ўвязваецца са

зменамі паасобных фактараў сабекошту такім чынам, каб уплыў кожнага з іх на сабекошт быў ясным і зразумелым. План рацыянальных мерапрыемстваў не знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з эканамічнымі паказчыкамі, разлік якіх не паказвае ўплыву на ажыццяўленне плана рацыяналізацыі. Прыклады завуалявання сувязі паміж тэхнічнымі і эканамічнымі паказчыкамі прыводзяцца ніжэй пры аналізе канкрэтнага матар'ялу.

Шкоднасць разрыву або завуалявання сувязі паміж тэхнічнымі і эканамічнымі паказчыкамі вытворчага плана заключаецца перш за ўсё, і галоўным чынам, у тым, што рабочая грамадскасць пазбаўляецца неабходных канкрэтных паказчыкаў у барацьбе за выкананне планавай дырэктывы, што план не паказвае ясных шляхоў і спосабаў правядзення яе ў жыццё. Соцыялістычнае спаборніцтва і яго вышэйшая форма—брыгадны гаспадарчы разлік—гэтыя асноўныя рычагі выканання і перавыканання планавай дырэктывы—у гэтых умовах не атрымліваюць неабходнага стымула для разгортвання іх у сістэме эканамічных паказчыкаў, а разам з тым і тых тэхнічных, наяўнасць якіх забяспечвае выкананне паказчыкаў эканамічных. Ці не тут ляжыць адна з прычын недастатковага разгортвання брыгаднага гаспадарчага разліку на некаторых буйнейшых прадпрыемствах БССР?

Соцспаборніцтва паасобных рабочых і брыгад можа набыць патрэбную канкрэтнасць толькі пры ўмове, калі ў аснову разлікаў і абагуленых паказчыкаў тэхпромфінплана будзе пакладзена сістэма нарматываў—канкрэтных паказчыкаў найлепшага скарыстання ўсіх элементаў вытворчасці для выканання планавай дырэктывы. Сюды адносяцца паказчыкі тэхналагічнага парадку—тэхнічна і эканамічна абгрунтаваныя нормы скарыстання абсталявання (хуткасць, тэрміны), нормы часу апрацоўкі вырабаў на паасобных механізмах і працягласці ўсяго тэхналагічнага працэса, нормы рабочага часу, выпрацоўкі, выдаткаваныя на адзінку прадукцыі зарплаты, матар'ялу, інструментаў, энергіі, паліва і інш. Сюды-ж павінны адносіцца і нарматывы фінансава-эканамічнага парадку—размеры запасу матар'ялаў, хуткасць іх звароту (запасы ў днях) і інш.

На базе нарматываў павінна быць пабудавана ўся сістэма разлікаў тэхпромфінплана, каб увесь план у цэлым і кожны яго раздзел грунтаваўся на адных і тых самых узаемна ўвязаных і абумоўленых нормах. Нарматывы па скарыстанню абсталявання, матар'ялаў, інструменту, рабочага часу ёсць канкрэтнае заданне рабочаму, кожнай брыгадзе і, што асабліва важна,—канкрэтны паказ фактараў, ад якіх залежыць прадукцыйнасць працы рабочага і сабекошт прадукцыі.

Гэта ператварае сістэму нарматываў у канкрэтную праграму барацьбы кожнага рабочага за павышэнне прадукцыйнасці працы, за зніжэнне сабекошту.

Сістэма нарматываў адначасова з'яўляецца магутным сродкам штодзеннага планава-аперацыйнага кіраўніцтва, умацавання гаспадарчага разліку, узмацнення планава-фінансавай дысцыпліны, узмацнення совецкага рубля.

Каб забяспечыць тэхніка-эканамічныя нарматывы, патрэбна напружаная работа, усебаковая рацыяналізацыя вытворчага працэса, умацаванне тэхнічнай базы. Адсюль і самыя нарматывы не могуць быць нерухомыя, застылыя. Яны павінны змяняцца разам са зменамі ў тэхналагічным працэсе,—з павышэннем кваліфікацыі рабочых, з рацыяналізацыяй паасобных бакоў вытворчага працэса.

Дынамічнасць—гэта неад'емная адзнака нормы ва ўмовах соцыялістычнай арганізацыі вытворчасці—захоўваецца сістэматычным пераглядам норм. Сам тэхпромфінплан павінен адлюстраваць гэту дынамічнасць, вызначаючы змены норм і іншых якасных паказчыкаў (павелічэнне нормы выпрацоўкі і адпаведнае паменшанне колькасці рабочых, занятых на пэўнай аперацыі, а таксама і зарплаты ў сабекошце адзінкі прадукцыі; павелічэнне норм спажывання матар'ялаў і паменшанне іх запасаў, незакончанай прадукцыі, зніжэнне сабекошту і інш.).

Нормы і нарматывы павінны быць яснымі, канкрэтнымі для кожнай асобнай дэталі і вырабу. Выпрацоўка і вызначэнне ў тэхпромфінплане сярэдняй нормы для розных дэталей і вырабаў, як гэта разглядаецца намі пры аналізе канкрэтнага тэхпромфінплана, не дасць нічога, акрамя таго, што нарматыў страціць сваю арганізуючую ролю. Таксама і ўплыў змен у нарматывах на змены ў сінтэтычных паказчыках—прадукцыйнасці працы, сабекошце—павінны быць паказаны раздзельна па кожнаму нарматыву, інакш сінтэтычныя паказчыкі трацяць сваю асноўную якасць—зразумеласць для рабочага і кіраўніцтва прадпрыемствам, трацяць сваё значэнне, як сродку разгортвання соцспаборніцтва і планава-аперацыйнага кантролю.

Адным з важнейшых раздзелаў тэхпромфінплана павінна быць планаванне падрыхтоўкі вытворчасці. У гэты раздзел тэхпромфінплана ўваходзіць планаванне работ па канструяванню тэхналагічнага працэса для новых вырабаў, па ўкараненню новых метадаў тэхналагічнай апрацоўкі вырабаў старых, па асваенню новай тэхнікі—машын, варштатаў, інструментаў, па асваенню новых відаў сыравіны і інш.

Вялікі план вялікіх работ—рэзалюцыі XVII партыйнага з'езда аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР—ставіць перад усімі галінамі народнай гаспадаркі грандыёзнейшыя задачы ў галіне аўладання новай тэхнікай, асваення новых тэхналагічных працэсаў, новых вырабаў, новай сыравіны. Барацьбой за выкананне гэтай дырэктывы павінны быць прасякнуты ўсе ўчасткі, усе паказчыкі тэхпромфінплана. Але план неабходных падрыхтоўчых мерапрыемстваў, план даследчай працы лабараторый, вопытных цэхаў і інш. павінен быць дэталёва распрацаван, як самастойная частка тэхпромфінплана ў арганічнай сувязі з іншымі яго ўчасткамі.

Адзін з відаў скажэння тэхпромфінплана, як і ўсякага плана,—гэта ператварэнне яго ў грамоздкі бюракратычны дакумент, перагружаны шматлікімі табліцамі, разлікамі, літаратурным матар'ялам і т. д. Часта забываюць важнейшую дырэктыву:

> «было-б глупствам думаць, што вытворчы план зводзіцца да пераліку лічбаў і заданняў. На справе вытворчы план ёсць жывая і практычная дзейнасць мільёнаў людзей» **(Сталін).**

Асноўная задача ўнутрызаводскага планавання—зрабіць яго справай усіх работнікаў прадпрыемства, каб кожны паказчык плана ў простай і зразумелай рабочаму форме гаварыў яму аб фактарах, ад якіх залежыць прадукцыйнасць яго працы і працы ўсяго калектыва, ад якіх залежыць сабекошт і соцыялістычнае накапленне.

> «Толькі бюракраты могуць думаць, што планавая работа заканчваецца складаннем плана. Складанне плана ёсць толькі пачатак планавання. Сапраўднае планаванне кіраўніцтва разгортваецца толькі пасля складання плана, пасля праверкі на месцах, у ходзе ажыццяўлення, выпраўлення і ўдакладнення плана» (Сталін).

Гэта, вядома, не значыць, што трэба адмовіцца ад дакладных разлікаў і абгрунтавання кожнага мерапрыемства, кожнай лічбы. Тэхпромфінплан павінен з вычарпальнай паўнатою дэталёва ахапляць вытворчую праграму, паказчыкі і ўмовы яе выканання кожнай брыгадай, цэхам, усім прадпрыемствам, ахапляць усе канкрэтныя мерапрыемствы, якія забяспечваюць выкананне планавай дырэктывы. Аднак, матар'ялы дробязна-дэталёвага зместу, матар'ялы другараднага значэння не павінны ўключацца ў тэхпромфінплан.

Ад брыгаднага тэхпромфінплана патрабуецца асаблівая канкрэтнасць. Ён павінен уключаць у сябе вытворчае заданне брыгады па колькасці, асартыменту і якасці вырабаў, тэхналагічны план апрацоўкі дэталей і выкананне вытворчых аперацый, разлік сыравіны і нормы яе выкарыстання, нормы выкарыстання дапаможных матар'ялаў, арганізацыю працы ў брыгадзе, каштарыс выдаткаў, якія залежаць ад брыгады.

Большую колькасць паказчыкаў, больш складаныя разлікі мае цэхавы тэхпромфінплан. Але і тут пераважаюць першапачатковыя паказчыкі. Іх сінтэз і ўвязка даюцца ў заводскім тэхпромфінплане. Акрамя аб'яднаных цэхавых паказчыкаў заводскі тэхпромфінплан павінен мець значную колькасць дадатковых тэхніка-эканамічных паказчыкаў і частак (план капітальнага рамонту, план забяспечання вытворчага працэса сыравінай і матар'яламі, план рэалізацыі, фінплан і інш.).

Але па сваёй форме і зместу заводскі тэхпромфінплан павінен быць невялікім дакументам, які ўключае пэўныя аб'яднаныя, сінтэзаваныя паказчыкі. Нядрэнным прыкладам такога дакумента з'яўляецца змест і форма «Итогов годичной работы за 1933 г.» Гэты дакумент у нямногіх важнейшых паказчыках усебакова характарызуе вынікі гадавой працы прадпрыемстваў і аб'яднанняў. Толькі ў такім выглядзе тэхпромфінплан будзе сапраўдным планава-аперацыйным дакументам, не скрые «за дрэвамі лесу», не заслоніць дробязямі і не затопіць у іх асноўнага. Толькі такі дакумент па сутнасці і павінен называцца тэхпромфінпланам прадпрыемства.

* * *

Гэтыя запатрабаванні да зместу тэхпромфінплана і методыкі яго складання даюць магчымасць крытычна падыйсці да разгляду канкрэтных матар'ялаў, якія ёсць у практыцы прамысловых прадпрыемстваў БССР. Возьмем тэхпромфінплан менскай швейнай фабрыкі «Окцябр» за адзін з апошніх кварталаў.

Ф-ка «Окцябр» па якасных паказчыках працы, арганізаванасці і планаванню вытворчасці—адна з лепшых у Саюзе. Пастановай НКЛП СССР яна ўзята пад спецыяльны нагляд, як прыкладнае прадпрыемства.

Галоўшвейпром НКЛП СССР характарызаваў тэхпромфінплан фабрыкі за апошні квартал «увогуле здавальняючым». Аднак, пры разглядзе яго ўзнікае рад пытанняў і заўваг *).

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што тэхпромфінплан—гэта не набор табліц, або сума табліц. Тэхпромфінплан ёсць аб'яднанне раз-

*) Неабходна зараз-жа папярэдзіць, што многія з тых недахопаў, якія адзначаны ў далейшым адносна разглядаемага намі тэхпромфінплана фабрыкі, ужо выпраўлены ёю ў працэсе ўдасканалення вытворчага планавання. Перш за ўсё гэта адносіцца да сярэдніх норм часу выпрацоўкі вырабаў розных памераў і залежачых ад іх паказчыкаў.—*А. М.*

лікаў і табліц, звязаных адзінствам мэты і ўзаемнай абумоўленасцю, каб забяспечыць найлепшае выкананне планавай дырэктывы.

Тэхпромфінплан павінен быць невялікім, зразумелым для кожнага рабочага і прыгодным для аперацыйнага кіраўніцтва дакументам, які ўключае ў сябе асноўныя (для цэха і прадпрыемства—у значнай колькасці суміраваныя) і аб'яднаныя паказчыкі па прадукцыі (валавой і таварнай), па вытворчаму абсталяванню, па матар'ялах, паліву і энергіі, па рабочай сіле (асабліва па скарыстанню рабочага часу, зарплаце і прадукцыйнасці працы, па выдатках вытворчасці і сабекошту). Разам з гэтым павінны быць даны абагуленыя ўдзельныя паказчыкі: каэфіцыент зменнасці, механізаванасці, энергаўзброенасці і інш. Усе гэтыя паказчыкі павінны быць даны ў дынаміцы.

Разглядаемы тэхпромфінплан ф-кі «Окцябр» прадстаўляе сабою каля 70 табліц, неабагуленых у сінтэзуючым дакуменце, у сапраўдным тэхпромфінплане. Сувязь паміж паказчыкамі тэтых табліц, іх уплыў на выкананне планавай дырэктывы магчыма ўскрыць толькі пры грунтоўным аналізе табліц і ўзаемным параўнанні іх разлікаў.

Ці можа такі матар'ял, змешчаны больш як на сотні падвойных старонак, стаць сродкам штодзеннага кіраўніцтва і кантроля выканання для дырэктара прадпрыемства, начальніка цэха, майстра і рабочага?

Адсутнасць аб'яднання паасобных разлікаў і паказчыкаў прывяла к таму, што паасобныя часткі плана недастаткова звязаны паміж сабою, няпоўныя, а то і зусім нават апушчаны.

Аснова ўсіх разлікаў тэхпромфінплана фабрыкі—тэхнічнае нармаванне—уведзена не па ўсіх аперацыях і вырабах (утыльцэх).

У нормах часу для выпрацоўкі поўнамерных вырабаў завуаляваны і нормы часу, неабходнага для выпрацоўкі недамеркаў (дзіцячых школьных паліто), тым часам як яны значна адрозніваюцца даўжынёю.

Так, па фасону № 3, даўжыня поўных вырабаў дасягае 94—114 см. пры выдатку 2,22 метр. матар'ялу на адзінку, і акурат такія-ж нормы часу вызначаны для фасона № 3 дзіцячага паліто, даўжыня якога дасягае толькі 75—99 см., а матар'ялу на адзінку ідзе 1,627 метр. У агульнай колькасці гэтага вырабу (33900 шт.) недамеркі складаюць 11,8 проц. (4000 шт.).

Па фасону № 6 даўжыня поўных вырабаў 94—114 см. пры 2,435 м. матар'ялу на адзінку. Тыя-ж нормы часу даны і для недамеркаў гэтага нумара даўжынёю 73—98 см. і 1,781 м. матар'ялу на адзінку. У агульнай колькасці гэтых вырабаў (60600 шт.) недамеркі займаюць 13,2 проц. (8000 шт.).

Па фасону № 8 даўжыня поўных вырабаў—94—110 см., матар'ялу на адзінку ідзе 2,172 м. Аднолькавыя нормы часу даны і для недамеркаў гэтага нумара пры даўжыні 75—99 см. і 1,671 м. матар'ялу. У агульнай колькасці гэтага вырабу (35400 шт.) недамеркі складаюць 11,8 проц. (4000 шт.).

Здаецца, зусім ясна, што ў нормах часу на выпрацоўку гэтых вырабаў (4.849 гадзін для вырабу № 3 і 5.153 для вырабу № 8) захаваны рэзервы не менш тэго проціанта, які займаюць у іх недамеркі. І сапраўды, даўжыня строчкі, напрыклад, аперацыі № 2 у вырабе № 6 пры даўжыні вырабу ў 73 см. будзе не 2300 мм., як гэта вызначана для даўжыні ў 114 см., а меншая; адсюль і часу на яе патрэбна менш.

У тэхпромфінплане фабрыкі на сярэдні месяц квартала павышаны ўсе нормы часу з тым, каб у 3-м месяцы звесці іх зноў да ўзроўню норм першага месяца. Такім чынам, база тэхпромфінплана фабрыкі—

нармаванне часу на паасобныя аперацыі і вырабы ў разглядаемым квартале дана няпоўна і недастаткова. А ад гэтай базы залежаць усе астатнія элементы тэхпромфінплана—і колькасць вырабаў, і выдатак матар'ялаў (не ўлічваючы пакуль уплыву нармавання выхаду карыснай плошчы з валавой плошчы матар'ялу), і колькасць рабочых, і абсталяванне, і калькуляцыя ў паасобных яе элементах. Усе яны ўключаюць у сябе дэфект выходнай базы—недакладнасць падлікаў у скарыстанні рабочага часу.

Рад пытанняў паўстае і адносна разлікаў колькасці матар'ялу на адзінку вырабаў. Процант карыснай плошчы з агульнай плошчы сыравіны хістаецца па асобных дэталях і вырабах ад 76,8 да 94,6.

Чым тлумачацца такія проценты? Што фабрыка мяркуе зрабіць за гэты квартал, каб павысіць процант? У матар'ялах тэхпромфінплана не знойдзем адказу. А тым часам процант карыснай плошчы мае вялікі ўплыў на сабекошт і павінен стаць важным элементам соцабавязацельстваў між паасобнымі рабочымі і брыгадамі закройнага цэха.

Не паказана ў плане і дынаміка зніжэння норм матар'ялу за пла-нуемы квартал.

Не абгрунтован неабходнымі разлікамі і баланс абсталявання. Прыводзіцца колькасць патрэбных машын, але не ўказана колькасць гадзін, патрэбных для выпрацоўкі гэтымі машынамі данай планам прадукцыі. Такім чынам з матар'ялаў тэхпромфінплана не відаць вузкіх месц фабрыкі, не выяўлен рэзерв нескарыстанага абсталявання. Не абгрунтован таксама вялікі процант рэзерва на нявыхады (7 проц., або 104 чал.).

У разліках па рабсіле (склад рабсілы) ясна не вызначаны вынікі прадугледжаных планам рацыяналізацыі мерапрыемстваў па скарачэнню колькасці неабходнай рабсілы. Сюды адносяцца: павышэнне прадукцыйнасці працы адпаведнай катэгорыі рабочых на 30 проц. з прычыны ўстаноўкі ў закройным цэху лентачных машын замест рэзных, ліквідацыя выдачы фарнітуры паагрэгатна з пераходам на агульна-фабрычную выдачу, перадача выцягвання намёткі ўцюжніцам і інш.

Ёсць рад недакладнасцей і ў кулькуляцыі, якія з'яўляюцца вынікам недакладнасцей папярэдніх разлікаў.

Зарплата на адзінку прадукцыі па недамерках такая-ж, як і па поўнамерных вырабах. Калькуляцыя вырабаў аднолькавая для пачатку і канца квартала. Не відаць дынамікі нормы выдатку матар'ялаў, хоць планам рацыяналізацыі прадугледжваецца з'эканоміць на сыравіне і матар'ялах 64.037 р., у тым ліку 13.088 р. за кошт зніжэння норм.

Ва ўвязцы планавай квартальнай калькуляцыі з гадавою няма яснасці, не відаць, які ўплыў яна будзе мець на выкананне гадовага плана па зніжэнню сабекошту. А гэта значыць, што тэхнічны разлік не ўвязан з эканамічным і з планавай дырэктывай.

У калькуляцыі не ясны шляхі барцьбы за зніжэнне сабекошту. Даюцца канчатковыя лічбы, якія склаліся пад уплывам розных фактараў (змены ў тэхнічным працэсе, у скарыстанні матар'ялаў, рабочай сілы), але не паказана, як кожны з іх уплывае на сабекошт. Прыкладна, па вырабах № 1 і № 3 (паліто зімовае з мехавым каўняром) павялічваюцца нормы выдаткаў матар'ялу на адзінку прадукцыі з 2,204 метра да 2,22 м., павялічваецца сярэдні нумар ад 47,9 да 48,5, але разам з тым павялічваецца і процант выхаду карыснай плошчы (з 89,9 да 90,3). Першы фактар паляпшае якасць прадукцыі і павяліч-

вае яе сабекошт, другі—зніжае сабекошт. Матар'ялы-ж тэхпромфінплана фабрыкі паказваюць агульную суму павелічэння каштоўнасці выпуску гэтых вырабаў на 45,4 тыс. руб., але невядома, які ўплыў на сабекошт мае барацьба за якасць гэтай прадукцыі, за яе поўнамернасць, за лепшае скарыстанне матар'ялу, як невядома і агульная змена сабекошту ў параўнанні з гадавой планавай дырэктывай.

Ясна, што такая планавая калькуляцыя недастаткова стымулюе барацьбу за лепшыя якасныя паказчыкі, за разгортванне соцспаборніцтва на аснове канкрэтных абавязацельстваў. Планавая калькуляцыя, як і ўсе планавыя дакументы, павінна быць аперацыйным дакументам, які паказвае канкрэтныя шляхі ў барацьбе за зніжэнне сабекошту і павышэнне прадукцыйнасці працы.

Няяснасць фактараў дынамікі сабекошту і прадукцыйнасці працы ў планавых дакументах спрыяла таму, што ў тэхпромфінплане няма такіх важнейшых якасных паказчыкаў, як выпрацоўка на 1 гадз. працы, на 1 рубель зарплаты, як каэфіцыент механізацыі, энергаўзброенасць, выдатак энергіі на аднаго рабочага, зрухі па гэтых паказчыках на працягу квартала і іх уплыў на выкананне планавай дырэктывы.

У матар'ялах агульна-заводскага характару няма такіх раздзелаў як план выканання капітальных работ, на якія прадугледжана расходаваць 49,5 тыс. руб.; не абгрунтаваны разлікі прыросту няскончаных вырабаў, згодна дырэктыўнаму балансу—з 200 тыс. да 247 тыс. руб., і прыросту поўфабрыкатаў.

Сказанае пра агульны тэхпромфінплан фабрыкі адносіцца і да разлікаў па асобных цэхах. Асабліва прыходзіцца адзначыць слабую распрацоўку матар'ялу па утыльцэху. Тут указан выпуск цэхам прадукцыі, фонд зарплаты, рабсіла, калькуляцыя, але няма даных аб метадах выпрацоўкі прадукцыі (тэхналагічны працэс, абсталяванне, энергія і інш.). Карацей кажучы, няма плана тэхналагічнага працэса, як базы пэўных паказчыкаў. Нічога не сказана пра цэхавыя выдаткі. Таму зусім законна паўстае пытанне, за якія-ж паказчыкі будзе змагацца ў парадку соцспаборніцтва рабочая грамадскасць цэха, які будзе канкрэтны змест соцдагавароў?

З брыгадных планаў ёсць толькі план брыгады па вырабу фасона № 6. Выходзіць, што іншыя гаспадарчыя разліковыя брыгады, калі яны толькі існуюць, працуюць без плана.

* * *

Абагульняючы гэты кароткі агляд матар'ялаў тэхпромфінплана фабрыкі, неабходна адзначыць, што ў іх разам з дэталёвай, лепшай, чым на многіх іншых прадпрыемствах, распрацоўкай раду элементаў тэхпромфінплана, асабліва па нармаванню рабочага часу, няма раду важнейшых абагуленых якасных паказчыкаў. Не аб'яднаны ў адзіную сістэму паказчыкі выканання планавай дырэктывы і ўсе матар'ялы разам; таму яны ў вялікай меры трацяць сваё значэнне, як важнейшага сродку бягучага кіраўніцтва і ўдасканалення самога плана ў працэсе яго выканання. Нерасчлененасць уплыву паасобных фактараў на элементы сабекошту і ў заводскім, і ў цэхавым, і ў брыгадным разрэзах разам з адсутнасцю планаў гаспадарча-разліковых брыгад не стымулюе, а затрымлівае разгортванне соцспаборніцтва і яго вышэйшай формы—брыгаднага гаспадарчага разліку. Няўвязка паказчыкаў квартальнага тэхпромфінплана фабрыкі з колькаснымі і якаснымі паказчыкамі гадавога не дае ўяўлення аб тым, за што-ж пера-

важна павінна была змагацца фабрыка на працягу квартала, і разам з гэтым не дазваляе падыйсці да квартальнага плана крытычна не толькі з пункту погляду ўвязкі паасобных яго элементаў, але і з пункту погляду ацэнкі іх па сутнасці. А гэта ўвязка была тым больш неабходнай, што радглядаемы квартал з'яўляецца апошнім у аперацыйным годзе.

Такавы рэзультаты нават беглага азнаямлення з матар'яламі тэхпромфінплана фабрыкі «Окцябр».

У чым прычыны ўсіх гэтых недахопаў?

У тым, што складанне тэхпромфінплана не зрабілася яшчэ звычайнаю справай на прадпрыемствах, што вакол палепшання і ўдасканалення яго недастаткова мабілізавана творчая актыўнасць шырокіх мас рабочых, ІТР і інш. спецыялістаў, што вакол гэтай справы належным чынам не разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва паміж прадпрыемствамі, што адміністрацыя, партыйныя і грамадскія арганізацыі прадпрыемства, аб'яднанні і наркаматы не падышлі блізка да вывучэння, абагулення і ўзбагачэння вопыту, як след не кіруюць гэтай справай.

*Неабходна паглыбіць работу па ўдасканаленню методыкі складання тэхпромфінпланаў прыстасоўна да канкрэтных умоў паасобных галін, паасобных прадпрыемстваў і даных ім планавых дырэктыў.*

Неабходна ўдасканаліць методыку разлікаў паасобных колькасных і якасных паказчыкаў тэхпромфінплана. Эканамічныя якасныя паказчыкі (прадукцыйнасць працы, сабекошт і інш.) павінны распрацоўвацца на аснове тэхнічных паказчыкаў (нармаванне скарыстання механізмаў і абсталявання, тэхнічнае нармаванне затрат рабочай сілы і інш.), як іх матар'яльнай базы.

Неабходна распрацаваць метады аб'яднання паасобных паказчыкаў тэхпромфінплана ў адзіную сістэму узаемаўвязаных і ўзаемаабумоўленых абагуленых паказчыкаў, нешматлікіх па сваёй колькасці, зразумелых па сваёй прастаце і канкрэтнасці, паказваючых для кіраўніцтва прадпрыемстваў і цэхаў, для брыгадзіра, для кожнага члена гаспадарча-разліковай брыгады і для кожнага рабочага канкрэтныя шляхі барацьбы за найбольш паспяховае выкананне планавай дырэктывы.

Неабходна разгарнуць даследчую работу па вывучэнню вопыту лепшых прадпрыемстваў СССР і БССР у складанні тэхпромфінплана, у вывучэнні штодзеннага вопыту разгортвання гэтай працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

У справе канкрэтнага ажыццяўлення дырэктывы XVII партыйнага з'езда:

> «перайсці ад «агульнага» і абстрактнага кіраўніцтва да канкрэтнага кіраўніцтва, ад агульных рэзалюцый да аперацыйных рашэнняў, якія грунтуюцца на вывучэнні і веданні дэталей і тэхнікі справы»,

адным з найбольш магутных сродкаў з'яўляецца ўкараненне тэхпромфінплана, як лепшага метада ўнутрызаводскага планавання, актыўная даследчая і практычная работа па ўдасканаленню методыкі і тэхнікі яго складання, бо:

> «ажыццяўленне ідэі тэхпромфінплана не мірыцца са старымі навыкамі гаспадарчага кіраўніцтва «наогул» і моцна ўздымае адказнасць усяго рабочага калектыва за сваё прадпрыемства, а ў гэтым—наша велізарнейшая сіла (**Молатаў, даклад на XVII партз'ездзе**).

**Вайман**

**Начальнік палітаддзела Рагачоўскай МТС**

# Палітаддзел Рагачоўскай МТС у барацьбе за пасняховую сяўбу

## Падрыхтоўка і правядзенне сяўбы

Пачынаючы з зімы, палітаддзел разгарнуў вялікую масавую работу па падрыхтоўцы калгасаў да сяўбы. Рыхтаваць ураджай зімою—такі лозунг кінулі мы ў гушчу калгасных мас.

Зімой рыхтаваліся кадры: старшыні калгасаў, калгасныя брыгадзіры, трактарысты, ясельныя работнікі, праведзены былі таксама кароткатэрміновыя курсы па перападрыхтоўцы калгасных брыгадзіраў, курсы парторгаў, сакратароў комсамольскіх ячэек. Усяго за зімні перыяд падрыхтавана і перападрыхтавана 299 чал.

За час да веснавой сяўбы адбыліся злёты кавалёў, канюхоў, старыкоў і старух, звенневых калгасніц, памочнікаў брыгадзіраў і нарэшце саміх брыгадзіраў паляводчых і садова-гародніх брыгад.

Своечасовая засыпка насенных фондаў, ачыстка і праверка зярна на ўсхожасць, арганізацыя абмену насення, правільная расстаноўка сіл у брыгадах, самаправерка падрыхтаванасці да сяўбы шырока былі разгорнуты ў калгасах пры ўдзеле ўсяго актыва.

Уся сума гэтых арганізацыйных і масавых мерапрыемстваў непасрэдна ў калгасе, брыгадзе забяспечыла нам перамогу ў пасеўнай кампаніі. Сяўбу зерневых, за выключэннем позніх культур—грэчкі і проса—нашы калгасы закончылі 1-га мая, на 25 дзён раней мінулага года. Сяўбу бульбы скончылі 9-га мая. Пачынаючы з 10 па 20 мая ішоў у асноўным звышпланавы пасеў. На 20 мая план сяўбы 8127 га перавыканан на 1253 га, а ўсяго нашымі калгасамі засеяна 9380 га.

Перавыкананне плана ідзе за лік перасеву аўса, ячменю, бульбы, грэчкі, вікі, проса. Сяўба прадаўжаецца.

Упартай масавай работай мы дабіліся за зіму таго, што процант калектывізаваных гаспадарак нашай зоны падвоіўся: з 21 вырас да 42.

Арганізавана 20 новых калгасаў. Не гледзячы на труднасці ў перыяд сяўбы (затрыманне з адводам зямлі, няпоўная колькасць насення, адсутнасць кармоў, слабасць цягавай сілы), мы ўсё-ж вывелі новыя калгасы ў калону перадавых у веснавой сяўбе.

Новы калгас «Хваля» з 58 гаспадарак, к 1 мая закончыў сяўбу зернавых і бульбы. Сяўбу правёў узорна, участкі замацаваны за брыгадамі, нават пастаўлены слупы з указаннем брыгадзіра і колькасці засеяных культур на палях. Пазычалі сеялку ў суседнім калгасе, каб

пабольш засеяць радковым способам. Разгорнута будаўніцтва стайняў, свірнаў. Пабудавана павець у 100 метраў даўжынёю.

Побач са старымі пачалося будаўніцтва амаль ва ўсіх новых калгасах. Зводзяць абагуленыя гумны, сараі, будуюць калгасныя дамы.

У нас зараз няма рэзка адстаючых калгасаў. Ганебна адстаўшыя ў мінулым годзе па ўсіх відах сельскай гаспадаркі калгасы «Чырвоны партызан», «Чырвоны прамень» і рад іншых выведзены ў перадавыя. Палітаддзел яшчэ перад пачаткам сяўбы зрабіў упор на тыя калгасы, у якіх была небяспека адставання.

Калгасы МТС былі вядучымі ў раёне і па тэмпах сяўбы: яны ішлі вышэй калгасаў не зоны МТС прыкладна на 20-25 проц. Якасць сяўбы ў нашых калгасах непараўнальна лепшая. Вышэй у сяўбе ішлі і аднаасобнікі нашай зоны, прыкладна на 10—12 проц.

У сувязі з прарывам у радзе калгасаў райза, мы ім дапамаглі трактарамі: працавала 8 машын. На работу заключаны дагавары.

Работнікамі палітаддзела ў самым пачатку сяўбы былі выяўлены і дрэнныя прыклады работы ў паасобных калгасах—позні выхад на поле, позняе кармленне коней, неадрэгуляванасць сеялак, непратручанасць насення, несвоечасовая падвозка, няправільная расстаноўка сіл, нізкія нормы выпрацоўкі. Так было ў калгасах «Дуброва», «3-ці рашаючы», «Праца», «Абарона». Усе гэтыя абураючыя з'явы прыходзілася выпраўляць аператыўна, на хаду.

Адмоўным у нашай рабоце была вымушаная практыка пасылкі буксірных брыгад у адстаючыя калгасы, дзе коні былі зморганы ад перагрузкі лесавывазкай, планы няроўнамерна размеркаваны. За праведзеную работу адстаўшыя калгасы налічвалі працадні калгасам, браўшым на буксір.

Але асноўная маса калгасаў у гэтым годзе як ніколі па-баявому білася за сціслыя тэрміны сяўбы, за якасць. Сеялкі працавалі ад цямна да цямна. Апрацоўка глебы, правільная задзелка насення, норма высеву правяраліся інспектарамі якасці, брыгадзірамі, старшынямі калгасаў і работнікамі палітаддзела.

На палях цяпер відаць рэзультаты баявой работы. Дружныя, густыя ўсходы яравых. Авёс, ячмень пайшоў у трубку. Азімае жыта пачало каласіцца. Узышла ранняя і позняя бульба. Бульбу пачалі баранаваць. Дажджы выправілі пасевы, асабліва ячменю, які сям-там пачаў жаўцець ад спёкі.

Стан пасеваў увогуле добры, калі не лічыць новага калгаса «Луначарскага», пасевы якога амаль напалову знішчаны градам. Калгасу аказана дапамога насеннем для паўторнага пасеву.

### Работа трактарнага парка

Трактарны парк пачаў працаваць у калгасах, прыкладна, на 3 тыдні раней, чым у мінулым годзе. Трактары былі адрамантаваны значна лепш і расстаўлены правільней. Трактарысты больш падрыхтаваны. У рэзультаце ні адзін трактар у час пасеўнай не вышаў са строю. Дробны палявы рамонт праводзіўся адразу-ж на месцы здарэння старшым механікам, які на легкавой машыне аб'язджаў трактарныя брыгады. К 20 мая план веснавога ворыва і папараў у пераводзе на мяккае ворыва выканан на 75,6 проц.

Наш план 2220 га. У перакладзе на мяккае ворыва ўзворана 1680 га. Работа трактароў ў разгары.

У самым пачатку работы трактарнага парка, не гледзячы на заключэнне дагавароў з калгасамі і масавую растлумачальную работу

вакол гэтай кампаніі, у паасобных калгасах было **яўна кулацкае супраціўленне рабоце трактароў.** Трактары накіроўвалі у нізкія балоцістыя месцы, а коней пускалі на высокія, сухія (калгасы «Авангард», імя Кліма Варашылава і рад іншых).

Гэта пытанне абгаворана было на бюро крайкома партыі і пастаўлена на прынцыповую палітычную вышыню. Кулацкія вылазкі асуджаны праз друк, праведзена масава-растлумачальная работа.

Комуніст **Каласоўскі**—старшыня калгаса «Авангард»—за яўна кулацкае супраціўленне рабоце трактароў з партыі выключан і знят з работы старшыні як дрэнны кіраўнік калгаса.

Атрымаў суровую вымову з папярэджаннем комуніст **Белян**—старшыня калгаса «Клім Варашылаў». Белян заявіў трактарысту Мадорскаму, што не пусціць трактара ў калгас, настроіў супроць трактароў калгаснікаў, якія заявілі, што з-за трактароў у іх забяруць увесь хлеб.

Стаўшы рупарам кулацкіх настрояў і гутарак, Белян не растлумачваў калгаснай масе палітычную сутнасць работы трактароў МТС. Акрамя партыйнага спагнання Белян быў раскрытыкован у друку, а яго кандыдатура, пасланая ў ЦК КП(б)Б для вылучэння на кіруючую работу ў цэнтральным апараце, была райкомам і палітаддзелам знята.

Трактарыстам у гэтым годзе створаны былі лепшыя бытавыя ўмовы. Кааперацыя снабжала лепш, лепш кармілі і калгаснікі. Якасць работы трактароў сёлета значна вышэй.

Брыгадзіры паляводных брыгад сачылі за работай трактароў і прыймалі яе. Сёлета шырока, як ніколі было разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва паміж трактарыстамі. Кожная брыгада білася за пяршынства ў аб'яўленым палітаддзелам конкурсе на лепшую трактарную брыгаду. Палітаддзелам надрукавана сталінская пуцёўка і ўручана кожнаму трактарысту.

## Соцспаборніцтва ў калгаснай брыгадзе

У адказ на адозву брыгадзіраў Міласць-Куракцінскай МТС, а таксама абвяшчэнне Ўсебеларускага конкурса на лепшую паляводчую і трактарную брыгаду палітаддзел разгарнуў вялікую арганізацыйна-масавую работу па ўцягненню ў спаборніцтва пагалоўнай большасці брыгадзіраў паляводчых, трактарных брыгад і аграномаў.

Наша палітаддзельская газета і брыгадны друк калгасаў жыва падхапілі гэтую справу. Брыгадзіры, звенневыя, трактарысты прысылалі абавязацельствы, выклікалі адзін другога на спаборніцтва ў час пасеўнай, правяралі выкананне абавязацельстваў паміж спаборнічаючымі брыгадамі, звеннямі, калгасамі, абменьваліся вопытам работы (калгас «Ленінскае жыццё», «Фрунзе» і т. д.).

Хваля спаборніцтва ў калгасах вынесла на паверх не мала раней непрыметных людзей. Цяпер ужо ўся калгасная маса ведае лепшых брыгадзіраў, арганізатараў: **Пашкоўскага** з калгаса «Чырвоны партызан», **Лебедзева**—«Чырвоны прамень», **Тімашэнка Просю**—«Чырвоны маяк», звенневага комсамольца **Бабіча Сямена**—«Пражэктар», брыгадзіраў трактарных брыгад і трактарыстаў—**Дубкова, Жыгальскага, Васільева, Брылёва і інш.**

Сёлета лепш і жывей працаваў брыгадны друк. Чырвоныя і чорныя дошкі, чырвоныя сцяжкі на трактарах, пераходны сцяг палітаддзела—усё гэта было пастаўлена на службу разгортванню соцыялістычнага спаборніцтва.

Комсамольска-маладзёжныя звенні большасці калгасаў былі вядучымі ў рабоце, па іх раўняліся многія звенні пажылых калгаснікаў.

## Асваенне цаліны і бросавых зямель

У самы разгар сяўбы пачалося ворыва цаліны, асваенне бросавых зямель. Раскарчаваць, засеяць звыш плана цаліну, асвоіць бросавыя землі—аднадушнае імкненне калгаснікаў у сувязі з рашэннем ЦК ВКП(б) і СНК БССР аб ільготах калгасам, падымаючым цаліну.

Трэба адзначыць ударную работу многіх не толькі старых калгасаў («Новы Даброцін» і інш.), але і новых, якія ўдарна праводзілі раскарчоўку і асваенне цаліны (калгасы «Хваля», «Зорка», «Рабочы» і т. д.).

На 20 мая калгасамі, паводле далёка няпоўных даных, паднята і асвоена 295 га цаліны, што пры нашым плане 340 га складае 86 проц. Уся асвоеная цаліна засеяна яравымі культурамі звыш плана.

## Ворыва папару

Сёлета веснавая кампанія пачалася раней, а таму і ворыва папару праходзіць лепш.

На 20 мая ўзнята 800 га, што пры плане ў 1600 га складае 50 проц. (весткі няпоўныя).

Во многіх нашых калгасах, якія маюць вялікую колькасць жывёлы, ворыва папару тармазілася. Справа ў тым, што ў нашым раёне пашы па калгасах размеркаваны няроўнамерна. Некаторым калгасам літаральна няма куды выганяць жывёлу, таму прыходзіцца карыстацца папарам. Гэта пытанне мы паставілі ў раёне рубам, і дабіваемся пераразмеркавання паш, сенакосу, каб стварыць кармавую базу жывёле. Неўзабаве пашы і сенакосы будуць канчаткова пераразмеркаваны.

## Барацьба за кармавую базу жывёле

Наш раён жывёлагадоўчы. Калгасы нашай зоны насычаны жывёлагадоўчымі фермамі, ствараюцца фермы і ў новых калгасах. На 20 мая калгасы закупілі і закантрактавалі ў калгаснікаў і аднаасобнікаў 464 цялят.

За стварэнне кармавой базы палітаддзел узяўся іменна цяпер, з пачатку вясны, бо потым будзе цяжка навярстаць упушчанае.

Акрамя вялікай работы па пасеву канюшыны, вікі, лугавых траў, мы правялі паход селькораў за кармавую базу: ачышчалі лугі ад камення і кочак, знімалі ціну з тых лугоў, якія ў мінулым годзе былі заліты вадою. Ужо зараз мабілізуем частку калгасаў на асушку лугоў («Чырвоная кашара»).

Узяць у гэтым годзе два ўкосы—такую задачу паставілі мы перад калгасамі. Зараз у разгары рамонт сенакасілак, кляпаюцца косы, ствараюцца звенні касцоў.

У калгасах, якія маюць далёкія сенакосы, рыхтуюцца добрыя палаткі для начлега на лугу, арганізуецца харчаванне, культабслугоўванне, каб касец у разгар сенакоса дарэмна не траціў час на хаджэнне дамоў у калгас.

МТС мае 8 трактарных сенакасілак—6 спраўных і 2 у бліжэйшы час будуць адрамантаваны ў МТС. Нашы трактарныя сенакасілкі будуць сёлета ўпершыню выкарыстаны на заліўных лугах буйных калгасаў.

8 мая палітаддзел правёў злёт пастухоў, у якім прынялі ўдзел 82 чал. Пасля злёту пастухі энергічней узяліся за пасьбу жывёлы, за правільны ўлік злучак, зьмяншэнне выпадкаў ялавасці кароў, аказанне хуткай дапамогі жывёле пры няшчасных выпадках на полі. Зараз праводзім ў калгасах работу па пераводу пастухоў на здзельную аплату.

На злёце падрабязна праінструктавалі пастухоў раённы ветурач і заатэхнік.

### Прапалка

Калгасы сёлета павінны прапалоць 3237 га зернавых культур, 550 га тэхнічных, 162 га гароду, 160 га кораньплодаў.

На 20 мая, па далёка няпоўных даных, калгасы прапалолі 440 га азімай пшаніцы і часткова кораньплодаў.

Пачалася прапалка аўса, ячменю ад сурэпіцы, якая з'явілася на палях калгасаў.

Галоўная ўвага ў прапалачнай кампаніі ўдзяляецца арганізацыі працы, складаюцца невялікія звенні з 3—5 чал., якім адводзяцца спецыяльныя ўчасткі, ліквідуецца абязлічка.

Зараз праводзяцца вытворчыя нарады памочнікаў брыгадзіраў і звенневых з удзелам калгасніц-ударніц па пытаннях прапалкі, работы ясель і падрыхтоўкі да ўборачнай. На нарады запрашаюцца аднаасобнікі. Дзве такія нарады праведзены ў Запольскім і Тіхініцкім сельсоветах.

### Падрыхтоўка да ўборачнай і пастаўка прадукцыі дзяржаве

Сёлета па калгасах нашай зоны будзе як ніколі складаная ўборка. У сувязі з ростам калектывізацыі ўборачная плошча ў нас вырасла ўдвая. Арганізавана 20 новых калгасаў. Калі ў мінулым годзе ўбіралі 8000 га, то сёлета прыдзецца ўбраць каля 16000 га. Даспяванне пасеваў чакаецца ранняе і дружнае. Таму ўжо зараз мы ўлічваем труднасці, якія стаяць перад намі ва ўборцы ўраджаю:

1) няма патрэбнай колькасці ўборачных машын—85-ці жняярак, 60 конных грабель, 35 сенакасілак;

2) для жняярак-самаскідак недастаткова запасных частак, асабліва ролікаў, якіх неабходна яшчэ, прыкладна, каля 1600 шт., аднак на складзе сельгасснаба іх дагэтуль няма;

3) няма крэдытаў на будаўніцтва ў калгасах паветак для малацьбы. Прасторныя гумны мае не кожны калгас, а ў выпадку дажджу малацьбу не спыняць-жа. Таму крэдыты на будаўніцтва паветак у калгасах трэба зараз-жа прадугледзець;

4) на рамонт 16 складаных малатарань МТС адпушчана 2330 руб. Гэта сума яўна недастаткова. Рамонт малатарань нам абойдзецца прыкладна каля 5000 руб. Такім чынам трэба ўжо зараз прадугледзець гэта пытанне і павялічыць крэдыт;

5) у мінулым годзе калгасы не мелі ў патрэбнай колькасці вясоў і гір, што тармазіла пастаўку прадукцыі дзяржаве, натураплату МТС. Лічым неабходным, каб склад сельгасснаба ўвёз для калгасаў нашай зоны 50 шт. дзесяцічных вясоў з камплектамі гір;

6) процілажарная ахова ў час малацьбы складанымі малатарнямі павінна быць пастаўлена асабліва добра. Большая палова нашых калгасаў не мае пажарных машын. Лічым неабходным завоз не менш 30 пажарных машын для нашых калгасаў.

У парадку падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі ў нас праходзіць рэйд-праверка селькораў, рамантуюцца жняяркі, сенакасілкі, працуюць курсы па падрыхтоўцы машынаведаў складаных малатарань, дзе вучыцца 20 чал.

Пры нашым актыўным удзеле праведзена нарада работнікаў загатоўчых арганізацый па пытаннях падрыхтоўкі складаў, апарата, кадраў, якія абслугоўваюць здатчыкаў у час паставак прадукцыі дзяржаве.

У перадавых калгасах пад жняяркі вылучаны лепшыя коні, якія знаходзяцца зараз на кругласутачнай пашы, рыхтуюцца свірны, рамантуюцца мяшкі і набываюцца новыя (калгас «Полымя», імя Молатава, «Ленінскае жыццё» і інш.).

У першую палову чэрвеня намячаем правесці ў калгасах вытворчыя нарады па пытаннях падрыхтаванасці да ўборкі з улікам усіх дробязей.

Пачынаем падбіраць людзей, асабліва камсамольцаў, на курсы весаўшчыкоў, каб к часу малацьбы добра падрыхтаваць.

Ужо зараз пачалі праводзіць работу па абагуленню азімых пасеваў тых аднаасобнікаў, якія ўступілі ў калгас, бо калі своечасова не абагулім азімыя пасевы, можа затармазіцца ўборка. «Будзёнавец», імя Луначарскага і старыя калгасы ўжо абагулілі азімыя пасевы, пытанне ставілася на агульных сходах і кожны даў падпіску аб сваёй згодзе.

Але ў радзе калгасаў на абагуленне не пойдзем. Справа ў тым, што многія аднаасобнікі ўвосень па-шкодніцку правялі сяўбу: дрэнна апрацоўвалі глебу, не клалі гною, засявалі на гектар 4—5 пудоў зярна. Рабілася гэта часта знарок перад уступленнем у калгас. Таму заахвочваць такіх гаспадароў абагуленнем азімых не будзем.

Каб з'эканоміць людзей і цяглавую сілу ў калгасах, якія знаходзяцца на беразе Дняпра (Кісценеўскі сельсовет), арганізуем лодкі і баржы для паставак зярна, бульбы, фруктаў водным транспартам. Прыймаем меры, каб дапамагчы гэтым калгасам набыць маторную лодку.

Улічваючы, што аднаасобнік займае яшчэ вялікае месца ў сельскай гаспадарцы нашага раёна (калектывізавана толькі 42 проц. сялянскіх гаспадарак), 25 мая праводзім, з мэтай далейшай калектывізацыі, канферэнцыю перадавых аднаасобнікаў па пытаннях вынікаў сяўбы, праполкі, падрыхтоўкі да ўборачнай і паставкі сельгаспрадукцыі дзяржаве. На канферэнцыі ставіцца пытанне **аб узаемаадносінах аднаасобнікаў з калгасамі.** Гэты вопыт думаем перанесці ў іншыя сельсоветы, што дапаможа нам у далейшай калектывзацыі і наладжванні правільных узаемаадносін калгасаў з аднаасобнікамі.

## Ахова ўраджаю і барацьба са стратамі

Як толькі стаў вядомы факт, што ў калгасе «Будзёнавец» злоўлен аднаасобнік Раніненкаў, які выкапаў 24 кгр. засеянай калгасам бульбы, што ў калгасе «Комунар» пастух Грыбоўскі Антон дапусціў патраву азімага жыта, мы адразу-ж пачалі мабілізаваць масу калгаснікаў на ахову ўраджаю, вылучэнне палявых вартаўнікоў.

Па прыкладу мінулага года, піонеры і школьнікі ўжо ўзяліся за ахову ўраджаю, мабілізуюцца на барацьбу з патравамі і стратамі, арганізаваўшыся ў 16 груп лёгкай кавалерыі. 3-га чэрвеня адбудзецца злёт лёгкай кавалерыі па пытаннях аховы ўраджаю і барацьбы са стратамі.

## Перабудова партыйнай арганізацыі

Зусім зразумела, што без перабудовы партыйнай арганізацыі, без авангарднай ролі комуніста ў калгасе, брыгадзе мы не дабіліся-б значных рэзультатаў у правядзенні сяўбы.

У гэтым годзе па-баявому працавалі ў калгасах комуністы і комсамольцы, разгортвалі партыйна-масавую работу і соцспаборніцтва ў брыгадах.

Парторг **Бернштэйн** і брыгадзір калгаса «Чырвоны партызан», кандыдат партыі **Пашкоўскі,** вывелі пры дапамозе палітаддзела самы адстаючы калгас у перадавыя. Заслуга гэтых комуністаў у тым, што яны добрыя вытворцы, уваходзяць ва ўсе дробязі калгаснага жыцця, жывуць у гушчы калгасных мас, разгарнулі спаборніцтва паміж брыгадзірамі і кожным калгаснікам, арганізавалі брыгадныя газеты, чытку газет на полі, чырвоную і чорную дошкі. Сяўба ў гэтым калгасе праведзена ўзорна, якасць высокая. Інспектар якасці тав. **Божычко** правяраў работы на палях. Бернштэйн і Пашкоўскі літаральна не спалі ў час пасеўнай. Такіх парторгаў у нас некалькі: тт. **Песін** у калгасе «Праўда», **Азаронак**—«Чырвоныя баркі», **Жылінскі**—калгас «Хваля», **Раскін**—калгас «Ленінскае жыццё», **Мазо**—калгас «Звязда».

У частцы калгасаў ёсць яшчэ парторгі, якія не разумеюць сваёй ролі, як партыйнага арганізатара мас.

Напр., парторг **Лайко** з калгаса «Чырвоная армія»—падрыхтаваны таварыш. Але замест таго, каб разгарнуць партыйна-масавую работу, мабілізаваць сваіх 3 комуністаў, 5 комсамольцаў на выкананне баявых задач у калгасе, заняўся падменай новага старшыні калгаса комуніста Балоціна. Пачаў адмяняць яго распараджэнні, дыскрэдытаваць сярод беспартыйных калгаснікаў, не ставячы пытання аб Балоціне на партгрупе. Адносіны паміж Лайко і Балоціным абвастрыліся, што кампраметавала комуніста ў вачах калгаснікаў. Работнікі палітаддзела выехалі ў гэты калгас, сабралі комуністаў, комсамольцаў, дапамаглі наладзіць правільныя ўзаемаадносіны і партмасавую работу ў калгасе.

Не мала выпадкаў, калі парторг, з'яўляючыся адначасова і старшынёй калгаса, не можа сумясціць адміністрацыйную работу з партмасавай, знайсці агульную мову з комсамольцамі, асабістыя справы ставіць вышэй агульна-партыйных задач.

Узяць хоць-бы партыйную арганізацыю калгаса «Сталіна», Запольскага сельсовета. Палітаддзел скалаціў тут ячэйку, і калгас ішоў перадавым ва ўсіх кампаніях. Аднак, за апошні час комуністы ў калгасе скампраметавалі сябе. Парторг **Губскі** і кандыдат партыі **Мартынаў** пачалі падседжваць старшыню калгаса комуніста **Ахрамкова**, сабраўшы вакол сябе адсталы слой калгаснікаў, узяўшы пад сваю апеку падкулацкія элементы калгаса. Комуніст Губскі, загадваючы жывёлагадоўчаю фермай, давёў яе да жахлівага стану. Кандыдат партыі Мартынаў, будучы кладаўшчыком, растраціў калгаснае зярно. Сярод комуністаў разрасліся склокі, п'янства. Падседжванне Ахрамкова цягнулася некалькі месяцаў.

Комуніст Ахрамкоў, добра спраўляючыся з усімі работамі ў калгасе, дапусціў сам рад бясчынстваў, у прыватнасці трымаў у сябе больш 1000 руб. калгасных сродкаў, не прыбыткуючы іх, груба камандаваў калгаснікамі, адміністраваў.

У калгас выязджала спецыяльная камісія для расследвання справы на месцы. Пастановаю бюро райкома і палітаддзела парторг Губскі і

кандыдат партыі Мартынаў з партыі выключаны і справа аб іх праступках перадана следчым органам для прыцягнення да судовай адказнасці.

Ахрамкоў знят з пасады старшыні калгаса і атрымаў вымову з папярэджаннем. Прыняты меры да аздараўлення калгаса.

Наша партыйная арганізацыя ў калгасах, пасля чысткі, налічвае 45 членаў і 27 кандыдатаў партыі. У калгасах—4 пярвічныя партыйныя арганізацыі, 10 партгруп, а таксама афармлены 29 комуністаў адзіночак парторгамі.

17 мая былі скліканы ўсе комуністы нашай зоны. Абгаварылі вынікі сяўбы, перабудову работы партыйных звенняў, абмеркавалі ўрокі партарганізацыі калгасаў «Сталіна» і «Чырвоная армія», мабілізавалі комуністаў на разгортванне партмасавай работы ў брыгадзе, на глыбокую прапрацоўку рашэнняў XVII партз'езда, падрыхтоўку да ўборачнай, праполачнай кампаніі і пастаўкі прадукцыі дзяржаве.

У бліжэйшы час склікаем спачуваючых, каб больш наблізіць іх да партыйнай арганізацыі.

**У далейшай рабоце ставім наступныя задачы:**

1. Дабіцца праз. цэнтральныя арганізацыі, каб для нашых калгасаў адгружаны былі ўборачныя і пажарныя машыны, вагі з гірамі, запасныя часткі да жняярак, адпушчаны крэдыты для будаўніцтва паветак у калгасах і дадатковыя крэдыты МТС на рамонт складаных малатарань.

2. Высоўваем пытанне аб выданні спецыяльнага зборніка прыкладных норм выпрацоўкі па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі, бо калгасы блытаюцца ў такім важным пытанні, як нармаванне і ацэнка працы і вельмі часта ўстанаўляюць свае нормы, часам разбазарваючы працадні, недаацэньваючы працу калгаснікаў.

3. Паколькі прыкладныя вытворчыя планы складзены ва ўсіх калгасах, але, на жаль, увесь час ляжаць у папках праўленняў калгасаў, праз палітсектар ставім пытанне аб тым, каб прыкладны вытворчы план калгаса надрукаваць у выглядзе плаката. Запоўніўшы план, праўленне калгаса павінна вывесіць яго на відным месцы, каб калгасныя масы маглі кантраляваць выкананне. Лічу, што нашу прапанову трэба ажыццявіць і як мага хутчэй. Насценны ілюстраваны прыкладны вытворчы план трэба выдаць для ўсіх калгасаў.

4. Будаўніцтва ў калгасах ідзе бясплянава, у раёне ніхто ім не кіруе, раённы тэхнік будуе часам без уліку перспектыў далейшай калектывізацыі, няма прыкладных праектаў кароўнікаў, свінарнікаў, стайняў, свірнаў і т. д. і т. д. У большасці калгасаў саматужна, па-старынцы будуюць падрадчыкі, што дорага абыходзіцца.

Ставім пытанне аб тым, каб кожная МТС мела тэхніка-будаўніка, які займаўся-б не толькі будаўніцтвам у МТС, але і ў калгасах.

5. Па нашай прапанове раённыя арганізацыі прынялі рашэнне адкрыць дом адпачынку і культуры калгасніка. Ставім перад ім задачу даць ударнікам-калгаснікам і калгасніцам за 2 тыдні—не толькі адпачынак, але і веды. Будаваць будзем сродкамі і сіламі калгасаў.

Прашу палітсектар, каб Народны камісарыят аховы здароўя дапамог нам у гэтай справе. Нам патрэбен праект і план будаўніцтва. Трэба, каб да нас прыехаў па гэтаму пытанню спецыяліст з Наркомаховы здароўя.

**Гарэлік**

**Дырэктар швейнай фабрыкі „Окцябр“**

# Першыя вынікі перабудовы работы ф-кі „Окцябр“

Чырвонаштандарная швейная фабрыка «Окцябр», як і наогул уся наша маладая фабрычная швейная прамысловасць, пачала сваё існаванне пасля Окцябрскай рэволюцыі, і толькі ва ўмовах совецкай улады, дзякуючы правільнаму правядзенню ленінскай нацпалітыкі, дасягнула свайго сучаснага развіцця. З невялічкай саматужнага тыпу майстэрні, якая ў 1920—21 г. выпускала ваеннае абмундзіраванне, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву комуністычнай партыі, вырасла буйнае індустрыяльнае прадпрыемства з 1600 рабочых, пабудаванае па канвеернай сістэме па апошняму слову тэхнікі, з узорнымі соцбытавымі ўстановамі: яслі на 200 дзяцей, сталовая, рабочы пасёлак на 56 кватэр. За гэты перыяд фабрыка выхавала здаровы пролетарскі касцяк як рабочых, так і адміністрацыйна-тэхнічнага персанала.

За апошнія гады фабрыка мае такія асноўныя паказчыкі ў сваёй рабоце:

| Выкананне плана ў проц. | 1932 г. | 1933 г. | І-шы квартал 34 г. |
|---|---|---|---|
| Па выпуску прадукцыі ў цэннасным выражэнні . . . . . . . . . . | 100.5 | 101,0 | 103,0 |
| Кольк. раб. . . . . . . . . . . . | 100,3 | 99,5 | 98,4 |
| Прадукц. працы па выпрац. на 1 раб. . . | 100,1 | 101,5 | 104,7 |

Кіруючыся пастановамі 17-й партканферэнцыі, XVII партз'езда ВКП(б) і XV партз'езда КП(б)Б аб палепшанні якасці прадукцыі і задавальненні попыту шырокага спажыўца—рабочых і калгаснікаў—фабрыка, пачынаючы з 1933 г., карэнным чынам перабудоўвае сваю работу. Перабудаваны ўсе тэхналагічныя працэсы па прынцыпу ўзбуйненых аперацый. Раней адна аперацыя працягвалася 90—120 сек., зараз сярэдні рытм працэса складае 220—230 сек., што значна палепшае якасць. У асноўным нормы пабудаваны на падставе тэхнарміравання, што садзейнічае ўкараненню тэхпланавання і аказвае станоўчы ўплыў як на выкананне плана, так і на палепшанне якасці прадукцыі. У тэхналагічны працэс уведзен цэлы рад дадатковых аперацый па палепшанню якасці. У 1934 г. фабрыка намнога павялічыла

колькасць выпускаемых фасонаў: у летні сезон 1933 г. выпускалася 9 фасонаў, а ў гэтым годзе—16 фасонаў, больш прыгожых і складаных.

У галіне палепшання якасці прадукцыі за апошні год фабрыка мае нядрэнныя паказчыкі і ў 1933 г. на Ўсесаюзным конкурсе прадпрыемстваў швейнай прамысловасці атрымала 3-ю прэмію—17.000 руб. За першы квартал 1934 г. вытворчы брак па фабрыцы складае 0,47 проц., супроць плана 0,70 проц., а пераробак—0,22 проц., супроць плана 0,50 проц.

Фабрыка дабіваецца сваіх поспехаў пры непасрэднай дапамозе і правільным кіраўніцтве партыйнай арганізацыі, якая здолела мабілізаваць увагу ўсёй грамадскасці на выкананне плана і палепшанне якасці прадукцыі. У цэхах і паасобных брыгадах шырока разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва, усяго па фабрыцы налічваецца 955 ударнікаў. Штодзенна ў брыгадах перад пачаткам работы праводзяцца сходы, дзе абмяркоўваюцца змена-сустрэчныя планы, падводзяцца вынікі работы мінулага дня і т. д.

Барацьба з бракаробамі вядзецца цэлым радам мерапрыемстваў грамадскага ўздзейнічання: вывешванне светлафораў над рабочым месцам бракаробаў, арганізацыя таварыскіх судоў, вывешванне на чорную дошку, выключэнне з радоў ударнікаў і т. д.

Перабудова метадаў кіраўніцтва, а таксама парт. і профработы адпаведна з пастановамі *XVII з'езда ВКП(б) зрабіла добры ўплыў ва ўсіх галінах работы. У цэхах і паасобных брыгадах узмацнілася* адзінаначалле і палепшылася абслугоўванне. Зараз кожнай брыгадай кіруе майстар, які адказвае за яе работу з пачатку да канца і за выкананне плана па ўсіх паказчыках. Яму падпарадкаваны: нам. майстра, кантралёр і прыёмшчык. Начальніку цэха перададзены падсобныя рамонтныя рабочыя, гаспадарчыя, да паасобных цэхаў прымацаваны нарміроўшчыкі. У самім кіраўніцтве фабрыкі, замест ранейшых сектароў (ТНБ, планава-вытворчага, тэхнічнага) створан планава-вытворчы аддзел, які кіруе і адказвае за ўсю планава-вытворчую дзейнасць фабрыкі.

Перабудова партыйнай работы забяспечыла ліквідацыю пасяджэнчай мітусні і функцыяналку ў рабоце партарганізацыі, павысіла адказнасць за даручэнні, палепшыла кантроль за іх выкананнем. Гэтымі дырэктывамі кіравалася партарганізацыя фабрыкі, прыступаючы да выканання рашэнняў XVII партз'езда па арганізацыйнаму пытанню. Замест ранейшых 9 цэхавых парт'ячэек і 32 партгруп па брыгадах арганізаваны 8 партгруп па цэхах і 22 па брыгадах.

Перабудавала сваю работу і профарганізацыя. Замест 10 цэхкомаў створана 5 цэхпрофарганізацый і 35 профгруп. У брыгадах стала адчувацца профгрупа, яна больш аперацыйна і самастойна вырашае кожнае пытанне. Галоўны ўпор партыйны камітэт зрабіў на тое, каб падабраць і правільна расставіць партыйную сілу ў цэхах і брыгадах, вылучыць у якасці парторгаў цэхаў і брыгад самых лепшых, аўтарытэтных камуністаў і вытворцаў.

Вось прыклады работы паасобных партгруп:

1-ы цэх, 2-я змена—парторг т. **Фрыд**, начальнік цэха т. **Чорнаморац**, прафорг т. **Гардон.** У гэтай змене 338 рабочых, з іх ударнікаў 180, камуністаў 34, комсамольцаў 32. Усе рабочыя займаюцца тэхвучобай. Тэхэкзамен здалі дагэтуль 50 чал., з іх на выдатна—27 чал. Вось факт з аперацыйнай работы тав. Фрыд: 14/III яна даручыла члену партыі тав. Бернштэйну праверыць у брыгадзе 8-га фа-

сона факты выпуску прадукцыі дрэннай якасці. Заданне было выканана, прычым выяўлены рабочыя, якія выпускаюць дрэнную якасць. Зараз-жа склікалі сход партгрупы і абгаварылі гэты факт. Выяўленыя віноўнікі прыцягнуты да адказнасці.

Лепшай з'яўляецца партгрупа 17-га фасона з парторгам тав. **Фрыдберг,** майстрам тав. **Крыгель,** прафоргам тав. **Яўмененка.** Дзякуючы канкрэтнаму аперацыйнаму кіраўніцтву трыкутніка, гэта брыгада перавыконвае план, не дае браку і пераробак. У брыгадзе 31 чал. Усе яны прайшлі тэхвучобу, прычым соцтэхэкзамен на выдатна здалі 22 чал., а астатнія на добра і здавальняюча. Гэта брыгада атрымала першынства ў фабрычным конкурсе і заваявала ганаровае імя тав. Сталіна.

Брыгада 15 фасона з парторгам т. **Гольдберг,** майстрам тав. **Рохкінд,** прафоргам т. **Ізрайлевіч,** таксама дае ўзоры бальшэвіцкай барацьбы за промфінплан і якасць прадукцыі.

Гэта брыгада працуе без браку і пераробак. Увесь склад брыгады—34 чал.—прайшлі тэхвучобу, прычым тэхэкзамен на выдатна здалі 19 чал.

У выніку перабудовы партыйнай работы і канкрэтнага аперацыйнага кіраўніцтва, першы цэх 2-й змены дабіўся наступных паказчыкаў: промфінплан па выпуску прадукцыі за 4 месяцы 34 г. выканан на 102 проц., за 10 дзён мая—на 104 проц., пераробкі складаюць 0,22 проц., супроць плана 0,5 проц. і вытворчы план 0,18 проц., супроць плана 0,7 проц.

Распрацоўка на фабрыцы матар'ялаў XVII партз'езда і даклада любімага правадыра т. Сталіна выклікала новы ўздым вытворчага энтузіязма калектыва, узмацненне барацьбы за выкананне плана, за добрую якасць, за аўладанне тэхнікай вытворчасці. У распрацоўцы даклада тав. Сталіна па школах і іншых гуртках удзельнічала 475 чал., з іх комуністаў 185 чал., комсамольцаў 120 чал. Акрамя таго, распрацоўка даклада тав. Сталіна праводзілася на 67 рабочых кватэрах, дзе ўдзельнічала 1005 рабочых і 723 жон рабочых. Гэты метад распрацоўкі выклікаў вялікую зацікаўленасць усіх рабочых.

Для інструктажа паасобных партгруп і парторгаў пры парткоме склікаюцца кароткія (па 30—40 мінут) інструкцыйныя нарады партарганізатараў цэхаў і брыгад. Кожнаму даецца заданне на цэлую пяцідзёнку. Прыкладам палепшання аперацыйнага кіраўніцтва ў выніку перабудовы партыйнай работы служаць наступныя факты: 13/V—34 г. а 9 гадзіне ўвечары советам сталоўкі выяўлен дрэннай якасці абед з папсаваным мясам. Парторг 2-га цэха тав. **Капілевіч** і прадстаўнік совета зараз-жа давялі аб гэтым да ведама парткома. На заўтра-ж гэта пытанне было вырашана, і з работы знят кухар. Падобны факт быў выяўлен у сталовай 23/XI—33 г., аб чым склалі акт і перадалі ў партком, але толькі праз 8 дзён былі зроблены вывады, бо раней не было магчымасці склікаць бюро парткома. Другі факт: у снежні 33 г. ускрыт быў выпадак выпуску дрэннай прадукцыі ў шоўкавай ленце. Справа, пасля разбору цэх'ячэйкай, была перадана ў партком, і толькі праз 10 дзён вынесена пастанова. Цяпер-жа такія пытанні вырашаюцца безадкладна, аперацыйна.

Калі раней ўвесь партактыў фабрыкі складаўся толькі з членаў бюро ячэек і парторгаў, то ў перыяд перабудовы партыйнай работы партарганізацыя фабрыкі здолела арганізаваць новы актыў з партыйных і беспартыйных рабочых са стажам ад 10—25 год, якія актыўна ўдзельнічаюць у грамадскай рабоце.

Пачынаючы з другой паловы 1933 г. і асабліва з пачатку гэтага года, па фабрыцы шырока разгарнулася тэхвучоба. Зараз на фабрыцы займаецца 1.010 рабочых, з якіх у гуртках 310 чал. і масавую тэхвучобу праходзяць 700 чал. непасрэдна ля рабочага месца за лік 8-й гадзіны. Абсталёван тэхгабінет, бібліятэчка з тэхнічнай літаратурай, выходзіць насценгазета, дэманструюцца кіно-фільмы па швейных машынах. Акрамя заняткаў у гуртках, праводзяцца кансультацыі кіраўнікоў гурткоў па ўсіх пытаннях праграмы тэхмінімума. Усе занятыя тэхвучобай сур'ёзна рыхтуюцца да экзаменаў. Атрымаць значок «ЗОТ»—стала, у сапраўдным сэнсе гэтага слова, справай гонару кожнага рабочага-ўдарніка. Соцтэхэкзамен усяго здала 181 чал., у тым ліку на выдатна—84 чал. Вынікі тэхмінімума пачалі ўжо адчувацца ў цэхах; палепшылася якасць прадукцыі, выконваецца промфінплан, скараціліся выпадкі тэхнічнага прастою з прычыны рамонту абсталявання.

Асабліва вынікі гэтыя адчуваюцца ў двух комсамольскіх брыгадах фасонаў 15 і 17, дзе ўсе рабочыя праходзілі вучобу ў гуртках тэхмінімума, як, напр., брыгада № 15 выканала план за красавік на 106,3 проц., пераробак зусім не мела, брыгада фасона № 17 за красавік выканала план на 115 проц., пераробак мела на 0,005 проц. Паасобныя работніцы, як тт. **Масткова**, **Сельц**, раней не выконваўшыя плана, здаўшы тэхэкзамен—перавыконваюць.

На фабрыцы аднак не мала яшчэ недахопаў. Не на ўсіх участках вядзецца належная барацьба за палепшанне работы. Так напр., у пачатку мая выяўлены наступныя факты: у рабочага **Канцлера** (брыгада фасона № 20), які ўвесь час лічыўся ўдарнікам, ускрыта шмат пераробак і браку, ад тэхвучобы ён адмовіўся. Таварыскі суд вынес пастанову перавесці гэтага рабочага ў ніжэйшы разрад і прапанаваць яму абавязкова прайсці тэхмінімум. Таксама выяўлена работніца-бракароб **Рубенчык** (брыгада фасона № 21), якая на працягу 3—4 месяцаў выпускала брак і пераробкі, не звярачаючы ўвагі на інструктаж майстра; ад вучобы ў гуртках тэхмінімума адмовілася. Пастановай таварыскага суда гэта работніца знята з работы.

Ёсць выпадкі нядбайных адносін паасобных ІТР да работы. Гэта было ў маі месяцы перад чарговым адпачынкам. Дзякуючы дэмабілізацыйным настроям, некаторыя прыёмшчыкі прапусцілі прадукцыю дрэннай якасці, адзін з іх—прыёмшчык **Эпштэйн**, які наогул сістэматычна, не гледзячы на неаднакротныя ўказанні адміністрацыі, прапускаў брак, быў зняты з работы. Другі прыёмшчык, т. **Левенчык**, зняты з работы і пераведзен на аперацыю ў працэсе. Ёсць яшчэ работнікі, якія атрымалі іншыя спагнанні.

Недахопы ў рабоце партыйнай арганізацыі фабрыкі—гэта слабы кантроль выканання пастаноў наркома, недастатковая ўвага партмасавай рабоце. Некаторыя партарганізатары яшчэ не ўсе пытанні навучыліся самастойна вырашаць і звярачаюцца за санкцыяй у партком. Слаба кіраваў партком нізавым фабрычным друкам.

Дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партарганізацыі, фабрыка дабілася значных дасягненняў ў сваёй рабоце, але ёсць яшчэ рад недахопаў, якія трэба выправіць у бліжэйшы час. Фабрыка не навучылася культурна працаваць, не займалася вывучэннем запатрабаванняў спажыўца. Не ліквідаваны такія недахопы, як выпуск вырабаў з тканін неадпавядаючых колераў і сартоў, з неадпаведнай фарнітурай. Колькасць выпускаемых фасонаў хоць і ўзрастае ў параўнанні з мінулым годам, але ўсё-ж іх трэба яшчэ больш павялічыць. Даволі

часта прад'яўляюцца Саюзшвейзбытам акты на штраф за нядобраякасную прадукцыю.

Пачынаючы з чэрвеня, фабрыка пераходзіць на пашыўку зімовага асартымента і павялічвае колькасць рабочых на 100 чал. У зімнім сезоне фабрыка будзе выпускаць 10 фасонаў зімовых паліто, тады як летась выпускалася 6. Увагу ўсяго рабочага калектыва трэба будзе мабілізаваць на тое, каб па-большэвіцку асвоіць новыя тэхналагічныя працэсы, прыспасобіць да іх новых рабочых.

Яшчэ з большай напружанасцю весці барацьбу за добрую якасць, за выкананне плана па ўсіх паказчыках, за ўшчыльненне рабочага дня, за культурную работу, за чыстату рабочага месца, палепшыць культбытавое абслугоўванне рабочых, вывучыць і задаволіць узросшыя запатрабаванні спажыўца—вось задачы, якія на бліжэйшы перыяд стаяць перад фабрыкай і якія фабрыка безумоўна выканае, кіруючыся дырэктывамі XVII партз'езда, пад непасрэдным кіраўніцтвам нашай слаўнай комуністычнай партыі.

**Ільюшын**

# Ленін у барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм [1])

З самага пачатку афармлення большэвізма і выпрацоўкі праграмы РСДРП Ленін ні на мінуту не спускаў з-пад увагі неабходнасці для пролетарыята самай паслядоўнай і рашучай барацьбы з усякім нацыяналізмам і нацыянальным прыгнечаннем, як найвялікшым тормазам інтэрнацыянальнага адзінства рабочых нацыянальнасцей царскай Расіі. Гэта задача Леніным ставілася і вырашалася ў прамой сувязі з вырашэннем агульна-палітычных, тэарэтычных і практычных, тактычных і арганізацыйных пытанняў большэвізма. Ленінская барацьба за карэнныя прынцыпы большэвізма з'яўлялася разам з тым барацьбой за пролетарскі інтэрнацыяналізм.

У барацьбе з «эканамізмам» у рабочым руху Ленін разам з агульнай абаронай марксізма ад рэвізіяністаў і апартуністаў адстойваў і інтарэсы пролетарскага інтэрнацыяналізма. І гэта зразумела, бо толькі рэволюцыйная барацьба за самастойныя палітычныя патрабаванні пролетарыята магла ўзняць яго класавую барацьбу на вышэйшую ступень, надаць гэтай барацьбе ўсерасійскі рэволюцыйны размах. У гэтай сувязі Ленін нястомна змагаўся як супроць спроб патапіць рабочы рух у вузкацэхавых, крохаборніцкіх інтарэсах рабочага класа, так і супроць мясцовай вузка-нацыянальнай абмежаванасці і раздробленасці рэволюцыйнай барацьбы.

Ленінская барацьба за стварэнне адзінай маналітнай цэнтралізаванай большэвіцкай партыі, як арганізатара і кіраўніка палітычнай барацьбы пролетарыята, адначасова з'яўлялася барацьбой і за інтарэсы пролетарскага інтэрнацыяналізма. Толькі стварэнне такой партыі, партыі новага тыпу, з'яўлялася першай прадпасылкай маналітнасці, арганізаванасці і класавай згуртаванасці пролетарыята розных нацыянальнасцей. У гэтай сувязі Ленін да канца выкрываў нацыяналізм і сепаратызм Бунда, які прапаведваў федэрацыйны прынцып ва ўнутрыпартыйных узаемаадносінах і выстаўляў сябе ў якасці «адзінага прадстаўніка яўрэйскага пролетарыята». Ленін выкрыў бундаўскую ідэю «самастойнай палітычнай партыі» яўрэйскага пролетарыята, як ідэю, якая зацямняе класавую свядомасць яўрэйскіх рабочых, якая азначае раскол, раз'яднанне пролетарскага руху і прымірэнне з царызмам.

1) Канец артыкула. Пачатак гл. у № 9 час. „Б Б".

«Праклятая гісторыя самадзяржаўя,—пісаў Ленін у 1903 г.,— пакінула нам у спадчыну грамадную **адчужанасць** рабочых класаў розных народнасцей, прыгнятаемых гэтым самадзяржаўем. Такая адчужанасць ёсць найвялікшае зло, найвялікшая памеха ў барацьбе з самадзяржаўем, і мы не павінны ўзаконьваць гэтага зла, асвяшчаць гэтай агіднасці ніякімі «прынцыпамі» партыйнай асобнасці ці партыйнай «федэрацыі» (Ленін, т. V, стар. 343—344).

Інтарэсы пролетарскага інтэрнацыяналізма Ленін абараняў і тады, калі ў барацьбе з меншавізмам даводзіў рэволюцыйную ролю пролетарыята, як гегемона, і галоўнай рухаючай сілы дэмакратычнай рэволюцыі. У гэтай сувязі Ленін абгрунтаваў зацікаўленасць пролетарыята ў ажыццяўленні буржуазных свабод, палітычных дэмакратый, у тым ліку і права нацый на самавызначэнне, як больш свабоднай, яснай і адкрытай арэны класавай барацьбы з буржуазіяй. Ленін паказаў неабходнасць скарыстання ў барацьбе з царызмам магчымых саюзнікаў і падрыхтоўкі ўмоў для пролетарскай рэволюцыі.

Пролетарская лінія ў нацыянальным пытанні Леніным таксама ставілася ў цесную сувязь з агульнай абаронай рэволюцыйнай ролі сялянства. З гэтага боку нацыянальнае пытанне разглядалася ім, як пытанне па сваёй сутнасці сялянства, а нацыянальна-вызваленчы рух звязваўся з аграрнай рэволюцыяй і вызваленнем ад феадальных пут.

Нарэшце, у інтарэсах забяспечання інтэрнацыянальнага адзінства барацьбы расійскага пролетарыята Ленін выпрацаваў праграмную лінію пролетарыята ў нацыянальным пытанні, развітую ім у цеснай сувязі з тэорыяй перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў рэволюцыю пролетарскую.

Пры вырашэнні карэнных пытанняў пролетарскай стратэгіі, палітыкі і тактыкі Ленін заўсёды меў на ўвазе, што ва ўмовах самага рэакцыйнага векавога прыгнечання нацыянальнасцей царскай імперыі «асабліва цяжка і асабліва важна тут задача зліцця класавай барацьбы рабочых прыгнятаючых і рабочых прыгнечаных нацый».

Адзінай партыяй, якая ўсур'ёз абвясціла рэволюцыйны лозунг права нацый на самавызначэнне, на самастойнае палітычнае існаванне, была ленінская партыя. Толькі партыя большэвікоў абвясціла непрымірымую барацьбу супроць нацыянальнага прыгнечання, прывілеяў і заняволення—супроць усякага нацыяналізма і перш за ўсё вялікарускага, як найбольш грознага, крывавага ката рэволюцыі. І не толькі абвясціла, а ўказала канкрэтныя шляхі рэволюцыйнага вырашэння нацыянальнага пытання, а, іменна—у сувязі і на базе рэволюцыі, на глебе барацьбы за карэнныя класавыя інтарэсы мас, за ўладу рабочых і сялян, за аграрную рэволюцыю, за дэмакратычную рэспубліку. І толькі на гэтым шляху мысліма было згуртаванне класавых сіл і рэволюцыйная расправа з нацыянальным прыгнечаннем.

У плане перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў пролетарскую Ленін разгарнуў большэвіцкую тактыку скарыстання рэволюцыйных нацыянальна-вызваленчых рухаў, як саюзнікаў пролетарскай барацьбы, і канкрэтна гістарычнай пастаноўкі пытання аб адносінах пролетарыята да «нацыянальнай» буржуазіі на розных этапах рэволюцыі. У агульным сэнсе ленінская пазіцыя ў гэтай сувязі была выражана ў наступных словах: «Марксіст прызнае гістарычную законнасць нацыянальных рухаў. Але, каб гэта

прызнанне не ператварылася ў апалогію нацыяналізма, трэба, каб яно абмяжоўвалася найстражэй толькі тым, што ёсць прагрэсіўнага ў гэтых рухах, каб гэта прызнанне не вяло да зацямнення пролетарскай свядомасці буржуазнай ідэалогіяй». Яшчэ напярэдадні II з'езда партыі Ленін падкрэсліў, што

«безумоўнае прызнанне барацьбы за свабоду самавызначэння зусім не абавязвае нас падтрымліваць усякае патрабаванне нацыянальнага самавызначэння. Соцыял-дэмакратыя, як партыя пролетарыята, ставіць сваёй станоўчай і галоўнай задачай садзейнічанне самавызначэнню не народаў і нацый, а пролетарыята ў кожнай нацыянальнасці. Мы павінны заўсёды і безумоўна імкнуцца к самаму цеснаму злучэнню пролетарыята ўсіх нацыянальнасцей і толькі ў асобых, выключных выпадках мы можам выстаўляць і актыўна падтрымліваць патрабаванні, якія хіляцца к стварэнню новай класавай дзяржавы ці к замене поўнага палітычнага адзінства дзяржавы больш слабым федэратыўным адзінствам і т. д. (**Ленін**, т. V, стар. 337).

Ва ўмовах нечуванага нацыянальнага прыгнечання царскай Расіі рэволюцыйная барацьба за дэмакратычны прынцып права нацый на самавызначэнне з'яўлялася абсалютна неабходным этапам і прадпасылкай барацьбы за соцыялістычны прынцып «самавызначэння пролетарыята». У барацьбе з царызмам пролетарыят мог мець і меў сваіх саюзнікаў, вырастаючых на глебе паліцэйскага, памешчыцка-прыгонніцкага, нацыянальна-каланіяльнага і іншага прыгнечання. Справа пролетарыята была—умець уліць усякую народную барацьбу супроць паасобных ліхіх гадзін царызма і імперыялізма ў агульны паток рэволюцыйнай барацьбы супроць імперыялізма ў цэлым.

«У кожным буржуазным нацыяналізме прыгнечанай нацыі,—пісаў Ленін,—ёсць агульна-дэмакратычны змест **супроць** прыгнечання і гэты якраз змест мы, безумоўна, падтрымліваем, строга выдзяляючы імкненне к сваёй нацыянальнай выключнасці,- змагаемся з імкненнямі польскага буржуа давіць яўрэя і т. д. і т. д.».

Гэта тым больш пільная задача ва ўмовах ўсё ўзмацняючагася ідэйна-палітычнага блока імперыялістычнай буржуазіі з царызмам, Струве і Мілюковых з Пурышкевічамі. У гэтых умовах усякі, хто замахваўся на царызм, тым самым немінуча ўдараў па імперыялізму. Адначасова Ленін указваў, што «нацыянальная» буржуазія, калі і прымае ўдзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, то заўсёды са сваімі класавымі інтарэсамі і на пэўным этапе здраджвае інтарэсам нацыянальна-вызваленчай барацьбы і пераходзіць у лагер рэакцыі і контррэволюцыі.

Жывою ілюстрацыяй і яркім пацверджаннем ленінізма ў гэтых адносінах з'яўляецца пракаціўшаяся хваля нацыянал-рэфармізма ў каланіяльных і поўкаланіяльных краінах. Перад тварам разгортваючайся **рэволюцыйнай** нацыянальна-вызваленчай барацьбы народных мас, узначальваемых пролетарыятам, гандызм у Індыі, гоміндан у Кітаі, вафд у Егіпце, Кут-элватані ў Сірыі, арабскі выканком у Палестыне, гарвеізм у негрыцянскіх краінах—перайшлі ў лагер імперыялістычных драпежнікаў, сталі смяротнымі ворагамі нацыянальна-каланіяльных рэволюцый.

Карэнная прынцыпова-непрымірымая процілегласць існавала паміж ленінскай лініяй барацьбы за дэмакратычнае ператварэнне цар-

скай Расіі і лініяй буржуазных і дробна-буржуазных партый. Ленінская лінія была прадыктавана інтарэсамі рэвалюцыйнай барацьбы з капіталізмам за пролетарскую рэвалюцыю, за заваяванне дыктатуры пролетарыята. Буржуазныя і дробна-буржуазныя партыі, кадэты, эсэры, Бунд, Беларуская соцыялістычная грамада, Польская партыя соцыялістычная і інш. выступалі ярымі ворагамі пролетарскай дыктатуры ў інтарэсах палепшанага і падноўленага капіталізма. Ленін стаяў за рашучую ломку рэштак феадалізма і самадзяржаўя. Дробна-буржуазныя партыі перад перспектывай развіцця рэвалюцыйнай ініцыятывы мас зусім не ставілі, і па сваёй класавай прыродзе і не маглі ставіць, пытанне аб рэвалюцыйным зруйнаванні сярэдневяковых рэштак і крывавай расправы з царызмам і яго паліцэйскім прыгнечаннем. Іх лінія гэта—лінія кампрамісаў, прымірэнняў з царызмам, іх спецыфікум, як дробна-буржуазных дэмакратаў—у асобых формах абману мас буржуазна-дэмакратычнымі і нацыяналістычнымі фразамі.

Адпаведна гэтаму два прынцыпы проціставялі ў нацыянальным пытанні: рэвалюцыйны прынцып пролетарскага інтэрнацыяналізма і рэакцыйны прынцып буржуазнага нацыяналізма, «якія адпавядалі двум класавым лагерам усяго капіталістычнага грамадства і выяўлялі дзве палітыкі, больш таго, два светапогляды ў нацыянальным пытанні» (**Ленін**). Ім адпавядалі два непрымірыма варожыя лозунгі ў нацыянальным пытанні: *лозунг* пролетарыята—права нацый на самавызначэнне і буржуазна-нацыяналістычны *лозунг* «культурна-нацыянальнай аўтаноміі».

У шматлікіх працах Леніна—Сталіна, прысвечаных нацыянальна-каланіяльнаму пытанню, надзвычай шырока і ўсебакова разгорнута тэарэтычная распрацоўка праграмных палажэнняў ленінізма ў нацыянальна-каланіяльным пытанні і бальшэвіцкай тактыкі комуністычных партый у нацыянальна-каланіяльных рэвалюцыях. Асновай, жывой душою ленінска-сталінскага аналіза нацыянальна-каланіяльнай праблемы з'яўляецца класавая пролетарская пастаноўка пытання і на гэтай аснове барацьба супроць усякага нацыяналізма і нацыянал-апартунізма. Ленінская нацыянальная палітыка вырасла і загартавалася ў барацьбе з заядлымі ворагамі пролетарскага інтэрнацыяналізма: з грубым закаранелым, чорнасоценным вялікарускім шавінізмам і ўхілам да яго, а таксама з утончанымі праявамі буржуазнага нацыяналізма рознага толку і масцей.

Ужо ў перыяд падрыхтоўкі праграмы РСДРП (1901—1903 г.) Ленін абгрунтаваў неабходнасць у праграме партыі пункту, які абвяшчаў-бы права прыгнечаных народаў на аддзяленне. Ленін прадбачыў, што надыходзячая эпоха буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ва Ўсходняй Еўропе і Азіі немінуча ажывіць і ўзмоцніць нацыянальна-вызваленчыя рухі вякамі прыгнечаных нацыянальнасцей.

Яшчэ перад другім з'ездам партыі Ленін указваў, што праграма па нацыянальнаму пытанню павінна патрабаваць,

> «каб сапраўды соцыялістычная партыя не разбэшчвала пролетарскую свядомасць, не зацямняла класавай барацьбы, не абальшчала рабочы клас буржуазна-дэмакратычнымі фразамі, не парушала адзінства сучаснай палітычнай барацьбы пролетарыята. Іменна ў гэтай умове, пад якой толькі мы і прызнаем самавызначэнне, заключаецца ўся сутнасць» (**Ленін**, т. V, стар. 342).

Ва ўмовах нарастаючага нацыянальнага руху пункт праграмы аб самавызначэнні з'яўляўся «абсалютна неабходным». Без разнявалення

прыгнечаных нацый нямысліма было злучэнне пролетарскіх і поўпролетарскіх сіл раз'яднаных і прыгнечаных царызмам нацыянальнасцей. У гэты перыяд Ленін разам з агульнай абаронай марксізма ў тэорыі і практыцы рабочага руху ў Расіі правёў упорную барацьбу з нацыяналізмам і сепаратызмам Бунда, а таксама з ППС і іншымі дробна-буржуазнымі нацыяналістычнымі партыямі. Пазней, пры канчатковым зацверджанні праграмы на другім з'ездзе партыі, вядома ленінская барацьба супроць спроб адкінуць лозунг права нацый на самавызначэнне з боку польскіх соцыял-дэмакратаў, якім пагражала небяспека «збіцца на апартунізм і нацыяналізм з другога боку» **(Ленін)**.

Разгул нацыяналістычнай рэакцыі і «ажыўленне буржуазнага нацыяналізма», пасля паражэння рэволюцыі 1905—1907 гг., з новаю сілай высоўвае нацыянальнае пытанне ў расійскай с.-д. на віднае месца. Зноў пашыраецца ўтончаная пропаведзь буржуазнага нацыяналізма. Лозунг «нацыянальна-культурнай аўтаноміі» быў прыняты акрамя «буржуазных партый яўрэйства», Бундам і ліквідатарамі, цэлым радам дробна-буржуазных партый лева-народніцкага кірунку (Серп—соцыялістычная яўрэйская рабочая партыя, беларускай грамадой, дашнакцуцюн, грузінскія соцыялісты-федэралісты), а таксама канферэнцыяй эсэраўскіх нацыяналістычных партый у 1907 г. Канферэнцыя ліквідатараў у 1912 г., як вядома, таксама прывяла, што патрабаванне «нацыянальна-культурнай аўтаноміі», прынятае каўказскімі меншавікамі, «не ідзе ў разрэз з дакладным сэнсам» параграфа 9 партыйнай праграмы, прынятага на 2-м з'ездзе. У 1908 г. Роза Люксембург у сваёй працы «Нацыянальнае пытанне і аўтаномія» зноў падвяргае антымарксісцкай крытыцы прынцып права нацый на самавызначэнне.

У атмасферы раз'юшанай чорнасоценнай рэакцыі і ажыўлення буржуазнага нацыяналізма і нацыянал-апартунізма розных масцей летняя нарада (1913 г.) ЦК РСДРП з партыйнымі работнікамі прыняла рэзалюцыю па нацыянальнаму пытанню, дзе Ленін зноў абгрунтаваў свае нязменныя прынцыпы палітыкі пролетарскага інтэрнацыяналізма і наносіць сакрушальны ўдар па нацыяналістычных канцэпцыях буржуазных і дробна-буржуазных партый.

> «Паколькі матчым нацыянальны мір,—гаворыцца ў рэзалюцыі,—у капіталістычным грамадстве, заснаваным на эксплаатацыі, нажыве і грызні, пастолькі гэта дасягаема толькі пры паслядоўнай, да канца дэмакратычнай пабудове дзяржавы, якая забяспечвае поўнае раўнапраўе ўсіх нацый і моў».

Адстойванне права нацый на самавызначэнне, указваў Ленін, патрабуецца як асноўнымі прынцыпамі міжнароднай дэмакратыі, «так, і ў асаблівасці, нечуваным прыгнечаннем большасці насельніцтва Расіі царскай манархіяй, якая прадстаўляе самы рэакцыйны і варварскі лад у параўнанні з суседнімі дзяржавамі ў Еўропе і Азіі». Тут-жа Ленін падкрэсліваў інтарэсы пролетарскага інтэрнацыяналізма, якія патрабуюць злучэння рабочых усіх нацыянальнасцей Расійскай дзяржавы ў адзіных пролетарскіх арганізацыях—палітычных, прафесіянальных і інш.

> «Толькі такое зліянне ў адзіных арганізацыях рабочых розных нацыянальнасцей дае магчымасць пролетарыяту весці пераможную барацьбу з міжнародным капіталам і з рэакцыяй, а

роўна з пропаведдзю і імкненнем памешчыкаў, папоў і буржуазных нацыяналістаў усіх нацый, якія праводзяць звычайна свае антыпролетарскія імкненні пад сцягам «нацыянальнай культуры. **(Ленін,** т. XVII, стар. 12).

І ў гэты час, як і 10 год таму назад, ленінская барацьба ішла па двух лініях: з аднаго боку, супроць нацыяналізма і сепаратызма Бунда і іншых дробна-буржуазных партый, а, з другога боку,— супроць велікадзяржаўніцтва і ўсякіх спроб рэвізій лозунга права нацый на самавызначэнне з боку польскіх соцыял-дэмакратаў. К гэтаму перыяду адносяцца ленінскія рэфераты па нацыянальнаму пытанню ў Цурыху, Жэневе і Берне, а таксама выдатная праца Леніна: «Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню» і «Аб праве нацый на самавызначэнне», у якіх Ленін падвяргае жорсткай крытыцы «праграмныя хістанні марксістаў», а таксама выкрывае «паход апартуністаў» супроць § 9 праграмы.

У гэты перыяд т. Сталін у сваёй рабоце «Марксізм і нацыянальнае пытанне» дае разгорнутае асвятленне асноў ленінскай нацыянальнай палітыкі і наносіць знішчальныя ўдары па буржуазных канцэпцыях і нацыяналістычных праграмных устаноўках у нацыянальным пытанні. У гэты перыяд прадваеннага ажыўлення шавінізма і патрыятызма Леніным і Сталіным з вычарпальнай паўнатой развіта тэарэтычная распрацоўка нацыянальнага пытання.

Перш за ўсё Ленін вучыў строга адрозніваць дзве карэнным чынам адметныя з пункту погляду нацыянальных рухаў эпохі капіталізма.

> «З аднаго боку, гэта эпоха краху феадалізма і абсалютызма, эпоха складання буржуазна-нацыяналістычнага грамадства і дзяржавы, калі нацыянальныя рухі ўпершыню становяцца масавымі, уцягваюць так ці інакш усе класы насельніцтва ў палітыку... З другога боку...—эпоха ўпаўне склаўшыхся капіталістычных дзяржаў з даўно ўстанавіўшымся канстытуцыйным ладам, з моцна развітым антаганізмам пролетарыята і буржуазіі, эпоха, якую можна назваць пярэдаднем краху капіталізма» **(Ленін).**

Эпоха ранняга капіталізма з'яўляецца эпохай буржуазна-прагрэсіўнага нацыянальна-вызваленчага развіцця капіталізма (1789—1871 гг.). Звяржэнне феадалізма, сярэдневякоўя, абсалютызма і вызваленне ад чужаземнага ярма—вось асноўны змест гэтага перыяду.

Імперыялістычная стадыя капіталізма «з'яўляецца эпохай даспелага і параспелага капіталізма, даспелага настолькі, каб уступіць месца соцыялізму» **(Ленін).**

«З вызваліцеля нацый,—указваў далей Ленін,—якім капіталізм быў у барацьбе з феадалізмам, імперыялісцкі капіталізм стаў найвялікшым прыгнятальнікам нацый».

Адсюль гістарычны падыход Леніна да выкрыцця буржуазнага нацыяналізма, як неад'емнага элемента буржуазнай ідэалогіі. Буржуазны нацыяналізм перыяду ранняга, аб'ектыўна-прагрэсіўнага, развіцця капіталізма сваёй асновай мае найшырэйшы народны рух, узначальваемы буржуазіяй, рух, які ідзе пад сцягам барацьбы з чужанацыянальным прыгнечаннем, з феадальнай раздробленасцю і сярэдневяковай рэакцыяй за адзіную цэнтралізаваную капіталістычную дзяржаву. Ідэя «адзінства нацый», лозунгі «абароны бацькаўшчыны» і

«нацыянальнай культуры» ў гэтых умовах былі гістарычна правамерны, выражалі аб'ектыўны змест гістарычнай эпохі, з'яўляліся рэволюцыйнымі, паколькі сваім астрыём былі накіраваны супроць рэакцыі і дэспатызма.

> «125 год таму назад,—пісаў Ленін у 1914 г.,—калі не было яшчэ расколу нацый на буржуазію і пролетарыят, лозунг нацыянальнай культуры мог быць адзіным і цэльным заклікам у барацьбе супроць феадалізма і клерыкалізма».

З умацаваннем буржуазіі нацыяналістычная пропаведзь аб «адзінстве нацый» і культуры з'яўляецца толькі маскіроўкай эксплаататарскай сутнасці буржуазнага панавання. Нацыянальны сцяг скарыстоўваецца, як метад расколу рабочага соцыялістычнага руху і форма канкурэнтнай барацьбы за нацыянальнае ўдушэнне слабых, малых і адсталых народаў. Перыяд спелага капіталізма на першы план ставіць «антаганізм інтэрнацыянальна-злітага капітала з інтэрнацыянальным рабочым рухам». «Раскол «адзінай» нацыі на эксплаататараў і эксплаатуемых стаў адбыўшымся фактам». Ядро пытання, як гэта падкрэсліваў Ленін, зараз заключаецца ў тым, што «эпоха нацыянальных войн паміж еўрапейскімі вялікімі дзяржавамі змянілася эпохай імперыялістычных войн паміж імі».

Вядома, што соцыял-імперыялісты Каўцкі, Вандэрвельдэ і інш. усяляк затушоўвалі адрозненне гэтых двух эпох, адмаўлялі імперыялістычны характар сусветнай вайны 1914—1918 гг., расцэньваючы яе як вайну «нацыянальную», «народную» і нават «рэволюцыйную», пад выглядам барацьбы за нацыянальную свабоду і незалежнасць выступілі як саўдзельнікі сваёй буржуазіі ў імперыялістычным грабяжы і заняволенні, як агідныя і ліцамерныя здраднікі пролетарыята і яго інтэрнацыяналісцкай палітыкі.

Аднак, Ленін зусім быў далёк ад таго, каб размежаваць гістарычныя эпохі буржуазнага нацыяналізма адну ад другой кітайскай сцяною, або сцвярджаць адначасовы характар іх праходжання для ўсіх краін. Адным з найвялікшых метадалагічных і палітычных парокаў люксембургіянства якраз і з'яўлялася неразуменне гістарычных асаблівасцей гэтых двух эпох, якое прыводзіла Р. Люксембург да адмаўлення нацыянальных войн у эпоху імперыялізма і сур'ёзнай недаацэнкі нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных нацый і калоній.

Калі ў Заходне-еўрапейскіх краінах эпоха буржуазна-дэмакратычных рэволюцый прадстаўляла сабою даўно мінулае, то ва Ўсходняй Еўропе і Азіі яна адкрывалася толькі рускай рэволюцыяй 1905 г. Даючы аналіз расійскай рэчаіснасці, Ленін напярэдадні імперыялістычнай вайны указваў на фактары, якія характэрны для абодвух эпох. Пераход ад феадальных пут у Расіі пераплятаўся і нямінуча перарастаў у барацьбу за соцыялістычныя задачы пролетарыята. На першы план усё больш і больш высоўваецца антаганізм пролетарыята і буржуазіі, але нявырашаная задача буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі параджала буржуазна-вызваленчыя нацыянальныя рухі, як нямінучых сваіх спадарожнікаў.

Задача пролетарскай партыі заключалася ў тым, каб улічыць гэтыя асаблівасці і ўмець уліць нацыянальна-вызваленчыя рухі ў агульны паток рэволюцыйнай барацьбы з царызмам пад гегемоніяй пролетарыята з тым, каб зрабіць найбольш адкрытай і яснай арэну

класавай барацьбы з буржуазіяй. Гэтай мэце і служыў лозунг права нацый на самавызначэнне. Пры гэтым Ленін падкрэсліваў асаблівае значэнне яго ў праграме расійскай с.-д., улічваючы канкрэтна-гістарычныя асаблівасці нацыянальнага пытання ў царскай Расіі.

Прыгнечаныя нацыянальнасці ў Расіі, як вядома, складалі 57 проц. насельніцтва. Царызм адметны быў самай дзікай, крывавай ваенна-феадальнай сістэмай нацыянальна-каланіяльнага заняволення і грабяжу так званых «інародцаў». Цэлы рад «інародцаў» меў сваіх народзічаў у суседніх больш дэмакратычных дзяржавах, дзе яны карысталіся большай нацыянальнай незалежнасцю (фінны, шведы, палякі, украінцы, румыны і інш.). Нарэшце, у суседніх азіяцкіх краінах пачалася паласа буржуазных рэвалюцый і нацыянальных рухаў, якія не маглі не захваціць сваяцкія народнасці ў межах Расіі.

У гэтых умовах з асаблівао сілай супроць памешчыцкага буржуазнага нацыяналізма павінен быў прагучэць голас расійскай сацыял-дэмакратыі. «Не можа быць свабодным народ, які прыгнятае іншыя народы»—такі быў лозунг марксавай тактыкі ў нацыянальным пытанні. «Прыгнечанне «інародцаў»—палка а двух канцах. Адным яна б'е «інародца», а другім рускі народ»—такаво ленінскае канкрэтнае прымяненне марксавых узораў барацьбы к расійскай рэчаіснасці таго часу. Адсюль нястомная барацьба Леніна (большэвікоў) з чорнасоценным велікадзяржаўніцтвам ва ўсіх яго формах, з нацыянал-рэакцыянерамі тыпу Пурышкевічаў, з нацыянал-лібераламі тыпу Струве і Мілюковых, з нацыянал-дэмакратамі тыпу Пешэхонавых.

Леніным і Сталіным таксама выкрыта буржуазна-нацыяналістычная канцэпцыя нацыянальнага пытання аўстра-марксістаў (Отто Бауэр, Рэнер), як тэарэтычная аснова нацыянальнай палітыкі нацыяналістычных партый з іх славутай праграмай «нацыянальна-культурнай аўтаноміі». Ленінізм выкрыў нацыянальную праграму Бунда, БСГ і інш. нацыяналістычных партый, як праграму заядлага рэакцыйнага буржуазнага нацыяналізма, разлічаную на прымірэнне з чорнасоценнай вялікадзяржаўнай палітыкай царызма, на раз'яднанне, раздрабленне сіл пролетарыята, падрыў інтэрнацыянальнага адзінства яго класавай барацьбы і падпарадкаванне рабочых нацыяналісцкай палітыцы буржуазіі. Большэвікі ўскрылі іх ідэйна-палітычнае і класавае сваяцтва з заўзятымі велікадзяржаўнікамі, іх капітуляцыю перад чорнасоценным сцягам «адзінай і недзялімай Расіі».

У час імперыялістычнай вайны Л. Троцкі, жанглюючы сцягам інтэрнацыяналізма, прабаваў «прымірыць» рэакцыйную праграму бундаўцаў і ліквідатараў з рэволюцыйным інтэрнацыяналізмам. У Троцкага гэта з'яўлялася неад'емнаю часткай агульнай цэнтрысцкай яго лініі: пад сцягам пазафракцыйнасці «аб'яднаць» і «прымірыць» рэволюцыйных марксістаў з апартуністамі, соцыял-шавіністамі шляхам капітуляцыі першых перад другімі.

Са старонак «Нашага слова» Троцкі выступаў супроць ленінскага лозунга «пературарэнне вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую», лозунга паражэння і неабходнасці арганізацыйнага разрыву з соцыял-шавінізмам, выстаўляючы лозунг «злучаных штатаў Еўропы», які сваім астрыём накіроўваўся супроць ленінскай ідэі перамогі соцыялізма ў адной краіне. Троцкі, як вядома, адносіў да інтэрнацыяналістаў такія арганізацыі, як Бунд і меншавіцкі АК. Ужо ў той час было выяўлена «сваяцтва душ» трацкістаў з бундаўцамі і інш. нацыяналістамі, у тым ліку і БСГ, якая таксама стаяла на пазіцыі «культурна-нацыянальнай аўтаноміі».

і не дзіва, што ва ўмовах пралетарскай дыктатуры, асабліва на сучасным этапе, трацкісты блакуюцца з буржуазнымі нацыяналістамі, украінскімі, беларускімі, з бундаўцамі і велікадзяржаўнікамі на агульнай платформе, адрыву Украіны, Беларусі і інш. рэспублік ад Совецкага саюза для аслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма. Ленінізм выкрыў ліцамер'е і фальш трацкізма, які на словах гарою стаяў за інтэрнацыяналізм, а на справе з'яўляўся праваднікам соцыял-імперыялісцкай палітыкі.

У сваім адказным лісце ў рэдакцыю «Наша слова», кіруемае Л. Троцкім, Ленін рашуча адмежаваўся ад меншавіцкага АК і Бунда, заявіўшы: «Мы маем падставу апасацца, што яны стаяць за «афіцыяльны соцыял-патрыятызм». Указаўшы на ілжывыя ліцамерныя фразы Троцкага аб тым, што «вытрыманая інтэрнацыянальна-соцыялістычная пазіцыя, **яднаючая с.-д. інтэрнацыяналістаў розных фракцый,** створыць трывалую базу для сумесных рэволюцыйных дзеянняў». Ленін, выкрываючы здрадніцкую ролю Троцкага, пісаў: «Нават-ж «Наша слова» абманвае сябе і іншых, запэўніваючы, што ёсць база для адзінства дзеянняў».

Зусім невыпадкова трацкізм сваё здрадніцтва і капітулянцтва завяршыў канчатковым пераходам у лагер контррэволюцыйнай буржуазіі, стаў адным з ярых пастаўшчыкоў контррэволюцыйнай зброі для інтэрвентаў супроць Совецкага саюза.

Ленін паказаў тэарэтычную безгрунтоўнасць і палітычную шкоднасць памылковых пазіцый у нацыянальна-каланіяльным пытанні левых соцыял-дэмакратаў на чале з Розай Люксембург.

Роза Люксембург не зразумела, што з пункту погляду агульных карэнных прынцыпаў марксізма і з пункту погляду канкрэтна-гістарычных умоў класавай барацьбы пролетарыята ў эпоху імперыялізма, асабліва ва ўмовах расійскай рэчаіснасці, праграмнае патрабаванне аб праве нацый на самавызначэнне, прынятае на 2-м з'ездзе партыі, з'яўлялася «абсалютна неабходным». Яна схільна была разглядаць яго як уступку буржуазнаму нацыяналізму, а не як аснову барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм.

Роза Люксембург забывала аб мностве зняволеных вялікадзяржаўнымі нацыямі народаў, адмаўляючы права нацый на самавызначэнне. Як вядома, Ленін крытыкаваў польскіх соцыял-дэмакратаў не за тое, што яны былі «супроць аддзялення Польшчы». Ленін бачыў іх памылкі ў тым, што яны «спрабуюць—падобна Розе Люксембург—адмаўляць неабходнасць прызнання права на самавызначэнне ў праграме расійскіх марксістаў». Пункт погляду «кракаўскага гарызонта» яны пераносілі «на маштаб усіх народаў і нацый Расіі, велікарусаў у тым ліку».

У выніку спрашчона-механістычнага падыходу, Роза Люксембург—гэты нястомны змагар за пролетарскую рэволюцыю супроць імперыялізма і соцыял-шавінізма—аказалася ў палоне найбольш небяспечнага ў той час вялікарускага нацыяналізма, які прадстаўляе сабою «галоўны тормаз дэмакратычнай і пролетарскай барацьбы». **На справе** мы маем з боку Р. Люксембург няўменне падпарадкоўваць паасобныя патрабаванні дэмакратыі агульна-дэмакратычным і соцыялістычным інтэрнацыянальным задачам пролетарыята.

Ленін указваў, што «баючыся нацыяналізма буржуазіі прыгнечаных нацый, Роза Люксембург аказалася **на справе** граючай на руку чорнасоценнаму нацыяналізму велікарусаў». Па сутнасці справы Роза

не зразумела сапраўдных задач пролетарыята ў нацыянальна-каланіяльным пытанні. Памылковая пазіцыя Розы Люксембург у галіне нацыянальнай палітыкі цесна прымыкае да яе поўменшавіцкай тэорыі імперыялізма.

Крытыкуючы Люксембург, Ленін паказваў, што каланіяльныя народы— таксама нацыі і што «вызваленне калоній і ёсць ні што іншае, як самавызначэнне нацый». Справа соцыялістаў—да канца адстойваць дэмакратычныя патрабаванні ў іх самых паслядоўных формах, рашуча выступаць супроць самай свяшчэннай прывілеі вялікадзяржаўнага нацыяналізма—прывілеі мець сваю дзяржаву, супроць анексій, прадстаўляючых сабою «парушэнне самавызначэння нацый». Гэту сутнасць справы і выражае лозунг права нацый на самавызначэнне.

Адным з найвялікшых парокаў Р. Люксембург з'яўлялася няўменне правесці розніцу паміж пытаннем аб палітычнай незалежнасці нацый пры буржуазным грамадстве і пытаннем аб эканамічнай самастойнасці. Сваёй пастаноўкай пытання аб немагчымасці ажыццяўлення права нацый на самавызначэнне пры капіталізме, заявамі аб тым, што лозунг соцыялістычнай рэвалюцыі «не павінен быць нічым прыкрыты», Роза Люксембург засланіла сабе шлях для зразумення рэвалюцыйнага сэнсу ленінскай барацьбы за прынцып самавызначэння.

Ленін указваў, што для соцыяліста недапушчальна змешваць права нацый на аддзяленне з мэтазгоднасцю аддзялення. Гэту апошнюю трэба разглядаць канкрэтна, гістарычна, падпарадкоўваючы яе соцыялістычным задачам пролетарыята. Марксісты заўсёды стаяць за аб'яднанне працоўных мас супроць раздробленасці, але яны не меншыя праціўнікі таго, каб «дубінкай заганяць у рай».

Не зразумеўшы рэвалюцыйнага значэння прынцыпу самавызначэння, Р. Люксембург не зразумела і ленінскай тактыкі барацьбы на два фронты ў правядзенні нацыянальнай палітыкі. Каб забяспечыць інтэрнацыянальную салідарнасць пролетарыята пануючых і прыгнечаных нацый, Ленін, як вядома, высоўваў наступную тактыку:

> «Ці можа гэта выхаванне... быць **канкрэтна аднолькава** ў нацыях вялікіх і прыгнятаючых і ў нацыях маленькіх прыгнятаемых? У нацыях анектыруючых і нацыях анектыруемых?
>
> «Відавочна, не. Шлях да адной мэты: да поўнага раўнапраўя, цяснейшага збліжэння і далейшага **«зліяння»** ўсіх нацый ідзе тут, відавочна, рознымі канкрэтнымі дарогамі...»
>
> «Цэнтр цяжару інтэрнацыяналісцкага выхавання рабочых у прыгнятаючых краінах немінуча павінен заключацца ў прапаведзі і адстойванні імі свабоды аддзялення прыгнечаных краін. Без гэтага **няма** інтэрнацыяналізма. Мы ў праве і абавязаны трэціраваць усякага соцыял-дэмакрата прыгнятаючай нацыі, які **не** вядзе такой прапаганды, як імперыяліста і як негадзяя. Гэта безумоўнае патрабаванне, хоць-бы **выпадак** аддзялення быў магчым і «ажыццявім» да соцыялізма ўсяго ў 1 з 1000 выпадкаў».
>
> «Каб быць соцыял-дэмакратам-інтэрнацыяналістам, трэба думаць **не** аб сваёй толькі нацыі, а **вышэй яе** ставіць інтарэсы ўсіх, іх усеагульную свабоду і раўнапраўе».
>
> «Наадварот, соцыял-дэмакрат маленькай нацыі павінен цэнтр цяжару сваёй агітацыі класці на **другім** слове нашай агульнай формулы: «добраахвотнае **злучэнне»** нацый. Ён можа,

не парушаючы сваіх абавязкаў, як інтэрнацыяналіста, быць і за палітычную незалежнасць сваёй нацыі, і за яе ўключэнне ў суседнюю дзяржаву X, У, Z і інш., але ва ўсіх выпадках ён павінен змагацца **супроць** дробна-нацыянальнай вузкасці, замкнутасці, адасобленасці, за ўлік цэлага і ўсеагульнага, за падпарадкаванне інтарэсаў прыватнага інтарэсам агульнага».

«Людзі, не ўдумаўшыяся ў пытанне, знаходзяць «супярэчлівым», каб соцыял-дэмакраты прыгнятаючых нацый настойвалі на «свабодзе **аддзялення»**, а соцыялісты прыгнечаных нацый на «свабодзе злучэння». Але невялікае размышленне паказвае, што **іншага** шляху к інтэрнацыяналізму і зліянню нацый, іншага шляху к гэтай мэце **ад данага палажэння** няма і быць не можа. (**Ленін,** т. XIX, стар. 261—262).

Рэволюцыйная сіла ленінскай тактыкі вытрымала суровы экзамен і праверку практыкай класавых боек у рэволюцыйных падзеях эпохі «войн і рэволюцый». Яна нязменна паражала вялікадзяржаўны шавінізм і мясцовы буржуазны нацыяналізм—гэтых смяротных ворагаў пролетарскага інтэрнацыяналізма і соцыялізма.

У галіне інтэрнацыяналісцкай палітыкі пролетарыята люксембургіянства ў форме нігілізма да нацыянальнага пытання, індыферэнтнасці да нацыянальнай палітыкі пролетарыята, адлюстроўвае інтарэсы велікадзяржаўніцтва, усыпляе пільнасць пролетарыята ў барацьбе з нацыяналізмам, адмаўляе рэволюцыйнае значэнне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў справе выхавання мас у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Ленінізм сакрушаў усякія спробы адрадзіць люксембургіянства ў нацыянальным пытанні з боку «левых» комуністаў (Бухарын, Пятакоў і інш.) у час імперыялістычнай вайны.

Па-новаму паўстала нацыянальнае пытанне ў перыяд імперыялістычнай вайны, якая пашырыла рамкі нацыянальнага пытання да сусветнага маштаба. К гэтаму часу адносяцца асноўныя творы Леніна па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню, дзе ім даецца ўжо разгорнутая распрацоўка нацыянальна-каланіяльнага пытання, як часткі агульна-соцыялістычнага руху пролетарыята. Майстэрскі прымяняючы метад рэволюцыйнай дыялектыкі да аналізу новай гістарычнай эпохі—эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый,—Ленін з усёй паўнатой, і глыбінёю ўскрыў асаблівасці развіцця апошняга этапа капіталізма, да канца агаліў усе яго язвы і парокі, указаў шляхі пераможнай барацьбы пролетарыята і на гэтай аснове вызначыў ролю і значэнне нацыянальнай палітыкі ў барацьбе за пролетарскую рэволюцыю, за дыктатуру пролетарыята. На базе рэволюцыйнай тэорыі імперыялізма і аналіза яго супярэчнасцей у перыяд усеагульнага крызіса капіталізма Ленін разгарнуў канкрэтна гістарычны аналіз нацыянальна-вызваленчых рухаў і міжнацыянальных узаемаадносін, як яны складваюцца ў эпоху «войн і рэволюцый». У прыватнасці, ім дан аналіз складанага пераплёту нацыянальных узаемаадносін у гэты перыяд у Расіі.

Ленін паказаў, што імперыялізм нямыслім без нацыянальнага прыгнечання і прымусу адпаведна таму, як соцыялізм нямыслім без нацыянальнай свабоды, нацыянальнага раўнапраўя. Характарызуючы імперыялізм, як загніваючы, паміраючы капіталізм, які даводзіць свае супярэчнасці да крайніх межаў, ленінскі аналіз устанаўляе, што ў галіне нацыянальных узаемаадносін імперыялізм ёсць «самае наглае

і самае бесчалавечнае прыгнечанне соцень мільёнаў насельніцтва абшырнейшых калоній і залежных краін» (**Сталін**).

Самыя жудасныя варварскія, драпежніцкія, агалцелыя формы эксплаатацыі і прыгнечання—вось што нясе з сабой імперыялізм прыгнечаным народам.

> «Глыбокае ліцамер'е і ўласцівае буржуазнай цывілізацыі варварства—указваў К. Маркс у сваіх выказваннях аб Індыі,—аголена стаіць перад нашым зрокам, калі мы гэтую цывілізацыю наглядаем не ў сябе дома, дзе яна прымае рэспектабельныя формы, а ў калоніях, дзе яна ходзіць непрыкрытай».

Яшчэ з большым ліцамер'ем і варварствам спустошвае і ўродуе развіццё калоній імперыялізм,ператвараючы іх у прыдатак метраполій, абракаючы працоўныя масы на жабрацкае празябанне і поўгаладнае выміранне. Шалёная пагоня за звышпрыбыткам, як асноўны матыў нацыянальна-каланіяльнай эксплаатацыі і прыгнечання, вываз капітала да крыніц сыравіны, барацьба за манапольнае ўладанне крыніцамі сыравіны, за перадзел ужо падзеленага свету—усё гэта не толькі ўзмацняе барацьбу ў лагеры імперыялістычных клік, але таксама даводзіць да найвышэйшага пункту «супярэчнасць паміж жменькай пануючых «цывілізаваных» нацый і паміж сотнямі мільёнаў каланіяльных і залежных краін свету» (**Сталін**).

*На II кангрэсе Комінтэрна Ленін указваў*, што розніца паміж прыгнечанымі і прыгнятаючымі народамі, якая праводзілася ў тэзісах па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню, «з'яўляецца самай важнай асноўнай ідэяй нашых тэзісаў». «Мы падкрэсліваем гэту розніцу,—гаварыў Ленін,—у процілегласць II Інтэрнацыяналу і буржуазнай дэмакратыі».

*У сваіх працах, прысвечаных нацыянальнаму пытанню, гэта палажэнне Леніным* надзвычай шырока і дэталёва развіта. У цеснай сувязі з гэтым цэнтральным тэзісам Ленін распрацоўваў палітычную праграмную лінію пралетарыята ў нацыянальным пытанні.

У прыватнасці, у бліскучым па сваёй навуковай глыбіні і палітычнай вострасці артыкуле «Рэвалюцыйны пролетарыят і права нацый на самавызначэнне» Ленін пісаў:

> «Імперыялізм ёсць прагрэсуючае прыгнечанне нацый свету жменькаю вялікіх дзяржаў, ёсць эпоха войн паміж імі за пашырэнне і ўмацаванне гнёту над нацыямі, эпоха абману народных мас ліцамернымі соцыял-патрыётамі, г. зн. людзьмі, якія **пад прадлогам** «свабоды нацый», «права нацый на самавызначэнне» і «абароны бацькаўшчыны» апраўдваюць і абараняюць прыгнечанне большасці нацый свету вялікімі дзяржавамі. Таму ў праграме с.-д. цэнтральным месцам павінен быць іменна той падзел нацый на прыгнятаючыя і прыгнечаныя, які складае **сутнасць** імперыялізма і які **ілжыва** абыходзяць соцыял-шавіністы і Каўцкі. Гэты падзел не істотны з пункту погляду буржуазнага пацыфізма ці мяшчанскай утопіі мірнай канкурэнцыі незалежных нацый пры капіталізме, але ён якраз істотны з пункту погляду рэволюцыйнай барацьбы супроць імперыялізма. А з гэтага падзелу павінна выцякаць **наша**, паслядоўна дэмакратычнае, рэволюцыйнае і **адпавядаючае** агульнай задачы безадкладнай барацьбы за соцыялізм, азначэнне «права нацый на самавызначэнне» (**Ленін**, т. XVIII, стар. 324—325).

У процілегласць соцыял-шавіністам Ленін сцвярджаў, што для імперыялізма характэрна крайняе абвастрэнне класавых супярэчнасцей, рост эксплаатацыі і рэакцыі па ўсіх лініях грамадскага жыцця, узмацненне нацыянальнага прыгнечання і рабунку. «Імперыялістычная эпоха ператварыла ўсе «вялікія» дзяржавы ў прыгняталькікаў цэлага раду нацый» **(Ленін).**

Пры гэтым Ленін і т. Сталін падкрэслівалі супярэчныя бакі нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання. З аднаго боку, калоніі і залежныя краіны прадстаўляюць «агромны рэзерв і найсур'ёзнейшую крыніцу сіл імперыялізма» **(Сталін).** Нацыянальнае прыгнечанне выступае, як адна з крыніц «штучнай затрымкі падзення капіталізма, штучнага падтрымання апартунізма і соцыял-шавінізма пануючых над светам імперыялістычных нацый» **(Ленін).** Падвойнае і патройнае прыгнечанне дробных нацый выступае, як «адна з жывячых крыніц паразітызма, апартунізма і соцыял-імперыялізма «вялікіх» дзяржаўных нацый» **(Ленін).**

За кошт звышпрыбыткаў буржуазія вялікадзяржаўных нацый вырошчвае з рабочай бюракратыі, рабочай арыстакратыі і дробнабуржуазных спадарожнікаў верных сваіх лакеяў, невялікі пласт прывілеяваных рабочых, якія з'яўляюцца саюзнікамі сваёй нацыянальнай буржуазіі супроць мас рабочага класа, саўдзельнікамі імперыялістычнай палітыкі, яе агентамі ў рабочым класе. Соцыял-шавінізм ёсць нацыяналістычная ідэалогія і палітыка падкупленай імперыялізмам верхавінкі рабочага класа.

Ленін з усёю сілай падкрэслівае, як характэрнае для імперыялізма, той факт, што ў сілу аб'ектыўных прычын пролетарыят гэтай эпохі «падзяліўся на два міжнародныя лагеры, з якіх адзін разбэшчан крохамі, падаючымі са стала вялікадзяржаўнай буржуазіі, а другі не можа вызваліцца сам, не вызваляючы дробных нацый, не выхоўваючы масы ў антышавіністычным, г. зн. антыанексіяніцкім, г. зн. «самавызначэнскім» духу».

Крытыкуючы ў гэтай сувязі люксембургіянства, Ленін таксама ўказвае, што «гэтую галоўную сутнасць справы ігнаруюць польскія таварышы, якія глядзяць не з цэнтральнай у эпоху імперыялізма пазіцыі, не з пункту погляду двух лагераў міжнароднага пролетарыята».

З другога боку, нацыянальна-каланіяльнае прыгнечанне выклікае рэволюцыйны пратэст і абурэнне прыгнечаных і бяспраўных народных мас, узмацняючы нацыянальна-вызваленчы рух супроць імперыялізма. «Гэтая акалічнасць,—па словах т. Сталіна,—важна для пролетарыята ў тых адносінах, што яна ў корані падрывае пазіцыі капіталізма, ператвараючы калоніі і залежныя краіны з рэзерваў імперыялізма ў рэзервы пролетарскай рэволюцыі».

Нацыянальна-каланіяльнае пытанне выступае, такім чынам, як пытанне аб вызваленні прыгнечаных нацый і калоній, аб шляхах звяржэння імперыялізма, як пытанне аб «цяжкіх рэзервах сусветнай пролетарскай рэволюцыі і, разам з тым, аб тыле сусветнага імперыялізма» **(Сталін).** І ленінізм абгрунтоўвае стройную сістэму поглядаў на нацыянальна-каланіяльныя рэволюцыі ў эпоху імперыялізма, базуючыся на прынцыпах Маркса—Энгельса па гэтаму пытанню. Найскладанейшыя пытанні палітыкі, стратэгіі і тактыкі пролетарскай рэволюцыі, пытанне аб пазіцыі пролетарыята прыгнечанай нацыі ў нацыянальна-вызваленчым руху, аб адносінах да буржуазіі прыгнечаных нацый на паасобных этапах разгортваючайся

нацыянальна-каланіяльнай рэвалюцыі, аб адзінстве агульна-дэмакратычных і сацыялістычных задач пралетарыята ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе, аб інтэрнацыянальным адзінстве пралетарыята пануючых і прыгнечаных нацыянальнасцей—усе гэтыя пытанні ленінізмам бліскуча выпрацаваны і атрымалі баявую праверку ў практыцы Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў разгортваючайся рэвалюцыйнай нацыянальна-вызваленчай барацьбе народаў Усходу. Ленінская тэорыя, палітыка і тактыка і ў гэтай галіне перамагла і перамагла ў барацьбе з рознымі праявамі вялікадзяржаўнага і мясцовага нацыяналізма.

Далейшым абгрунтаваннем палітыкі пролетарскага інтэрнацыяналізма ў нацыянальна-каланіяльных рэвалюцыях і ўзорам практычнага правядзення яе з'яўляюцца працы т. Сталіна па гэтаму пытанню, ў прыватнасці яго выказванні па кітайскаму пытанню і крытыка контррэвалюцыйнага трацкізма ў гэтай сувязі.

Ленінізм выкрыў «струхнелыя догмы» II Інтэрнацыянала і ў галіне нацыянальнага пытання. Генеральная чыстка «аўгіевых канюшань II Інтэрнацыянала» **(Сталін)** і ў гэтай галіне праробленa ленінізмам. Ленін і яго верны вучань—т. Сталін да канца ўскрылі «трухлявае філістэрства» і ўрачыстыя дэкларацыі лідэраў II Інтэрнацыянала, на словах прызнаваўшых прынцыпы «нацыянальнага раўнапраўя», а на справе выступаўшых за права і свабоду імперыялістычнай буржуазіі прыгнятаць эксплаатуемыя працоўныя масы.

Соцыял-дэмакратычныя партыі II Інтэрнацыянала зусім былі далёкі ад таго, каб паставіць нацыянальнае пытанне на глебу рэвалюцыйнай барацьбы з імперыялізмам, звязваць нацыянальнае пытанне з пытаннем аб вызваленні калоній.

«Дзве-тры пустыя і кісла-салодкія рэзалюцыі, старанна абыходзячыя пытанне аб вызваленні калоній,—гэта ўсё, чым маглі пахвастацца дзеячы II Інтэрнацыянала» **(Сталін).** Самы прынцып права нацый на самавызначэнне тлумачыўся імі па-буржуазнаму, як права на нацыянальную аўтаномію і толькі, а не як права нацый на самастойнае дзяржаўнае існаванне, на аддзяленне. Са зброі барацьбы з анексіямі і каланіяльным прыгнечаннем марксава ідэя самавызначэння ператваралася імі ў зброю абароны нацыянальна-каланіяльнага рабства, апраўдання анексій. Такі рэфармісцкі падыход да нацыянальнага пытання, як да ізаляванага пытання аб звяржэнні імперыялізма, пытання аб уладзе, цесна звязан з агульнай соцыял-рэфармісцкай, апартуністычнай, здрадніцкай лініяй II Інтэрнацыянала.

Ленін выкрыў соцыял-шавіністаў II Інтэрнацыянала, як прамых абаронцаў імперыялістычнай палітыкі, як галоўных рассаднікаў нацыяналізма ў радах рабочага класа. Ахоўваючы соцыялістычны рух сусветнага пролетарыята ад заражэння яго атрутай буржуазнага нацыяналізма, Ленін паказаў усю фальшывасць і гніласць палітычнай практыкі партый II Інтэрнацыянала, поўную здраду соцыял-шавіністаў прынцыпам пролетарскага інтэрнацыяналізма. Ленін паказаў сувязь соцыял-фашызма з соцыял-згодніцтвам, рэфармізмам, ускрыў іх класавыя карэнні. «Соцыял-шавінізм і ёсць закончаны апартунізм» **(Ленін).** Іх палітычны змест аднолькавы, гэта—«супрацоўніцтва класаў, адрачэнне ад дыктатуры пролетарыята, адмаўленне ад рэвалюцыйных дзеянняў, прakланенне перад буржуазнай легальнасцю, недавер'е к пролетарыяту, давер'е к буржуазіі» **(Ленін).** Сваёй прапаведдзю «грамадзянскага міру», «абароны бацькаўшчыны» і т. д. Каўцкі, Вандэрвельдэ, Гільфердынг і інш. канчаткова звязалі свой лёс з інтарэсамі імперыялістычнай буржуазіі, ператварыліся ў яе га-

лоўную сацыяльную апору. І зараз яны застаюцца вернымі яе лакеямі і яшчэ з большай стараннасцю і прыслужніцтвам прасмыкаюцца перад дубінкай фашысцкай дыктатуры, дзікім разгулам рэакцыі, нацыяналістычнай траўлі і шавіністычнымі оргіямі, перад яе варварскай расправай з соцыялістычным рухам рабочых.

Найвялікшая заслуга Леніна і т. Сталіна ў галіне нацыянальна-каланіяльнага пытання ў тым і заключаецца, што яны паставілі нацыянальнае пытанне ў новых умовах і прыстасоўна да новых задач класавай барацьбы пролетарыята на рэволюцыйную глебу барацьбы з імперыялізмам, распрацавалі нацыянальнае пытанне, як пытанне аб саюзніках і рэзервах пролетарскай рэволюцыі, як частку пытання аб пролетарскай рэволюцыі, аб дыктатуры пролетарыята. З усёй паўнатой і ўсебаковасцю яны абгрунтавалі марксава палажэнне аб няўхільнасці нацыянальнага прыгнечання, нацыянальнай няроўнасці і эксплаатацыі, міжнацыянальнай варожасці і сутычак пры капіталізме і знішчэння ўсіх гэтых атрыбутаў буржуазнага грамадства ў працэсе пролетарскай рэволюцыі. Найвялікшым набыткам марксізма стала тэарэтычна і гістарычна абгрунтаваная і практыкай імперыялістычнай вайны і пролетарскай рэволюцыі ў Расіі пацверджаная ісціна, што нацыянальнае раззняволенне бяспраўных і прыгнечаных імперыялізмам нацый і калоній магчыма толькі ў сувязі і на глебе пролетарскай рэволюцыі, так сама як і пролетарская рэволюцыя перадавых пануючых краін нямысліма без рэволюцыйнага саюзу з вызваленчым рухам каланіяльных і залежных краін. Толькі з заваяваннем улады советамі і ўстанаўленнем дыктатуры пролетарыята, пролетарыят, арганізуючы соцыялістычную вытворчасць, поўнасцю знішчае нацыянальнае прыгнечанне, дзяржаўную і фактычную няроўнасць нацый і забяспечвае працоўным масам поўнае раўнапраўе, цяснейшае збліжэнне і далейшае зліянне нацый. «На гэтай базе,—пісаў Ленін,—у сваю чаргу разаўюцца **практычна** абсалютнае знішчэнне малейшых нацыянальных трэнняў, малейшае нацыянальнае недавер'е, створыцца паскоранае збліжэнне і зліянне нацый, якое завяршыцца адміраннем дзяржавы».

На прыкладзе Кастрычніцкай рэволюцыі ленінская тактыка ў нацыянальна-каланіяльных рэволюцыях атрымала сваё поўнае пацверджанне. Паслядоўнае правядзенне палітыкі пролетарскага інтэрнацыяналізма з'явілася магутным рычагом заваявання сімпатый працоўных мас прыгнечаных царызмам народаў на бок рускага пролетарыята, магутным рычагом разгортвання пролетарскай рэволюцыі ў калоніях царскай Расіі.

«У маленькіх размерах мы ажыццявілі ў нашай краіне тое, што ў вялікім размеры, у вялікіх народаў ажыццявіце Вы»,—указваў Ленін комуністам народаў Усходу.

Найвялікшым вынікам паслядоўнага правядзення ленінскай палітыкі пролетарскага інтэрнацыяналізма з'явіліся заваёвы Кастрычніка ў вырашэнні нацыянальнага пытання. Толькі партыя большэвікоў забяспечыла яго вырашэнне ў СССР.

Кастрычніцкая рэволюцыя ў Расіі зруйнавала эксплаататарскі лад буржуазнага панавання, неадменным атрыбутам якога з'яўлялася нацыянальнае прыгнечанне. Пакладзен канец падзелу нацый на пануючыя і бяспраўныя, метраполію і калоніі, эксплаататараў і эксплаатуемых. Царская Расія была турмой для народаў. Царызм з'яўляўся самым дзікім драпежнікам і крывапійцаю мноства так званых «інародцаў».

Лютаўская рэвалюцыя акрамя славесных дэкларацый і фальшывых фраз не ўнесла ў гэтых адносінах істотных змен. «Дэмакратычны» урад Мілюкова—Керэнскага, які заклікан быў уліць новыя сілы і бадзёрасць у трухнеючае панаванне буржуазіі, таксама як і яго папярэднік—царызм, праводзіў сістэму нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання з той-жа стараннасцю і прыслужніцтвам, з якою ён абараняў усякія прывілеі пануючых эксплаататарскіх класаў. «Старая грубая форма нацыянальнага прыгнечання змянілася новай, утончанай, але затое больш небяспечнай формай прыгнечання» **(Сталін).**

Нацыянальна-каланіяльнае прыгнечанне заставалася адным з кітоў класавага панавання імперыялістычнай буржуазіі. У імя «адзінай і недзялімай» праводзілася палітыка прыдушэння нацыянальна-вызваленчых рухаў на ўскраінах царскага ўладарніцтва. У агрэсіўных інтарэсах экспансіі рускага імперыялізма была абвешчана «вайна да пераможнага канца», якая пагражала новымі захватамі тэрыторый і варварскім прыгнечаннем дробных нацыянальнасцей.

Так званыя «нацыянальныя ўрады», якія ўзначальвалі буржуазна-вызваленчы нацыяналістычны рух на ўскраінах Расіі, скарыстоўваючы нацыянальны сцяг, як найбольш зручны для прыкрыцця сваіх мэт, імкнуліся выкарыстаць лютаўскую рэволюцыю для ўтварэння сваёй нацыянальнай дзяржавы і ўстанаўлення буржуазнага панавання. Ужо з самага пачатку свайго існавання беларускія, украінскія і іншыя нацыянал-дэмакраты выявілі свой антынародны, контррэволюцыйны, буржуазна-нацыяналістычны твар. Ідэалы «нацыянальнага адраджэння», «вольнай Беларусі» для беларускіх нацыяналістаў з'яўляліся толькі шыльдай, якая прыкрывала махлерскія здзелкі гандляроў лёсам працоўных мас Беларусі, аддаючы іх у каланіяльную кабалу розным імперыялістычным клікам і бандам.

«Нацыянальныя ўрады» зрабіліся крыніцамі рэакцыі, прыцягальнымі цэнтрамі белагвардзейскіх кадраў контррэволюцыі, пунктамі прыкладання знешніх сіл інтэрвенцыі. «Змаганне акраінных «урадаў» было і застаецца змаганнем буржуазнай контррэволюцыі супроць социялізма» **(Сталін).**

Працоўныя масы Беларусі, Украіны, Закаўказзя і інш. прыгнечаных нацыянальнасцей на практыцы пераканаліся, што пад сцягам «адзінага нацыянальнага фронта» буржуазія імкнецца «не да вызвалення «свайго народу» ад нацыянальнага прыгнечання, а да свабоды захавання сваіх прывілеяў і капіталаў» **(Сталін),** і падтрымалі барацьбу пролетарыята супроць імперыялізма, як асновы ўсякай эксплаатацыі і прыгнечання.

Дабіцца сапраўднага вызвалення і забяспечыць брацкае адзінства працоўных розных нацый магла толькі партыя большэвікоў, толькі партыя, якая рашуча выступала супроць імперыялізма і яго драпежніцкай вайны і магла вывесці працоўныя масы з таго жудаснага становішча эксплаатацыі і разбурэння, у які павергла іх імперыялістычная бойня. Толькі на базе барацьбы за соцыялістычную рэволюцыю, за дыктатуру пролетарыята наша партыя забяспечыла вырашэнне нацыянальнага пытання.

Пад сцягам барацьбы за пролетарскую рэволюцыю, пад лозунгамі барацьбы за ўладу рабочых, за знішчэнне ўсякай эксплаатацыі і прыгнечання, у тым ліку і нацыянальна-каланіяльнага, наша партыя забяспечыла ўзаемнае давер'е, цяснейшае збліжэнне і дружнае супрацоўніцтва рабочых і сялян нацыянальнасцей СССР на новых соцыялістычных пачатках, на пачатках **пролетарскага інтэрнацыяна-**

лізма, на аснове **добраахвотнага** аб'яднання і ўзаемнага падтрымання працоўных у іх агульнай барацьбе супроць агульных ворагаў, памешчыкаў і капіталістаў усіх нацый, інтэрвентаў і іх дапаможнікаў, у тым ліку і дробна-буржуазных нацыяналістычных партый. І у гэтым—рэвалюцыйны социялістычны змест інтэрнацыяналісцкай палітыкі ленінізма. Ажыццяўленне права прыгнечаных нацый на аддзяленне з'явілася адзіна-правільным шляхам для іх соцыялістычнага аб'яднання, асновай выхавання пролетарыята ў духу інтэрнацыяналізма. Рабочыя і сяляне выкарыстал гэта права для добраахвотнага аб'яднання ў адзіную советкую дзяржаву—СССР, якая адпавядае інтарэсам іх палітычнага, вайсковага, гаспадарчага і культурнага супрацоўніцтва.

У агні Кастрычніцкага перавароту, у гераічных сутычках з унутранай контррэволюцыяй і са знешнімі сіламі інтэрвенцыі, у энтузіязме соцыялістычнага будаўніцтва склаўся, умацаваўся і загартаваўся саюз рускіх рабочых і сялян з працоўнымі раней прыгнечаных царызмам нацыянальнасцей.

У гэтай сумеснай дружнай барацьбе супроць эксплаататараў і інтэрвенцыі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі працоўныя нашай краіны на справе паказалі ўсяму свету прыгнечаных і эксплаатуемых мас, што

> «адзіным рэжымам, здольным выраашыць нацыянальнае пытанне, гэта значыць, рэжымам, здольным стварыць умовы, забяспечваючыя мірнае будаўніцтва і брацкае супрацоўніцтва розных нацый і плямён, з'яўляецца рэжым совецкай улады, рэжым дыктатуры пролетарыята» **(Сталін).**

Агульнымі інтарэсамі працы быў прадыктован іх адзіны фронт супроць капітала, як асновы ўсякай няроўнасці і зняволення. І тут мы бачым, што пролетарыят, які руйнуе эксплаатацыю і прыгнечанне ў самай развітай іх форме—капіталістычную эксплаатацыю, разам з тым знішчае ўсякае прыгнечанне, усякую эксплаатацыю. Тым самым пролетарыят выступае правадыром мільённых мас працоўных, якія з'яўляюцца афярамі каланіяльнай імперыялістычнай кабалы. Толькі ідучы за пролетарыятам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, яны змогуць знайсці поўную абарону сваіх інтарэсаў.

Стварэнне «нечуванага ў свеце інтэрнацыянальнага будынка, які завецца—СССР», з'яўляецца вышэйшым дасягненнем Кастрычніцкай рэволюцыі, вышэйшай формай соцыялістычнага супрацоўніцтва рабочых і сялян Совецкай дзяржавы.

СССР з'яўляецца «правобразам будучага аб'яднання працоўных усіх краін» **(Сталін),** указвае ўсім падняволеным народам шлях іх вызвалення, выступаючы, як найвялікшая прыцягальная сіла сімпатый народных мас каланіяльных і залежных краін, падымаючы іх на барацьбу супроць рэакцыйнага прыдушэння імперыялізмам паняволеных народаў.

Жывы прыклад таму—рост і ўмацаванне кітайскіх Советаў, якія з поспехам адбілі 6 паходаў Чан-Кай-шы.

Шматтысячная компартыя Кітая пад сцягам ленінізма, пад сцягам пролетарскага інтэрнацыяналізма вядзе гераічную барацьбу супроць рэштак феадалізма і нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання імперыялізма за Совецкую рэспубліку Кітая, за абарону СССР.

СССР—соцыялістычная бацькаўшчына сусветнага пролетарыята—узвышаецца перад усім светам прыгнечаных і эксплаатуемых мас, як «факел міжнароднага соцыялізма і як прыклад перад усімі працоўнымі масамі» **(Ленін).** І ў гэтым таксама сказваецца міжнародны характар СССР, як базы сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў краіне Советаў—фактар агромнага міжнароднага значэння, узор палітыкі і тактыкі для брацкіх партый Комуністычнага інтэрнацыянала, узор непрымірымай большэвіцкай барацьбы з буржуазным нацыяналізмам за пролетарскі інтэрнацыяналізм.

СССР—дзецішча міжнароднага пролетарскага руху і жывы вобраз пролетарскага інтэрнацыяналізма. У працэсе пролетарскай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва партыя большэвікоў ваплаціла ў жыццё ленінскія прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізма. Інтэрнацыяналізм пролетарыята выліўся ў цесны саюз і брацкае супрацоўніцтва народаў Совецкай краіны, якія, не шкадуючы сіл, дружна ўмацоўваюць бацькаўшчыну сусветнага пролетарыята і яго верны аплот, сакрушаючы на сваім шляху ворагаў пролетарскай дыктатуры. Інтэрнацыяналізм пролетарыята праявіўся ў актыўнай і бескарыснай дапамозе з боку пролетарыята Совецкага саюза працоўным масам раней прыгнечаных нацыянальнасцей у хутчэйшым знішчэнні іх эканамічнай і культурнай адсталасці, як спадчыны царскага каланіяльнага рэжыму, і ўключэння іх у строй актыўных будаўнікоў соцыялізма. Ленінскі інтэрнацыяналізм выражаецца ў непрымірымай барацьбе са смяротным ворагам—буржуазным нацыяналізмам,—у якую-б тогу ён ні апранаўся. Інтэрнацыяналізм пролетарыята сказваецца ва ўсямернай дапамозе, маральнай і ідэйнай, пролетарыяту капіталістычных краін у іх барацьбе супроць буржуазнай сістэмы зняволення і эксплаатацыі. Партыя з карэннем вырывае перажыткі нацыяналізма ў свядомасці людзей, перажыткі, з якімі звязаны самыя дзікія, агідныя, вякамі выхаваныя пачуцці нацыянальнай адасобленасці, розні, нянавісці і траўлі. Рэволюцыйны інтэрнацыяналізм, як неад'емны элемент пролетарскай ідэалогіі, уваходзіць у быт, выступае як неад'емная ўласцівасць актыўных будаўнікоў соцыялізма, як адзін з элементаў комуністычнай культуры.

Выключная роля ў распрацоўцы пытанняў пролетарскага інтэрнацыяналізма і практычным правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі пры дыктатуры пролетарыята належыць т. Сталіну. З поўнай яснасцю і вычарпальнай глыбінёй т. Сталін акрэсліў аб'ём і рэволюцыйнае значэнне інтэрнацыяналісцкай палітыкі пролетарыята ў эпоху пролетарскай дыктатуры, бліскуча распрацаваўшы рад праблем, якія сюды адносяцца. Змагаючыся з чыста культурніцкім падыходам да нацыянальнай палітыкі, а таксама раздуваннем, фетышызаваннем нацыянальнага пытання, т. Сталін распрацаваў нацыянальнае пытанне прыкладна з наступных бакоў:

1) З пункту погляду ўмацавання саюзу рабочага класа і сялянства, устанаўлення правільных узаемаадносін паміж пролетарыятам былой дзяржаўнай нацыі і сялянствам былых прыгнечаных нацыянальнасцей, трактуючы з гэтага боку нацыянальнае пытанне, як пытанне па сваёй сутнасці сялянскае. У гэтым т. Сталін бачыў класавы змест нацыянальнага пытання.

2) З пункту погляду ліквідацыі фактычнай, эканамічнай і культурнай няроўнасці народаў Совецкага саюза, як спадчыны каланіяль-

най палітыкі царызма, якая прадстаўляла найвялікшы тормаз у справе аб'яднання працоўных мас розных нацыянальнасцей.

3) З пункту погляду ўцягнення працоўных мас адсталых нацыянальнасцей у актыўнае соцыялістычнае будаўніцтва.

4) З пункту погляду міжнароднага значэння нацыянальнай палітыкі.

На аснове сталінскай распрацоўкі ленінскіх прынцыпаў інтэрнацыяналізма і было забяспечана яго практычнае ажыццяўленне ў СССР. Пры гэтым т. Сталіным былі выкрыты і апракінуты дваякага роду антыленінскія нацыянал-апартуністычныя лініі ў нацыянальным пытанні, ускрыты іх класавыя і ідэйныя карэнні. З аднаго боку, лінія псеўда-інтэрнацыяналістаў, якія лічылі, што перыяд пролетарскай дыктатуры і будаўніцтва соцыялізма ў СССР ёсць разам з тым перыяд адмірання нацый і нацыянальных культур, злучэння іх у адну нацыю, а ў сувязі з гэтым і ліквідацыі нацыянальных рэспублік. Пад «інтэрнацыяналісцкімі» фразамі т. Сталін ускрыў іх вялікадзяржаўніцкую сутнасць: імкненне аджываючых класаў раней панаваўшай нацыі аднавіць страчаныя прывілеі. З другога боку,—лінію прымірэнцаў і ўхілістаў к мясцоваму нацыяналізму, якія пад фальшыва-нацыянальным флагам культывіравалі нацыянальную замкнутасць і адасобленасць, узводзілі ў прынцып вузка-нацыянальную абмежаванасць, усяляк выступалі супроць зблiжэння i адзінства працоўных нацый, будуючых соцыялізм.

Тав. Сталін даў нам ленінскія ўзоры таго, як трэба зрываць фальшывыя маскі з нацыянал-апартуністаў розных масцей, якія аднолькава варожы дыктатуры пролетарыята, пролетарскаму інтэрнацыяналізму і прадстаўляюць сабою «прыстасаванне інтэрнацыяналісцкай палітыкі пролетарыята да нацыяналісцкай палітыкі буржуазіі». «Ухіл к нацыяналізму адлюстроўвае спробы «сваёй» нацыянальнай буржуазіі падарваць совецкі лад і аднавіць капіталізм. Крыніца ў абодвух ухілаў, як бачыце, агульная. Гэта—адыход ад ленінскага інтэрнацыяналізма. Калі хочаце трымаць пад агнём абодва ўхілы, трэба біць, перш за ўсё, па гэтай крыніцы, па тых, якія адыходзяць ад інтэрнацыяналізма—усёроўна ці то ідзе справа аб ухіле к мясцоваму нацыяналізму ці аб ухіле к вялікарускаму нацыяналізму» **(Сталін).** Пад рознымі маскамі ўхілістаў к нацыяналізму (мясцовых і вялікадзяржаўных) т. Сталін ускрыў адзіны класавы змест, гэта—«спробы «сваёй», нацыянальнай буржуазіі падарваць совецкі лад і аднавіць капіталізм. Крыніца абодвух ухілаў, як бачыце, агульная. Гэта—адыход ад ленінскага інтэрнацыяналізма».

10-гадовы юбілей смерці найвялікшага мысліцеля, арганізатара і правадыра нашай партыі—**Леніна**—супадае з датамі найвялікшага гістарычнага значэння: з XVII партыйным з'ездам ВКП(б), XV з'ездам КП(б)Б, 15-годдзем комуністычнай партыі бальшэвікоў Беларусі і з 15-годдзем стварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Гэтыя даты знамянуюць сабой грандыёзныя перамогі Кастрычніка, перад якімі з жахам і адчаем уздрыгаецца буржуазны свет і палымнеюць радасцю і непахіснай верай у канчатковую перамогу сэрцы мільёнаў прыгнечаных і эксплаатуемых мас. Адным з важнейшых поспехаў нашай партыі з'яўляецца перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі. Толькі пры дыктатуры пролетарыята аказалася магчымым, што раней адсталыя, забітыя, прыгнечаныя нацыя-

нальнасці сёння квітнеюць свабодным жыццём, як поўнапраўныя члены вялікай сям'і народаў СССР, будуючых соцыялізм.

Ужо за гады першай пяцігодкі створаны магутныя індустрыяльныя ачагі ў нацыянальных рэспубліках, што ўшчыльную падвяло нашу краіну да задач завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі СССР. Калгасныя палі ўсё больш і гусцей усейваюцца трактарамі, камбайнамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі, ператвараючы сельскагаспадарчую працу ў разнавіднасць індустрыяльнай. Растуць і мацнеюць кадры мясцовага нацыянальнага пролетарыята, яго саюз з працоўным сялянствам, мацнее пролетарская дыктатура. Адбываецца нечуваны ўздым пролетарскай соцыялістычнай культуры ва ўсёй разнастайнасці яе нацыянальных форм. Канчаткова ліквідуецца спадчына векавога нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання—эканамічная і культурная адсталасць раней прыгнечаных нацыянальнасцей.

Дасягненні інтэрнацыяналісцкай палітыкі пролетарыята ясна відаць на прыкладзе соцыялістычнага будаўніцтва ў Совецкай Беларусі. Дзякуючы няўхільнаму правядзенню ЦК КП(б)Б на чале з т. **Гікало** генеральнай лініі партыі і ленінскай нацыянальнай палітыкі, як яе неадрыўнай часткі, пры непасрэдным і прамым кіраўніцтве ЦК ВКП(б) і пры дапамозе рабочых Совецкага саюза, Беларусь з раней прыгнечанай і паняволенай краіны з адсталай сельскай гаспадаркай, вельмі слабай прамысловасцю і нізкай культурай вырасла ў краіну індустрыяльна-аграрную, у краіну высокай тэхнікі і культуры, стала адной з перадавых рэспублік Совецкага саюза, моцным яе фарпостам на рубяжы з капіталістычным Захадам.

Іменна таму скрыгочуць так зубамі ворагі рабочых і сялян, буржуазныя нацыяналісты рознага толку і масцей, якія бачаць крах сваіх надзей на рэстаўрацыю царства эксплаатацыі і закабалення. Іх ярасць супроць пролетарскай дыктатуры бязмежна. У сваёй барацьбе за захаванне прыватнай уласнасці і рэстаўрацыю капіталістычных парадкаў, яны прыбягаюць да самых разнастайных форм сабатажу, шкодніцтва, разлажэння знутры, шпіянажа і правакацый. Узросшая магутнасць Совецкага саюза не дазваляе дзейнічаць з адкрытым забралам, і яны пераходзяць на «ціхую сапу», накіроўваючы супроць рабочых і сялян свае апошнія сілы, шалёную злобу і зверскую нянавісць. Разгромленыя і выбітыя з эканамічнай каляіны буржуазна-нацыяналістычныя кулацкія рэшткі і іх агенты на Беларусі, Украіне і ў іншых нацыянальных рэспубліках прыбягаюць да самых складаных манеўраў, прагнучы ператварыць Беларусь у каланіяльны прыдатак польскага і нямецкага фашызма шляхам адрыву яе ад СССР. Карыстаючыся прытупленнем большэвіцкай пільнасці рада партыйных арганізацый, хаваючыся за гніла-ліберальныя, перараджэнцкія і апартуністычныя элементы, напяльваючы на сябе фальшыва-нацыянальныя маскі, беларускія нацыяналісты прабраліся ў паасобныя звенні совецкага апарата, асабліва ў зямельныя органы (Наркамзем, Трактарацэнтр), у культурна-асветныя ўстановы (Наркамасветы, ДВБ, школы, ВНУ, у Акадэмію Навук) і нават у рады партыі і комсамола, адкуль яны праводзілі сваю подлую лінію на адрыў БССР ад Совецкага саюза з мэтай ператварыць Беларусь у калонію імперыялістычных клік. Кульціваванне буржуазнага нацыяналізма, натраўліванне адной нацыянальнасці на другую, падрыў пролетарскага інтэрнацыяналізма—нязменныя сродкі ідэалагічнай падрыхтоўкі і расчысткі шляхоў для інтэрвенцыі.

Беларускія нацыянал-дэмакраты, якія выдавалі сябе за збаўцаў беларускага народу ўжо ў перыяд падрыхтоўкі пролетарскай рэволюцыі і асабліва ў святле Кастрычніцкіх падзей і грамадзянскай вайны, былі выкрыты партыяй перад масамі, як дробна-буржуазныя інтрыганы і гандляры сваёй бацькаўшчынай, як сапраўдныя ворагі пролетарскай дыктатуры. Свой прадажны твар заядлых ворагаў рабочых і сялян яны поўнасцю выявілі ў пошуках «ратунку» ад большэвікоў, пакланіўшыся ў нозі кайзераўскаму імперыялістычнаму ўраду, просячы ўзяць Беларусь «пад сваю высокую руку», ліжучы боты украінскай контррэволюцыі—гетману Скарападскаму, вітаючы ката рабочых і сялян—пана Пілсудскага, як збаўцу «ад крывавага панавання масквічоў». Разам з катамі працоўных Беларусі—Булак-Балаховічам і Савінкавым—і па прамому ўказанню нямецкіх і польскіх імперыялістаў, яны арганізоўвалі і падтрымлівалі контррэволюцыйныя кулацкія паўстанні і выступленні супроць Совецкай улады. Будучы ізаляванай ад мас, кучка інтэрвенцыяністаў беларускіх нацыяналістаў і далей ішла па ўжо ўзятым раз напрамку, стала звычайнымі шпіёнамі і правакатарамі польскай дэфензівы і германскага генеральнага штаба. Паражэнне беларускіх шавіністаў у Кастрычніку азначала ўдар па блоку беларускага буржуа, кулака і памешчыка, азначала перамогу пролетарскага інтэрнацыяналізма.

І ў далейшай сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці беларускія нацыянал-дэмакраты заставаліся ярымі абаронцамі пазіцый беларускага кулацтва і вернымі прыслужнікамі польскіх паноў. І ў далейшым, як і на ўсіх папярэдніх этапах сваёй контррэволюцыйнай барацьбы супроць Совецкай Беларусі, заставалася нязменнай іх стаўка на інтэрвенцыю.

Сваю падрыўную работу ўнутры Совецкай Беларусі яны заўсёды разглядалі, як расчышчаючую і падрыхтоўваючую інтэрвенцыю, з якой яны звязалі буржуазна-кулацкія нацыяналістычныя надзеі на адрыў Совецкай Беларусі ад СССР і ператварэнне яе ў плацдарм фашысцкай рэакцыі супроць комунізма. Для гэтых мэт яны падрыхтоўвалі класавыя сілы, на якія ўнутры БССР магла-б абаперціся інтэрвенцыя: захаванне і ўмацаванне кулацтва, рэштак гарадской, дробнай буржуазіі і рэакцыйнай часткі беларускай інтэлігенцыі.

У гэтых-жа інтарэсах і на гэтай платформе яны скалачвалі контррэволюцыйны блок рэакцыйных антысовецкіх сіл—беларускіх нацыяналістаў, вялікадзяржаўных шавіністаў, трацкісцкіх, бундаўскіх і эсэраўскіх элементаў. Падрыхтоўка сваіх нацдэмаўскіх контррэволюцыйных кадраў, прасоўванне і расстаноўка іх на розных участках социялістычнага будаўніцтва таксама з'яўляліся адным са звенняў «шырока задуманага» плана адтаржэння Беларусі ад Совецкага саюза. Пропаведзь буржуазнага нацыяналізма, распальванне нацыянальнай нянавісці і варожасці, асабліва да ўсяго пролетарска-рускага, процістаўленне інтарэсам Беларусі Совецкага саюза ў цэлым, з'яўляліся важнейшым сродкам ідэалагічнай падрыхтоўкі адрыву БССР ад СССР. Гэта нацыяналістычная атрута насаджвалася на фронце будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры ў БССР.

КП(б)Б выкрыла і разграміла нацдэмаўскую арганізацыю (Лёсіка, Някрашэвіча, Краскоўскага і інш.). Члены гэтай арганізацыі (Ігнатоўскі, Прышчэпаў, Баліцкі, Жылуновіч, Алесь Адамовіч і інш.) пралезлі ў партыю як правакатары і шпіёны і на справе выконвалі социяльны заказ капіталістаў і памешчыкаў—ператварыць Беларусь у сваю калонію.

Атрымаўшы новае падмацаванне шпіёнаў і правакатараў ад замежнай контрразведкі пад выглядам праследуемых рэволюцыйных дзеячоў, нацдэмаўскае атрэп'е асабліва разгарнула інтэрвенцыяністычныя планы з прыходам к уладзе фашысцкай рэакцыі ў радзе капіталістычных краін і ўмацаваннем небяспекі непасрэднага ваеннага нападу на Совецкі саюз. Славуты розенбергаўскі праект барацьбы з Совецкім саюзам, у прыватнасці яго апетыты на Совецкую Украіну і Совецкую Беларусь, па-новаму акрылілі надзею на інтэрвенцыю і надалі новыя сілы і бадзёрасць беларускім і украінскім нацыяналістам.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам і пры дапамозе ЦК ВКП(б), няўхільна праводзячы палітыку пролетарскага інтэрнацыяналізма і выпраўляючы дапушчаныя памылкі, разграміла новую контррэволюцыйную арганізацыю беларускіх нацыяналістаў, кіруемых так званым «Беларускім нацыянальным цэнтрам», на чале якога стаялі правакатары і шпіёны, перакінутыя ў БССР замежнай контрразведкай (Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Капуцкі, Мятла і інш.).

У сувязі з гэтым, снежаньскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б (1933 г.), па прыкладу Украінскага пленума, перагледзеў пытанне аб галоўнай небяспецы ў нацыянальным пытанні ва ўмовах Беларусі. Пленум прызнаў, што «вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага Саюза і ўсёй ВКП(б), але гэта ні ў якай меры не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі».

Пленум падкрэсліваў новую тактыку класавага ворага:

> «Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабою на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР - для аслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма».

Гэта большэвіцкая пастанова пленума не азначае змены прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізма, а з'яўляецца канкрэтным дыялектычным прыстасаваннем гэтых прынцыпаў да канкрэтнай абстаноўкі класавай барацьбы. Партыя заўсёды праводзіла і праводзіць ленінскую нацыянальную палітыку ў барацьбе на два фронты. Пры гэтым у адпаведнасці з палітычнай абстаноўкай і ўмовамі класавай барацьбы партыя заўсёды вызначае галоўную небяспеку для данага этапа. Такую небяспеку для БССР на даным этапе прадстаўляе буржуазны беларускі нацыяналізм, які імкнецца к рэстаўрацыі капіталізма шляхам адрыву БССР ад Совецкага саюза і падпарадкавання яе заходняму фашызму. Гэтаму большэвіцкаму ўменню выкрываць галоўную небяспеку ў нацыянальным пытанні вучыць нас уся гісторыя ленінізма, вучаць нас нашы настаўнікі і правадыры—Ленін і Сталін.

Пленум даў чоткую дырэктыву партыйнай арганізацыі Беларусі:

> «Даць сакрушальны адпор усякім спробам разрыву або аслаблення сувязі Беларусі з Совецкім саюзам, умацоўваць гэту сувязь, выхоўваць беларускія рабочыя і працоўныя масы ў духу інтэрнацыяналізма і ўмацоўваць баявое рэволюцыйнае адзінства працоўных мас усіх совецкіх рэспублік супроць міжнароднага імперыялізма і ўнутранай нацыяналістычнай і ўсякай іншай

контррэволюцыі, а таксама ўсякіх нацапартуністычных ухілаў у справе правядзення ленінскай нацпалітыкі—такава зараз асноўная задача КП(б)Б».

Узмацненне барацьбы супроць вялікадзяржаўнага шавінізма, як галоўнай небяспекі ў маштабе ўсяго Совецкага саюза, а таксама супроць беларускага нацыяналізма, які прадстаўляе галоўную небяспеку ва ўмовах БССР—вось задача партыйных арганізацый. Разам з гэтым неабходна ўсямерна ўзмацняць барацьбу супроць усіх відаў мясцовага шавінізма—польскага, яўрэйскага і інш.

Трэба памятаць указанні т. Сталіна, што

«перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей значна больш жывучы ў галіне нацыянальнага пытання, чым у любой іншай галіне. Яны больш жывучы, бо маюць магчымасць добра маскіравацца ў нацыянальны касцюм».

Рашучая барацьба з ухіламі к нацыяналізму з'яўляецца неабходнай прадпасылкай канчатковага выкарчоўвання нацыяналістычных перажыткаў у свядомасці людзей. Толькі з пазіцыі ленінскага інтэрнацыяналізма забяспечана паспяховая барацьба з ухіламі к нацыяналізму.

Пленум ЦК КП(б)Б даў канкрэтныя дырэктывы ў справе барацьбы з перажыткамі нацыяналізма і выхавання мас у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма. Указаны канкрэтныя задачы ў галіне культурнага будаўніцтва. Асаблівую ўвагу пленум звяртае на падбор і падрыхтоўку большэвіцкіх кадраў, на поўнае выкарчоўванне нацыяналістычнай ідэалогіі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Прамова т. Сталіна на XVII з'ездзе ВКП(б), пастановы пленума ЦК КП(б)Б павінны з'явіцца кіруючай праграмай партыйных арганізацый у далейшым развіцці соцыялістычнай навукі і культуры працоўных мас Совецкай Беларусі.

---

# К А Н С У Л Ь Т А Ц Ы І

# РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Ленін—Сталін аб агульным крызісе капіталізма

Узброіўшыся крытычным і рэволюцыйным метадам Маркса, канкрэтызаваўшы і развіўшы яго далей, Ленін ускрывае як у сілу развіцця сваіх-жа ўнутраных законаў капіталістычны спосаб вытворчасці на пэўнай ступені сваёй канцэнтрацыі, параджае манаполію, паказвае, як перарастае капіталізм свабоднай канкурэнцыі ў манапалістычны капіталізм. І даўшы найвялікшы па сваёй сіле і глыбіні аналіз капіталістычнай сістэмы гаспадаркі ў імперыялістычнай стадыі яе развіцця, характарызуючы яе як манапалістычную стадыю загніваючага і паміраючага, але не памёршага капіталізма, Ленін паказаў, як наспявае эпоха соцыялістычнай рэволюцыі, як у сілу закона няроўнамернага развіцця капіталізма, гэтага рашаючага закона імперыялістычнай эпохі, ствараецца магчымасць прарыву найбольш слабага імперыялістычнага звяна, як ствараецца магчымасць, у сілу таго-ж закона, перамогі соцыялізма ў нямногіх ці нават адной пасобна ўзятай краіне.

Ленін сваім аналізам імперыялізма паказаў, што ўсясілле манапалістычных трэстаў і сіндыкатаў, банкаў і фінансавай алігархіі даводзіць супярэчнасці капіталізма да крайніх межаў, ушчыльную падводзіць да практычнай неабходнасці пролетарскай рэволюцыі. Абвастраючыяся супярэчнасці паміж працай і капіталам, паміж самімі імперыялістамі, паміж метраполіяй і калоніяй вядуць да аслаблення фронта імперыялізма ў цэлым, да прарыву яго найбольш слабых звенняў пролетарскімі рэволюцыямі. Іменна таму Ленін гаварыў аб тым, што «імперыялізм ёсць пярэдадзень соцыялістычнай рэволюцыі».

Усё далейшае развіццё імперыялізма бліскуча пацвердзіла велізарную гістарычную сілу і правільнасць палажэння Леніна аб крушэнні капіталізма.

Імперыялізм не можа існаваць без імперыялістычных войн, без захватаў чужых тэрыторый, без барацьбы за перадзел ужо падзеленай «здабычы». Набыццё новых тэрыторый вядзе да яшчэ большага абагачэння класа капіталістаў праз абрабленне паняволеных народаў, вядзе да расшырэння рынка, а гэта апошняе ёсць адзін са шляхоў, якія выбірае буржуазія для выхаду з перыядычных крызісаў перавытворчасці, патрасаючых сістэму капіталізма.

Наспеўшы ў 1913 г. эканамічны крызіс перавытворчасці быў «рассасан» пачаўшайся ў 1914 г. імперыялістычнай вайной, «вайной з-за таго, што англійская ці германская група фінансавых магнатаў павінна атрымаць больш здабычы» **(Ленін).**

Ускрыўшы сутнасць войн і іх асаблівасць у эпоху імперыялізма, Ленін развіў палажэнне аб тым, што

«Усякая вайна неараздзельна звязана з тым палітычным ладам, з якога яна выцякае. Тую самую палітыку, якую пэўная дзяр-

жава, пэўны клас унутры гэтай дзяржавы вёў на працягу доўгага часу перад вайной, неўнікнёна і немінуча гэты-ж самы клас прадаўжае ў час вайны, перамяніўшы толькі форму дзеяння» [1]).

Таму Ленін пярэчыў супроць спрашчэнняў, механічных азначэнняў Бухарына, згодна якім «вайна ёсць сродак узнаўлення тых вытворчых адносін, на аснове якіх яна ўзнікае» [2]) Ленінскі тэзіс «ператварэння імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую», які выражае адносіны пролетарыята да імперыялістычнай вайны, соцыял-фашысты стараюцца сказіць, сцвярджаючы, што Ленін і Комінтэрн звязваюць перспектывы пролетарскай рэволюцыі выключна з імперыялістычнай вайной. Няма патрэбы абвяргаць гэты агідны паклёп. Лепшым яго абвяржэннем з'яўляецца рашучая барацьба Комінтэрна супроць небяспекі новай вайны.

Але разам з тым вайна паскарае працэс рэволюцыянізавання рабочага класа, да крайнасці абвастрае ўсе супярэчнасці капіталізма, павялічвае галечу і пакуты мас.

Імперыялістычная вайна (1914—1918 гг.) прынесла сусветнае зруйнаванне, «вайна безумоўна парадзіла самы рэзкі крызіс і абвастрыла бядоту мас непамерна» **(Ленін)** і з нябачанай раней быстрынёй адкрыла вочы мільёнам і дзесяткам мільёнаў забітых, абманутых, адурачаных буржуазіяй людзей.

Не выпадкова таму, што з імперыялістычнай вайны вырасла вялікая Октябрская рэволюцыя і хваля рэволюцыйных выступленняў ва ўсіх краінах. Не выпадкова таму, што гэта вайна паклала пачатак перыяду агульнага крызіса капіталізма. Узарваўшы і да крайнасці абвастрыўшы ўсе супярэчнасці імперыялізма, вайна сваімі вынікамі стварыла новыя вузлы імперыялістычных супярэчнасцей, неймаверна ўзмацніла працэс абнішчання мас, новыя рычагі разлажэння капіталістычнай сістэмы. І іменна таму вайна з'явілася выходным пунктам агульнага крызіса капіталізма. Яшчэ ў пачатку вайны (снежань 1914 г.) Ленін пісаў: «Еўрапейская вайна азначае велізарнейшы гістарычны крызіс, пачатак новай эпохі» [3]).

Характарызуючы крызіс капіталізма, Ленін сцвярджаў: «Вайна прынесла нечуванае абвастрэнне ўсіх капіталістычных супярэчнасцей і адкрыла «эру соцыяльнай рэволюцыі» [4]). Аналізуючы гэтыя супярэчнасці, ён заключае: «адгэтуль вышякае сусветны крызіс».

Ленін указваў, што створаны вайной усеагульны крызіс вядзе капіталістычную сістэму к краху.

> «На глебе сусветнага разарэння, створанага вайной, расце... сусветны рэволюцыйны крызіс, які, якія-б доўгія і цяжкія перыпетыі ён ні праходзіў, не зможа скончыцца інакш, як пролетарскай рэволюцыяй і яе перамогай» [5]).

Але адначасова Ленін папярэджваў, што гэты крызіс павінен разглядацца, «як аснова нашага рэволюцыйнага дзеяння», а не як перыяд аўтаматычнага краху капіталізма. Ён пісаў: «І тут трэба перш за ўсё

---

1) **Ленін**, Творы, т. XXX, стар. 333.
2) **Ленін**, Заўвагі на „Эканоміку пераходнага перыяду" Бухарына, стар. 11.
3) **Ленін**, Творы, т. XVIII, стар. 77.
4) **Ленін**, Творы т. XX, стар. 126.
5) **Ленін**, Творы, т. XIX, стар. 72.

адзначыць дзве пашыраныя памылкі. З аднаго боку, буржуазныя эканамісты паказваюць гэты крызіс як просты «непакой»... з другога боку, рэвалюцыянеры часамі стараюцца даказаць, што крызіс абсалютна бязвыхадны.

«Буржуазны лад ва ўсім свеце перажывае велізарнейшы рэвалюцыйны крызіс. Трэба «даказаць» цяпер практыкай рэвалюцыйных партый, што ў іх даволі свядомасці, арганізаванасці, сувязі з эксплаатуемымі масамі, рашучасці, умення, каб выкарыстаць гэты крызіс для паспяховай, для пераможнай рэвалюцыі» [1]).

Агульны крызіс капіталізма гэта—асобая апошняя фаза імперыялізма і не можа быць зведзен да перыядычных крызісаў перавытворчасці. Ён вырас з унутраных законаў імперыялізма, як паміраючага капіталізма, і азначае перыяд пачаўшагася няроўнамернага рэвалюцыйнага краху капіталізма, а «рэвалюцыя,—пісаў Ленін,—можа састаяць і напэўна будзе састаяць з доўгагадовых боек, некалькіх перыядаў націску з прамежкамі контррэвалюцыйных сударагі буржуазнага ладу». Крызіс капіталістычнай сістэмы азначае, што да крайнасці абвастрыліся асноўныя супярэчнасці капіталізма паміж грамадскім характарам вытворчасці і прыватнай формай прысваення, рэзка абвастрыліся супярэчнасці паміж працай і капіталам і наступіла эпоха пачаўшайся і разгортваючайся сусветнай пролетарскай рэвалюцыі, што пачаўся пераход ад дыктатуры фінансавага капітала к дыктатуры пролетарыята, які ахватвае сабой доўгі перыяд барацьбы пролетарыята, яго паражэнняў і перамог.

У выніку перамогі Окцябрскай рэвалюцыі ў СССР свет раскалоўся на два светы, на дзве процілеглыя адна другой сістэмы і гэта супярэчнасць з'яўляецца рашаючай супярэчнасцю сучаснай гісторыі. Стварэнне Совецкага саюза і паспяховае соцыялістычнае будаўніцтва ёсць важнейшы момант і рашаючае выражэнне агульнага крызіса.

Усеагульны крызіс капіталізма ёсць апошняя фаза імперыялізма, характарызуемая тым, што міжнародная соцыялістычная рэвалюцыя ўжо пачалася, «што капіталізм ужо не прадстаўляе адзінай і ўсеахватваючай сістэмы сусветнай гаспадаркі, што побач з капіталістычнай сістэмай сусветнай гаспадаркі існуе соцыялістычная сістэма, якая расце, якая пераўспявае», характарызуемая барацьбой двух процілеглых сістэм у сусветнай гаспадарцы, ростам пролетарскіх рэволюцый у краінах капітала і нацыянальна-вызваленчага, рэвалюцыйнага руху ў калоніях, які зліваецца з пролетарскімі рэволюцыямі. Гэты перыяд з'яўляецца апошнім этапам імперыялізма пры велізарнейшым абвостранні ўсіх яго супярэчнасцей, ёсць найвышэйшая і апошняя фаза капіталізма ў яго імперыялістычнай стадыі, пачатак сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Усеагульны крызіс капіталістычнай сістэмы як нельга лепш паказвае гніласць капіталізма і ў сілу закона няроўнамернага развіцця капіталізма, ланцуг прарываецца ў паасобных, найбольш слабых, імперыялістычных звеннях. Паскараючы абвостранне ўсіх супярэчнасцей да крайніх межаў, супярэчнасці паміж працай і капіталам, усеагульны крызіс прыводзіць да няроўнамернага наспявання рэвалюцыйнага крызіса, да наспявання пролетарскіх рэвалюцый у радзе краін.

---

[1]) **Ленін**, Творы, с. XXV, стар. 340—341.

Крах усяго гнілога ў сістэме капіталізма як нельга лепш дэманструецца сучасным эканамічным крызісам і паспяховым ростам соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі, «якая самым фактам свайго існавання дэманструе гніласць капіталізма, расхіствае яго асновы» **(Сталін).**

Існаванне СССР і пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва ў ім прадстаўляюць не толькі найбольш яркае выражэнне ўсеагульнага крызіса капіталістычнай сістэмы, але і важнейшы фактар яго далейшага паглыблення.

Барацьба двух сістэм з'яўляецца вызначаючым момантам усёй пасляваеннай эпохі, з'яўляецца асноўным стрыжнем сучасных міжнародных адносін.

Трацкізм—гэты перадавы атрад міжнароднай контррэволюцыі—зводзіць усеагульны крызіс капіталізма да абсалютнай стагнацыі, да астаноўкі ў развіцці прадукцыйных сіл капіталізма. Трацкісцкая тэорыя абсалютнай стагнацыі прадстаўляе сабою спалучэнне буржуазнай тэорыі вялікіх цыклаў (Кандрац'еў) з соцыял-фашысцкай тэорыяй арганізаванага капіталізма і тэорыяй яго аўтаматычнага краху.

Троцкі, ігнаруючы барацьбу двух сістэм, адносіць антаганізм паміж соцыялізмам і капіталізмам да ліку антаганізмаў не рашаючых, не асноўных.

На антыленінскай канцэпцыі ў пытаннях імперыялізма стаяла Роза Люксембург. Роза Люксембург не разумела сутнасці імперыялізма, як вышэйшай і апошняй стадыі манапалістычнага, загніваючага і паміраючага капіталізма. Імперыялізм ва ўяўленні тэарэтыкаў аўтаматычнага краху капіталізма ёсць «нішто іншае як спецыфічны метад накаплення» (Р. Люксембург. «Накапленне капітала», стар. 385), праз рэалізацыю дадатковай вартасці ў некапіталістычным асяроддзі і капіталізм, згодна гэтым «тэорыям», сам сябе зжывае праз знішчэнне некапіталістычнага асяроддзя.

Указанні і вывад Р. Люксембург аб аўтаматычным краху капіталізма зацямняе ролю пролетарыята, як асноўнага рэволюцыйнага ператорца капіталізма ў соцыялізм, скажае марксізм і рэчаіснасць. Са сваёй канцэпцыі аўтаматычнага краху капіталізма Люксембург дапускае рад іншых буйнейшых памылак, як недаацэнка ролі партыі, саюзнікаў пролетарыята, нацпытання і інш.

Ва ўяўленні тэарэтыкаў аўтаматычнага краху капіталізма з развіццём апошняга знікае адна з асноўных супярэчнасцей імперыялістычнай эпохі, супярэчнасць, якая абвастраецца паміж метраполіямі і калоніямі, падзел на пануючыя і прыгнечаныя. Роза Люксембург, выходзячы са сваіх тэарэтычных установак, па-першае, недаацэньвала рэволюцыйных магчымасцей каланіяльных народаў і, па-другое, няправільна разумела значэнне і задачы каланіяльных рэволюцый.

Тэорыя аўтаматычнага краху капіталізма распаўсюджваецца як трацкістамі—перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі, так і «левымі» соцыял-фашыстамі—галоўнай соцыяльнай апорай буржуазіі.

Ленінская характарыстыка ўсеагульнага крызіса з'яўляецца новай пастаноўкай праблемы пераходу ад капіталізма к соцыялізму ў эканамічна неразвітых краінах. Ленін на II кангрэсе Комінтэрна, выходзячы з данай ім характарыстыкі ўсеагульнага крызіса, у дакладзе камісіі па нацыянальнаму і каланіяльнаму пытанню, высоўвае палажэнне, што «з дапамогай пролетарыята найбольш перадавых краін

адсталыя краіны могуць перайсці к савецкаму ладу і праз пэўныя ступені развіцця—к камунізму, мінуючы капіталістычную стадыю развіцця». З другога боку, гэтая-ж характарыстыка з'яўляецца выходным пунктам для пастаноўкі пытання аб тым, якава-ж павінна быць эканамічная палітыка пераможшага пролетарыята, яго адносіны да розных слаёў сялян у перыяд соцыялістычнай рэволюцыі.

Вучэнне Леніна ў новых умовах развіцця пролетарскай рэволюцыі развівае і абагачае далей т. Сталін.

Ва ўмовах частковай стабілізацыі капіталізма, калі буржуазныя эканамісты і соцыял-фашысты стварылі тэорыю аб тым, што дасягнута «новая эра», што прагрэс будзе прадаўжацца беспярапынна і што чаргаванне ўздымаў і падзенняў належыць «мінуламу», калі соцыял-дэмакратыя вяшчае свету, што ўжо наступіла эра «арганізаванага капіталізма», калі трацкісцкія і права-апартуністычныя элементы становяцца на соцыял-дэмакратычнай тэорыі,—тав. Сталін у перыяд велізарнейшага «росквіту» пасляваеннага капіталізма, указаў, што

«З самой стабілізацыі, з таго, што вытворчасць расце, з таго, што тандаль расце, з таго, што тэхнічны прагрэс і вытворчыя магчымасці ўзрастаюць у той час як сусветны рынак—межы гэтага рынка, сферы ўплыву паасобных імперыялістычных груп астаюцца больш ці менш стабільнымі, іменна з гэтага вырастае самы глыбокі і самы востры крызіс сусветнага капіталізма, чраваты новымі войнамі, і пагражае існаванню якой-бы там ні было стабілізацыі. З частковай стабілізацыі вырастае ўзмацненне крызіса капіталізма, нарастаючы крызіс разбівае стабілізацыю—такава дыялектыка развіцця капіталізма ў даны гістарычны момант» [1]).

Не прайшло і двух год як перыяд частковай стабілізацыі змяняецца трэцім перыядам у развіцці пасляваеннага капіталізма, перыядам абвострання класавых баёў, перыядам нарастання рэволюцыйнага крызіса ў краінах капітала з небывалым эканамічным крызісам перавытворчасці. Класічным вызначэннем і раскрыццём сутнасці ўсеагульнага крызіса капіталізма з'яўляецца сталінская характарыстыка, даная ім на XVI з'ездзе ВКП(б).

Тав. Сталін абагачае марксісцка-ленінскае вучэнне аб эканамічных крызісах ва ўмовах існавання і барацьбы двух сістэм. Тав. Сталін на XVI з'ездзе партыі гаварыў:

«Сучасны крызіс не ёсць звычайнае паўтарэнне старых крызісаў. Ён адбываецца і развіваецца ў некаторых новых умовах. Сучасны эканамічны крызіс разгортваецца на базе **агульнага крызіса** капіталізма, узнікшага яшчэ ва ўмовах імперыялістычнай вайны, падточваючага ўстоі капіталізма і аблегчыўшага наступленне эканамічнага крызіса» [2]).

Аналізуючы сучасны эканамічны крызіс, тав. Сталін паказаў агаліўшыяся капіталістычныя супярэчнасці паміж важнейшымі імперыялістычнымі краінамі, паміж краінамі пераможніцамі і краінамі пераможанымі, паміж метраполіямі і калоніямі, паміж буржуазіяй і пролетарыятам, паміж СССР і капіталістычным светам, паказаў, што част-

---

[1]) **Сталін**, „Пытанні ленінізма", стар. 392, выд. 2-ое.
[2]) **Сталін**, „Пытанні ленінізма", стар. 493, 9-ае выд.

ковай стабілізацыі прыходзіць канец, што ўздым рэволюцыйнага руху нарастае з новай сілай, што сусветны эканамічны крызіс будзе перарастаць у крызіс палітычны. А гэта значыць, гаварыў т. Сталін,

...«што буржуазія будзе шукаць выхаду з палажэння ў далейшай фашызацыі ў галіне ўнутранай палітыкі, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе рэакцыйныя сілы, у тым ліку і соцыял-дэмакратыю.., што буржуазія будзе шукаць выхаду ў новай імперыялістычнай вайне і інтэрвенцыі ў галіне знешняй палітыкі.., што пролетарыят, змагаючыся з капіталістычнай эксплаатацыяй і ваеннай небяспекай, будзе шукаць выхаду ў рэволюцыі» [1]).

Мінулыя гады развіцця сусветнай гісторыі, гады барацьбы двух сістэм пацвердзілі ўсю правату сталінскіх прагнозаў, і XII пленум Выканкома Комінтэрна (1932) канстатаваў, што наступіў канец адноснай стабілізацыі капіталізма, абдываецца пераход к новаму туру рэволюцый, войн і інтэрвенцый супроць СССР.

Мінулыя гады, характарызуемыя паглыбленнем бяздоння паміж СССР і капіталістычным светам, карэнным чынам змянілі суадносіны сіл на карысць соцыялізма.

Нават па даных буржуазнай статыстыкі, якія прыводзяцца т. Варга, прамысловая прадукцыя капіталістычнага свету ў 1932 г. была прыблізна на 10 проц. ніжэй 1913 г., а ў Совецкім саюзе—на 200 проц. вышэй.

Эканамічны крызіс перавытворчасці значна паглыбіў усеагульны крызіс капіталізма, давёўшы процант скарыстання прамысловай магутнасці да мізэрнай лічбы, значна павялічыў мільённую армію беспрацоўных, абвастрыў імперыялістычныя супярэчнасці.

Такое становішча ў эканоміцы капіталістычных краін прыводзіць да паглыблення імперыялістычных супярэчнасцей і абвострання класавай барацьбы ўнутры паасобных краін, прыводзіць да паглыблення ўсеагульнага крызіса капіталістычнай сістэмы. Таму, не гледзячы на тое, што капіталізму ўдалося некалькі аблегчыць становішча ў прамысловасці за лік рабочых, за лік фермераў, за лік сялян, калоній і эканамічна слабых краін, XIII пленум Комінтэрна паказаў, што

«надзвычайная напружанасць як унутраных класавых супярэчнасцей у капіталістычных краінах, так і міжнародных антаганізмаў сведчыць аб такой спеласці аб'ектыўных прадпасылак рэволюцыйнага крызіса, што ў сучасны момант свет ужо «ўшчыльную падыходзіць да новага туру рэволюцый і войн».

На паглыбленне агульнага крызіса капіталізма, абвостранне капіталістычных супярэчнасцей указваў т. Сталін у сваім дакладзе XVII з'езду партыі. Гаворачы аб стане сусветнага эканамічнага крызіса на даным этапе, тав. Сталін указвае, што капіталізму ўдалося за кошт працоўных мас сваёй краіны і калоній аблегчыць становішча прамысловасці, з прычыны чаго мы маем зараз

«справу з пераходам ад пункту найбольшага заняпаду прамысловасці, ад пункту найбольшай глыбіні прамысловага крызіса—к дэпрэсіі, але к дэпрэсіі не звычайнай, а к дэпрэсіі асобага роду, якая не вядзе к новаму ўздыму і росквіту прамысловасці, але і не варочае яе к пункту найбольшага заняпаду».

Гэтая дэпрэсія характэрна тым, што яна будзе працякаць на аснове паглыбляючагася агульнага крызіса капіталізма, хранічнай недагрузкі

[1]) **Сталін**, „Пытанні ленінізма", стар. 498.

прадпрыемстваў, агромнай арміі беспрацоўных, паглыбляючагася аграрнага крызіса, ва ўмовах, калі свет ушчыльную падыходзіць да новага туру рэволюцый і войн.

Буржуазія будзе шукаць выхаду з гэтых супярэчнасцей у новых імперыялістычных войнах, будзе шукаць выхаду ў вайне супроць Совецкага саюза. Палітыка фашысцкай Германіі, Японіі,—яркі довад таго, як буржуазія рыхтуецца к новаму перадзелу свету, як яна робіць стаўку і на вайну супроць Совецкага саюза.

Указваючы на рост беспрацоўя ў капіталістычных краінах, на тое, што працоўныя масы эканамічным крызісам даведзены да вышэйшай ступені галечы і адчаю, т. Сталін таварыў, што хоць у сучасны момант «народныя масы не дайшлі яшчэ да таго, каб пайсці на штурм капіталізма, але што ідэя штурма спее ў свядомасці мас—у гэтым наўрад ці можа быць сумненне».

Барыкадныя баі аўстрыйскага пролетарыята, разгортваючаяся рэволюцыя ў Іспаніі, апошнія падзеі ва Францыі цалкам пацвярджаюць правільнасць і паказваюць вялікую гістарычную сілу сталінскага аналізу перспектыў наспявання рэволюцыйнага крызіса.

Паглыбляючыйся ўсеагульны крызіс прыводзіць да ўсё большага наспявання прадпасылак для знішчэння буржуазнага панавання. Але адсюль не вынікае, што

> «буржуазія павінна папасці ў бязвыхаднае становішча, што яе канец, стала быць, ужо прадвызначан, што перамога рэволюцыі тым самым ужо забяспечана... і астаецца толькі чакаць падзення буржуазіі і пісаць пераможныя рэзалюцыі. Гэта глыбокая памылка. Перамога рэволюцыі ніколі не прыходзіць сама. Яе трэба падрыхтаваць і заваяваць. А падрыхтаваць і заваяваць яе можа толькі сільная пролетарская рэволюцыйная партыя». (**Сталін**, адчот ЦК XVII з'езду ВКП(б)).

Ленін яшчэ ў 1921 г. на канферэнцыі РКП указваў:

> «Зараз галоўнае сваё ўздзеянне на міжнародную рэволюцыю мы аказваем сваёй гаспадарчай палітыкай. Усе на Совецкую Расійскую рэспубліку глядзяць, усе працоўныя ва ўсіх краінах свету без усякага выключэння і без усякага перавелічэння. Гэта дасягнута. Замаўчаць, скрыць капіталісты нічога не могуць, яны больш за ўсё ловяць таму нашы гаспадарчыя памылкі і нашу слабасць. На гэтай арэне барацьба перанесена ў сусветным маштабе. Вырашым мы гэту задачу—і тады мы выйгралі ў міжнародным маштабе напэўна і канчаткова» [1]).

Гэта, сказанае Леніным у пачатку нэпа, яшчэ больш справядліва цяпер, калі краіна Советаў канчаткова ўмацавалася на пазіцыях соцыялізма, калі соцыялістычная сістэма гіганцкі разгарнула свае рухомыя сілы і перавагі, выступаючы як магутны рычаг міжнароднай пролетарскай рэволюцыі.

Соцыялістычная сістэма, завяршыўшы пераможна першую пяцігодку, прыступіла да ажыццяўлення яшчэ больш грандыёзнай гістарычнай задачы—пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Паспяховае вырашэнне задач другой пяцігодкі азначае ўзмацненне агульнага крызіса капіталістычнай сістэмы, азначае новую змену ў суадносінах сіл паміж соцыялізмам і капіталізмам на карысць соцыялізма.

**Сыцько.**

---

1) **Ленін,** Творы, т. XXVI, стар 410—411.

## Барацьба з адходам парасят

У барацьбе за мінімум адходу маладняка мае значэнне цэлы рад тэхнічных момантаў у свінагадоўлі, якімі павінен аўладаць кожны працаўнік свінасоўгаса, свінафермы. На першы погляд здаецца, што тэхніка вырошчвання парасят складаецца з дробязей, вядомых кожнаму працаўніку, на якія можна не зварочваць увагі. На справе-ж ад правільнага выканання гэтых «дробязей тэхнікі» ці невыканання іх залежыць поспех у вырошчванні парасят.

Пра асноўныя тэхнічныя веды ў барацьбе за вырошчванне парасят і будзем гаварыць.

### Догляд за супароснай маткай

Галоўнае, за чым трэба сачыць,—гэта, каб паросная свінаматка не была надта худою і надта тлустай. І тая і другая дае кволых, няжыццездольных парасят. Халастыя і супаросныя маткі звычайна знаходзяцца ў групах па 7—10 шт. і больш. Супаросную матку перад апаросам з групы трэба выдзеліць: нармальна ўкормленую—за 12—15 дзён да апаросу, а худую—за месяц і больш, каб можна было яе адкарміць, падмацаваць да апаросу, забяспечыць запасам спажыўных матэрый для будучай інтэнсіўнай работы малочных жэлез, для добраякаснага вырошчвання нарадзіўшыхся парасят.

Выдзеліць матку абавязкова яшчэ і таму, каб не было выкідышаў у выніку талкатні ў групах, пры карміленні свіней у сталоўках, пры выганцы ў дзверах і т. д.

Перад тым як паставіць свінаматку ў станок, яго трэба вымыць гарачым шчолакам ці гарачай вадою; з мэтай дэзінфекцыі пабяліць вапнаю сценкі і дзверы станка, прамыць растворам крэаліна падлогу і выцерці яе насуха. Падлога ў станку павінна быць гладкая, каб не застойвалася жыжа. Карыта вымыць, прадэзінфекцыраваць 2-проц. растворам крэаліна, або проста шчолакам ці гарачай вадою. Супаросных і падсосных свінаматак трэба забяспечыць таксама подсцілкай з сухой саломы.

Усе супаросныя маткі, як правіла, павінны карыстацца прагулкай на вольным паветры. Зімою, у залежнасці ад надвор'я, яны гуляюць адну-дзве гадзіны. Летам маткі пасуцца на пашы, або знаходзяцца на свежым паветры пад павецямі, а не ў душных свінарніках.

На прагулку супаросных матак звярнуць асаблівую ўвагу. Сачыць за тым, каб выгнаныя са свінарніка свінні гулялі, а не стаялі на месцы і мёрзлі. Толькі за два дні да апаросу матак ужо не выганяюць.

### Кармленне супароснай маткі

Корм для супаросных матак трэба зрабіць больш разнастайным. За 3—4 дні да апаросу абавязкова зменшыць кармавую дачу на ⅓.

а то і напалову. Супаросныя маткі перад апаросам часта схільны захворваць запорам страўніка, пасля апаросу ў такой маткі бывае запаленне вымені (масціт), малако прападае і частка парасят стаіць перад пагрозай гібелі. Калі захварэўшую матку і ўдаецца вылечыць ад масціта тэрмінова прынятымі мерамі, то яна ўсё-ж не здольна выпрацоўваць патрэбнай колькасці малака. Лягчэй папярэдзіць захворванне, чым лячыць яго. Гэта павінен памятаць кожны работнік свінадвара.

Супароснай матцы перад апаросам трэба даваць кармы, якія лёгка пераварваюцца; напрыклад: з сакавітых кармоў—бульбу, кораньплоды (буракі, морква), з моцных кармоў—аўсянку, пшанічныя высеўкі.

Зімою супароснай матцы за 2—4 дні перад апаросам даецца бульба, кораньплоды—ад 2,5 да 3,5 кгр., моцных кармоў 0,5—0,8 кгр., а летам, замест кораньплодаў, даюць 3—4 кгр. добрай травы і моцнага корму як і зімою.

За 10—15 дзён перад апаросам перастаюць даваць сілос.

## Догляд у час апаросу

Час апаросу той ці іншай маткі вызначаецца (арыентовачна) па кнізе запісаў злучак і па календару апаросаў, пры гэтым спосабе могуць быць адхіленні ў той ці іншы бок дні на 3—4. Больш дакладна вызначыць час апаросу можна па знадворных адзнаках: пры націсканні ў свінні саскоў за 2—3 дні да апаросу з'яўляюцца каплі малака, а ў дзень апаросу малако, пры націсканні, ідзе са ўсіх саскоў струёю. У гэты час свіння мае адвіслы жывот, набухшае, налітае малаком вымя. Перад самым апаросам (у тыя-ж суткі) свіння звычайна непакоіцца, сцелецца, робіць сабе логава.

У час апаросу каля свінні павінен быць дзяжурны, які ведае тэхніку прыёмкі парасят. Абавязак дзяжурнага—забяспечыць чыстату станка, карыта. У карыце павінна быць чыстая, свежая вада хатняй тэмпературы 15—18°C. Дарэмна матку не турбаваць, у свінарніку ўнікаць шуму, непарадку. Дзяжурны павінен мець пры сабе чыстую халсціну, падрыхтаваць у вядры 2-проц. раствор крэаліна ці 5 проц. раствор карболкі. Чыстая цёплая вада ў асобным вядры таксама павінна быць пад рукою. Своечасова падрыхтаваць трэба скрынку з мяккай сухою подсцілкай для прыёмкі парасят. У дзень апаросу не рэкамендуецца карміць матку на працягу 10—12 гадзін, але абавязкова даць ёй папіць, бо смага заўважваецца тады вялікая, і трэба яе задаволіць. Калі матка худая, то, каб узмацніць энергію малакааддзялення, можна падсыпаць у ваду 200—300 гр. пшанічных высевак ці аўсянкі.

## Прыёмка парасят

Пры з'яўленні парасяці ніколі не трэба цягнуць яго за ножкі, а даць магчымасць выйсці ўсяму тулаву. Нарадзіўшамуся парасяці зараз-жа трэба працерці чыстай трапкай рот, вушы, нос ад слізі, каб даць магчымасць свабодна дыхаць, а таксама выцерці да-суха ўсё тулава. Пупавіну—адшчыпнуць пальцамі (рукі павінны быць вымыты ў слабым 2-проц. растворы крэаліна), ці адрэзаць прадэзінфекцыяванымі нажніцамі. Гэту аперацыю рабіць уважліва, за пупок не цягнуць, а адшчыпнуць, прытрымліваючы тую частку пупавіны, якая ідзе к жывату. Канец адшчыпнутай пупавіны павінен мець 6—7 сант. ад жывата, інакш доўга будзе ісці кроў, а ў выпадку забруднення

магчыма заражэнне крыві. Адшчыпнуўшы пупавіну, патрымаць яе ў пальцах 1—2 мінуты, каб перастала цячы кроў. Выцершы парася, пакласці яго ў скрынку з мяккай, сухою, цёплаю подсцілкай (сена ці салома) і накрыць скрынку халсцінай, каб парасятам было цяплей. Накрываючы скрынку, трэба забяспечыць доступ паветра.

Такім парадкам прымаецца ўвесь памёт. Велічыня яго звычайна бывае 8—10—12 і больш парасят жывой вагою 1—1,2 кгр. кожнае. Нармальны апарос працягваецца 1½—4 гадзіны. Неўзабаве пасля выхаду парасят выходзіць і паслед (плацэнта), які зараз-жа неабходна ўбраць са станка, каб часам свіння яго не з'ела, а таксама ўсе кускі пупавіны і парасят, якія іншы раз нараджаюцца нежывымі. Усё гэта закапаць на скоцкіх магілах. Паяданне паследу і нежывых парасят—надта шкодная справа, бо прывучае матак паядаць і жывых парасят. Убраўшы паслед, парасят падсаджваюць ссаць малако. Перад першай падсадкаю кожнае парася ўзважваецца і вага заносіцца ў акт апаросу, які на месцы складаецца брыгадзірам разам з дзяжурным свінаром і заатэхнікам.

Часта здараецца, што апарос зацягваецца ад 4 да 12 гадзін. У такім разе нарадзіўшыхся парасят трэба дапусціць пасcаць, не чакаючы канца апаросу, бо галаданне ў першыя дні жыцця дрэнна адбіваецца на далейшым росце парасят.

Калі матка з моцным інстынктам мацярынства, нецяжкая, рухавая (такімі найчасцей бываюць мясцовыя свінні), то парасят з першых-жа дзён пакідаюць пад ёю. Што датычыць матак англійскай пароды ці мэтысных, якія маюць вялікую жывую вагу, а таму бываюць недастаткова рухавыя і чулыя, то ад такіх матак абавязкова адымаць парасят у асобую скрынку на 2—3 дні, пакуль яны добра акрэпнуць і дапускаць пад матку пассаць праз кожную гадзіну-паўтары. Для матак, асабліва маларухавых, мэтазгодна і станкі абсталяваць так, каб свіння не магла прыдушыць парася. З трох бакоў станка ўмацоўваюцца дрыўляныя брускі, так званыя зашчытныя, адлегласцю ад сцен станка і падлогі на 25—30 сантыметраў.

Перад першаю падсадкай парасят матцы рэкамендуецца злёгку працерці вымя слабым (2 проц.) растворам крэаліна для дэзінфекцыі. Парасятам трэба дапамагчы размясціцца пад саскамі і сачыць, каб адно другога не пакусала.

## Колькі парасят пакідаць пад маткай

Парасят пад маткай пакідаюць столькі, колькі ў яе нармальна развітых саскоў. Малочная матка, пры ўмове добрага догляду і кармлення, можа выгадаваць 10—12 парасят жывой вагою пры ад'ёме 11—15 кгр. кожнае.

Часта бывае, што свіння прыносіць парасят больш, чым мае нармальна развітых саскоў. Тады лішніх парасят трэба падсадзіць пад другую матку, якая прывяла менш парасят. Падсадку чужых парасят (ураўніванне памётаў) лёгка зрабіць пры адначасовым апаросе двух матак, г. зн. у адны і тыя-ж суткі. Можна падсаджваць парасят і да маткі, якая апарасілася 2—3 дні таму назад, але пры гэтым прымяніць трэба меры ашукаць матку-мачыху, каб яна не магла пазнаць чужых парасят. Карыстаюцца такім спосабам: парасят абодвух памётаў змяшчаюць у адну скрынку, каб усе яны праняліся аднолькавым запахам. Тады матка не адрознівае чужых ад сваіх і добра гадуе «пасынкаў». Калі-ж матка ўсё-ж пазнае чужых парасят, тады пр...

буюць змазаць усіх парасят слабым растворам крэаліна, падсадзіць пад матку і наглядаць за яе паводзінамі.

Звычайна памёты лёгка ўраўнаць, калі розніца ў часе нараджэння парасят не больш 2—3 дзён. Калі-ж «лішніх» парасят немагчыма падсадзіць пад чужую матку, то іх можна вырошчваць штучным выпойваннем свежым, чыстым, падагрэтым да тэмпературы цела (37—38°С) кароўім малаком.

Для паспяховасці справы неабходна захоўваць абсалютную чыстату і акуратнасць пры кармленні. Паіць парасят-сірот трэба ў тыя-ж тэрміны, як-бы гэта было і пры матцы—праз 1 гадзіну. Падкормку парасят-сірот пачынаць у той-жа час, як і парасят пад маткай.

### Ці трэба абразаць зубы ў парасят

Нармальна развітыя парасяты родзяцца заўсёды з васмю зубамі—па адной пары з кожнага боку верхняй і ніжняй сківіцы. На практыцы можна часта заўважыць, як маткі ў першыя дні кармлення схватваюцца, нервуюцца, не даюць ссаць, бо парасяты кусаюць іх. А ў выніку парасяты галадаюць, пішчаць і марнеюць. У такіх выпадках парасятам зрэзваюцца вострыя кончыкі зубоў.

Абрэзку зубоў парасятам трэба даручыць вопытнаму чалавеку, бо гэта справа патрабуе ўважлівасці, акуратнасці і некаторага ўмення. Абрэзваць трэба так, каб не пакрышыць карэнні зуба: не каля самай дзясны, а вышэй. Кончык зуба абразаецца гладка, інакш кавалкі пакрышанага зуба могуць калоць сасок не горш неабрэзанага.

Наогул-жа абрэзка зубоў праводзіцца, як крайняя мера, як справа непажаданая. Калі матка не надта нервуецца і можа перацярпець першыя два-тры дні, то абрэзка зубоў парасятам не патрэбна.

### Кармленне маткі пасля апаросу

За здароўем маткі пасля апаросу трэба сачыць вельмі ўважліва: даваць добраякасны корм, паступова павялічваць яго норму і на поўную норму, якая належыць падсоснай матцы (5,5—7 к. адз.) перайсці не раней як на 5-ы, а часам на 8—10 дзень, захоўваць ад прастуды, сачыць, каб у свінарніку не было скразнякоў, вільгаці.

У першыя дні жыцця парасяты хутка павялічваюць жывую вагу, г. зн. маюць здольнасць энергічна расці, таму яны павінны быць забяспечаны прытокам спажыўных матэрый. У гэты час яны атрымліваюць найлепшы корм у выглядзе малака маткі. Захоўваць і развіваць малочнасць маткі—надзвычай адказная вытворчая задача. Няўважлівым доглядам і кармленнем у гэты час можна папсаваць і многамалочную матку.

Якія-ж прычыны могуць спрыяць паніжэнню малочнасці?

1-я—перакорм пасля апаросу, у выніку якога бывае вялікі прыток малака к вымені і запоры. Дрэнна працуе страўнікавы апарат, свіння траціць апетыт. Запоры пасля апаросу здараюцца часта, таму трэба ўважліва сачыць за страўнікам маткі, за тым, каб у станку не было цвёрдых калавых мас.

Як лячыць запоры? Перш за ўсё забяспечыць матку рэгулярнымі прагулкамі, паставіць клізму, даваць лёгка пераварваемы корм: каранькл убнеплоды, гарбузы, баўтушку. Масажыраваць вымя. Падпускаць часцей парасят. Пасля прынятых мер матка папраўляецца і добра гадуе парасят.

2-я прычына—галоднае кармленне маткі да апаросу і пасля апаросу. Зусім зразумела, што матку трэба добра карміць і пры гэтым добраякаснымі кармамі. Галодная матка добрай карміліцай быць не можа.

3-я прычына—матка можа быць маламалочнай па прыродзе, або ад перакормленасці. К зажырэнню звычайна маюць схільнасць маламалочныя маткі, таму іх перакармліваць нельга. Дапамагае справе часты масаж вымені і прагулкі. Запаленне вымені (масціт) здараецца ад прастуды, ад бруднага ўтрымання вымені свінаматкі і ад розных хвароб. Таму ў першыя дні пасля апаросу патрэбна выключная ўвага і догляд за свінаматкай.

## Кармленне і догляд парасят

Адзнакай здароўя парасят з'яўляецца іх жвавасць, энергічнае ссанне маткі, розавы колер скуры, лыча, вушэй, наогул усяго тулава, бліскучая шэрсць.

Такі выгляд маюць парасяты звычайна ў малочнай маткі, у сухім, цёплым і светлым свінарніку пад наглядам свінароў-ударнікаў. Каб захаваць парасят здаровымі, іх неабходна забяспечыць:

1. добраякасным і ў патрэбнай колькасці кормам, багатым поўнацэннымі бялкамі, мінеральнымі матэрыямі і вітамінамі;

2. свежым паветрам і сонцам;

3. сухім, чыстым, цёплым і светлым памяшканнем.

Нават малочныя маткі не могуць забяспечыць патрэбнасці двухдэкадных парасят у спажыўных матэрыях, а таму з 8—10-дзеннага ўзросту іх мэтазгодна прывучаць да падкормкі паджараным зярном. У якасці падкормкі з 15—18-дзеннага ўзросту даецца перш за ўсё ў невялікай колькасці чыстае, свежае, ад здаровай каровы малако. У першыя 2—3 дні падкормкі даволі даць на пamёт за адзін раз 0,5 літра. Адначасова з малаком падкармліваюць парасят паджараным зярном-мешанкай аўса і ячменю. Паяданне зернавых кармоў малымі парасятамі мае значэнне для развіцця і ўмацавання зубоў, жавальных мускулаў, стрававальных органаў. Парасяты, якія добра ядуць зярно, будуць хутка і добра паядаць усе іншыя кармы і ў старэйшым узросце. З пачатку 3-й дэкады парасятам скармліваецца мешанка мукі з рознастайных зернавых кармоў: ячменнай, аўсянай мукі, пшанічных высеваk, гарохавай, вікавай дзерці. У мешанку з зернавых кармоў парасятам пажадана дадаваць сенную муку з канюшыны, скошанай да красавання, або муку з вікі і аўса, скошаных у час красавання. Зернавая дзерць даецца адразу ў невялікай колькасці: 0,2—0,4 кгр. на пamёт. Змешваецца яна спачатку звычайна з цэльным, а пасля са знятым малаком і скармліваецца ў выглядзе густой кашыцы. Пры невялікай колькасці малака мешанка разводзіцца летняй вадою і трохі забельваецца малаком. Пры ўжыванні малой колькасці малака да зернавых кармоў пажадана дадаваць другія кармы жывёльнага паходжання, як крывяная, мясакасцяная ці рыбная мука ў колькасці 5 проц. (5 кгр. на 100 кгр. мешанкі) для таго, каб замяніць поўнацэнны бялок малака поўнацэнным бялком адзначаных кармоў жывёльнага паходжання. Карміць парасят трэба чатыры разы ў суткі.

З узростам парасят колькасць кармоў павялічваецца паступова з такім разлікам, каб к двухмесячнаму ўзросту, г. зн. к ад'ёму, на адно

парася скарміць: малака цэльнага 8—10 кгр. і знятага—да 10 кгр. або, замест знятага малака, 2—3 кгр. кармоў жывёльнага паходжання (крывяная, мясакасцяная ці рыбная мука); зернавой мешанкі 6—8 кгр., зярна цэльнага 5,6—6,5 кгр. Трэба яшчэ раз падкрэсліць: для паспяховага вырошчвання парасяты павінны атрымліваць корм, багаты бялком, мінеральнымі матэрыямі. У добрую мешанку павінна ўваходзіць: ячменнай мукі 40—50 проц., прасеянай аўсянай 20—30 проц., высевак пшанічных 15 проц., мукі бабовых або макухі 10 проц., кармоў жывёльнага паходжання 5 проц.

Акрамя добраякаснага кармлення, парасятам трэба забяспечыць і добры догляд. Асноўнае ў доглядзе—належнае памяшканне, чыстае паветра. Свінарнік для апаросу і гадоўлі маладняка павінен быць светлы, сухі і цёплы. Вільгаць у свінарніку—галоўны біч парасят. У сырых свінарніках накапліваецца многа шкодных газаў, вуглекіслаты, аміяка, якія атручваюць арганізм парасяці і служаць прычынай паносаў. Сухі свінарнік—зарука здароўя, хуткага прыросту парасят, добрага скарыстання корму. Што датычыць тэмпературы, то галоўнае, каб яна надта не хісталася, а была роўнамернай: 6—8°С, у апаросным аддзяленні 8—10°С.

Свежае паветра ў свінарніку дасягаецца правільнай вентыляцыяй, якая знішчае вільгаць. Памяшканне можна праветрываць праз вокны і дзверы ў ціхія бязветраныя дні, каб не было скразнякоў. Для вентыляцыі ў свінарніку ўстанаўляюць спецыяльныя трубы сістэмы Кінга.

Прагулку парасятам абавязкова забяспечыць як зімой, так і летам, за выключэннем дзён з халоднымі скразнымі ветрамі. Прагулкі пачынаць з 5-га і не пазней 10-га дня пасля нараджэння, у залежнасці ад здароўя парасят. Летам парасят гоняць на пашу. Пры прагулцы зімою, каб парасяты не стаялі і не зяблі, іх трэба паганяць па двары, пакуль не пачырванеюць вушы, лычык, а пасля—заганяць у свінарнік. Пры правільнай прагулцы прастуды не наглядаецца. Працяглaсць прагулак залежыць ад здароўя парасят. Трымаць парасят без прагулак больш 10 дзён пасля нараджэння нельга. Назіранні паказваюць, што парасяты без прагулак ужо з 5-ці дзён, асабліва да 20 дзён, пачынаюць бляднець, шэрсць з бліскучай робіцца матавай, скура жаўцее, развіваецца панос, які цяжка вылечыць, ды і пасля выздараўлення парасяты застаюцца заморкамі, недаросткамі.

Выпускаць зімою і вясной парасят з маткай на прагулку трэба кожны дзень. Летам пускаць на пашу, на свежае паветра, паступова прывучаючы да зялёнага корму, аберагаючы ад сонечных апёкаў, для чаго выбіраць не асабліва гарачы час дня. У соўгасах і калгасах яшчэ і цяпер глядзяць на прагулку свіней скрозь пальцы, як на «дробязь». На справе-ж без прагулак немагчыма выгадаваць здаровых парасят.

## Мінеральная падкормка

Парасятам трэба даваць мінеральную падкормку, без чаго к двухдэкаднаму ўзросту яны пачынаюць бляднець, робяцца вялымі, у іх пачынаецца панос—гэта страшная хвароба, якая губіць шмат парасят увосень, зімою і нават ранняй вясной. Мінеральную падкормку з 3—5-дзеннага ўзросту рэкамендуецца даваць асобна ў дрыўляных карытцах. Такім чынам, парасяты забяспечваюцца матэрыямі, якіх не хапае ў малацэ маткі, і перастаюць піць жыжу, паядаць кал, грызці падлогу.

У якасці мінеральнай падкормкі можна ўжываць мешанку з адмучанай у вадзе крэйды, вапняка, вугалю, дрэўнага попелу, а таксама сухую чырвона-жоўтую гліну, якая асабліва карысна, бо ў ёй знаходзіцца окісь жалеза, неабходнага для выпрацоўкі крыві. Гэту мешанку мінеральных матэрый можна даваць парасятам з 5—10-дзённага ўзросту. Забрудненыя мінеральныя падкормкі не павінны стаяць у станку. Каб карыта з падкормкай не так хутка забрудняласся, яго можна троху прыпадняць над полам і прымацаваць да сценкі. Парасятам, якія хварэюць паносам, не трэба даваць мінеральнай мешанкі, акрамя вугалю.

**Адыманне парасят ад маткі**

Парасят адымаюць, калі яны стануць настолькі дужыя і прызвычаяцца да падкормкі, што лёгка могуць перайсці на самастойнае кармленне. Практыка паказвае, што парасят трэба адымаць у 2-х месячным узросце пры жывой вазе 10—12 і больш кгр. Можна зрабіць гэта двума спосабамі: або ўсіх парасят адняць адразу, або толькі мацнейшых, пакінуўшы слабейшых на 5—10 дзён пад маткай для большага ўмацавання. Пры адыманні парасят нельга дапусціць рэзкіх змен у кармовым рэжыме, каб не папсаваць вымя маткі, якая ў такіх неасцярожных выпадках схільна да хваробы, што часта бывае з малочнымі маткамі. За пару дзён да ад'ёму парасят матцы неабходна зменшыць рацыён, давёўшы яго да нормы халастой маткі. З рацыёна трэба выключыць усе малакагонныя кармы, як коранэплоды і інш. Корм даваць у густым выглядзе.

Ад'ём парасят звычайна расцягваецца на 3—5 дзён як пры поўным ад'ёме, так і пры дыферэнцыяваным. Парадак подпуску парасят пад матку: у першы дзень 3—4 разы ў суткі, потым 3 разы—рана, апаўдні і ўвечары, пасля два разы, адзін раз і зусім подпуск канчаюць, пераводзячы парасят на самастойны корм. Пры подпуску доўга трымаць парасят пад маткай нельга, каб не рассасвалі вымя, і зараз-жа адымаць як толькі высцуць малако. Матка пры подпуску парасят звычайна правяраецца на малакоаддзяленне: калі на 3—4 дзень малако з саскоў выдзяляецца інтэнсіўна, то парасят падпускаюць да таго часу, пакуль малако не перастане выдзяляцца амаль што зусім. У першыя 1—1.5 дэкады пасля адсадкі парасят карміць так, як і да адсадкі, павялічваецца толькі колькасць корму. Ад'ёмышаў кормяць звычайна 4 разы, забяспечваюць іх малаком, каб не затармазіць рост парасят. На працягу адной-паўтара дэкад парасятам даецца ад чверці літра малака да палавіны літра, у залежнасці ад стану здароўя, энергіі і росту. Калі ёсць лішак малака—норму мэтазгодна павялічыць.

У далейшым захоўваюцца тыя ўмовы кармлення і догляду, аб якіх ужо гаварылася вышэй:

1. Кармы павінны быць багаты поўнацэнным бялком, мінеральнымі матэрыямі і вітамінамі для інтэнсіўнага росту, развіцця мускулатуры ўнутраных органаў, пабудовы моцнага касцяка, нармальна здаровых форм цела і для агульнага нармальнага абмену матэрый у маладым організме.

2. Прагулкі на свежым паветры на працягу ўсяго года, а летам—на пашы.

3. Светлае, сухое, чыстае і цёплае памяшканне з дрыўлянай падлогай, сухі насціл. Назіранні паказалі, што вільгаць і для ад'ёмышаў з'яўляецца галоўным ворагам іх здароўя, сілы і росту.

**Бойко В. С.**

## Кніжная паліца

**ЛЕНІН В. І. Новыя часы, старыя памылкі ў новым выглядзе. Аб значэнні золата цяпер і пасля перамогі соцыялізма.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 16, ц. 10 к.

У першым артыкуле Ленін выкрывае дробна-буржуазныя хістанні і панікёрства меншавіцтвуючых і анархісцкіх элементаў на розных этапах соцыялістычнай рэволюцыі, іх нявер'е ў сілы і магчымасці рабочага класа, іх капітуляцыю перад буржуазіяй. Рэфармісцкаму капітулянцтву і ультралеваму «рэволюцыянерызму» процістаўляецца дзелавая, цвярозая практычная работа нашай партыі па ўмацаванню заваёў пролетарскай рэволюцыі, уздыму прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Другі артыкул з уласцівай Ільічу чоткасцю, сцісласцю і глыбінёй раз'ясняе сутнасць пераходу ад ваеннага комунізма к нэпу.

**ЛЕНІН В. І. Эканоміка і палітыка ў эпоху дыктатуры пролетарыята.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 18, ц. 15 к.

Работа напісана ў 1918 г, у ёй падкрэсліваецца асноўнае пытанне марксізма—вучэнне аб дыктатуры пролетарыята, аб суадносінах паміж эканомікай і палітыкай у эпоху дыктатуры пролетарыята, даецца аналіз класавых сіл у нашай эканоміцы, разаблачаюцца лакеі буржуазіі—тэарэтыкі II Інтэрнацыянала, якія прапаведваюць мірны пераход ад капіталізма к комунізму; гаворыцца аб будаўніцтве новага грамадства і шляхах соцыялістычнай пераробкі сельскай гаспадаркі:

**СТАЛІН. Аб Леніне.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 32, ц. 30 к. (на яўр. мове)

Перад намі дзве работы тав. Сталіна аб арганізатару і правадыру большэвізма—аб Леніне: 1. Ленін, як арганізатар і правадыр ВКП(б) (артыкул да 50-годдзя з дня нараджэння Леніна—«Правда» № 86 за 1920 г.); 2. Аб Леніне—прамова на вечары крэмлёўскіх курсантаў 28 студзеня 1924 г.

Гэтая-ж кніжка выдана і на беларускай мове.

Ізложаныя факты аб асаблівасцях Леніна як чалавека і як палітычнага дзеяча прадстаўляюць сабой сціслае гістарычнае абагульненне ўсяго партыйна-жыццёвага шляху Уладзіміра Ільіча ў яго барацьбе за партыю рабочага класа новага тыпу, бліскуча паказана, якім павінен быць большэвік і стыль яго работы.

Няма ў літаратуры больш глыбокай і адначасова такой выключна яркай характарыстыкі Леніна, чым характарыстыка, даная тав. Сталіным.

**ПАКРОЎСКІ М. Н. Аб Леніне.** Зборнік артыкулаў і ўспамінаў.

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 24, ц. 20 к.

У гэтым зборніку сабрана некалькі артыкулаў і ўспамінаў М. Н. Пакроўскага аб В. І. Леніне, друкаваўшыхся ў «Правде» у розны час.

Артыкул «Правадыр» быў напісан у 1920 г., да 50-годдзя з дня нараджэння Владзіміра Ільіча і дае характарыстыку Леніна, як правадыра пролетарскай рэволюцыі.

Артыкулы аб ролі Леніна ў развіцці народнай асветы і будаўніцтве вышэйшай школы напісаны тав. Пакроўскім у 1924 г. непасрэдна пасля смерці Владзіміра Ільіча.

Артыкул «Як нараджаўся імперыялізм» рысуе карціну тых умоў, у якіх была задумана, напісана і павінна была з'явіцца ў друку выдатная работа Леніна «Імперыялізм, як навейшы этап капіталізма».

Артыкулы, сабраныя ў гэтым зборніку, пры жыцці аўтара не перавыдаваліся.

**РЭЗАЛЮЦЫІ XVII З'ЕЗДА ВКП(б).**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 95, ц. 90 к.

У гэтай невялікай, добра аформленай кніжцы змешчаны рэзалюцыі з'езда па адчотнаму дакладу тав. Сталіна аб рабоце ЦК ВКП(б), тав. Рудзутака аб рабоце ЦКК РСІ, тав. Мануільскага аб рабоце дэлегацыі ВКП(б) у ВККІ, тт. Молатава і Куйбышэва аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР і тав. Кагановіча аб арганізацыйных пытаннях.

У канцы змешчан новы статут Усесаюзнай комуністычнай партыі, прыняты з'ездам, і прыведзен састаў кіруючых органаў партыі.

Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР імя Леніна.



